# ЛІТАРАТУРА і мастацтва




17 сакавіка 2006 г. № 11/4350

## 19 САКАВІКА – ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗА МОЦНУЮ І КВІТНЕЮЧУЮ КРАІНУ!

Маляўнічымі імпрэзамі, новымі канцэртнымі праграмамі, творчымі сустрэчамі прайшоў па ўсёй нашай краіне Рэспубліканскі фестываль-акцыя "Майстры мастацтваў — за моцную і квітнеючую Беларусь". І далёка ад сталіцы, і ў самым цэнтры Мінска шчыравалі артысты: цудоўныя ўзоры нацыянальнага фальклору, акадэмічныя жанры, высокая класіка, лепшыя эстрадныя песні ў іх выкананні знаходзілі свайго чулага гледача. У суквеццi талентаў, поруч са сталымі майстрамі, быў і адзін з нашых самых маладых творчых калектываў — Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь. Не так даўно споўнілася тры гады з часу яго заснавання. Толькі тры гады — але якая разнабаковая і плённая творчасць, якое шырокае прызнанне! Удзел у фестывалях, правядзенне гастрольных тураў па Беларусі з вядучымі салістамі, асваенне ўсё новага рэпертуару. Ажыццяўленне сур'ёзнага творчага праекта, прысвечанага 60-годдзю Вялікай Перамогі. Добрай традыцыяй зрабіліся "Вечары з Прэзідэнцкім аркестрам" у Малой зале Палаца Рэспублікі...

Так, маладому аркестру далёка яшчэ да свайго першага афіцыйнага юбілею. Ды і музыкантам, якія тут іграюць, — таксама. Бо ўсе яны, пераважна, выхаванцы музычных навучальных устаноў. І мастацкі кіраўнік, галоўны дырыжор Віктар Бабарыкін, выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, можна сказаць, — іх равеснік. Нягледзячы на свой малады ўзрост, маэстра мае вопыт паспяховага супрацоўніцтва з рознымі маладзёжнымі калектывамі. Таму невыпадкова менавіта Віктару Бабарыкіну даверылі ўзначаліць Прэзідэнцкі аркестр.

Будучыня нашага музычнага мастацтва вызначаецца творчасцю маладых. І сур'ёзна клапоціцца пра музычную будучыню Беларусі спецыяльны фонд Прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі, 10 гадоў з часу заснавання якога мы нядаўна адзначылі. Беларусь, як вядома, мае вельмі таленавітую і высокаадукаваную музычную моладзь, і дзяржава шмат робіць для таго, каб юныя таленты былі своечасова заўважаны, падтрыманы, каб яны мелі належныя ўмовы для развіцця і набылі высакакласную прафесійную адукацыю. Таленавітыя, адукаваныя, натхнёныя. Захопленыя творчасцю. Маладыя музыканты Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь сустракаюць новую вясну!

*Фота. М. ЗАМУЛЕВІЧА*

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

### МУЗЫКА, ПЕСНЯ, ПАЭТЫЧНЫЯ СЛОВЫ

Грамадскае аб'яднанне "Саюз пісьменнікаў Беларусі" робіць дзейсныя захады дзеля таго, каб літаратары, якія ўваходзяць у склад гэтай творчай суполкі, часцей выступалі перад чытацкай і глядацкай аўдыторыяй. Каб рабіць гэта больш паспяхова, выкарыстоўваюцца і розныя сумесныя мерапрыемствы, прытым і такія, што збіраюць сотні людзей. Так было і ў час нядаўняга канцэрта Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Віктара Бабарыкіна ў вялікай зале Палаца рэспублікі. Прысутныя з вялікім захапленнем слухалі песні ў выкананні заслужанага артыста Беларусі Якава Навуменкі. Не меншае задавальнне ім прыносілі і вершы вядомай паэтэсы Валянціны Палікaнінай у аўтарскім чытанні. Пранікнёныя радкі, у якіх, поруч з іншымі матывамі, гучала тэма кахання, вясны, маладосці, надзіва ўдала стасаваліся да канцэртных нумароў, па-свойму абрамляючы іх, ствараючы ў зале яшчэ больш радасны і святочны настрой.

### ЗАПРАСІЛА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

Гасцямі выдавецтва "Мастацкая літаратура" на днях былі начальнікі і загадчыкі аддзелаў па справах моладзі гар- і райвыканкамаў краіны. Яны, як вядома, пастаянна сутыкаюцца з юнакамі і дзяўчатамі, ведаюць іх запатрабаванні, добра арыентуюцца ў тым, што чытае сучасная моладзь, якія кнігі яе найперш цікавяць. І, вядома ж, па магчымасці з задавальненнем расказваюць аб тым, што выходзіць у дзяржаўных выдавецтвах. У гэтых адносінах кнігі "МЛ" асабліва запатрабаваны, бо яны, як правіла, напісаны на высокім мастацкім узроўні.

Аб тым, чым жыве сёння адно з вядучых выдавецтваў краіны, пра кніжныя навінкі, што нядаўна пабачылі свет, а таксама пра найбольш цікавае з таго, што знаходзіцца ў выдавецкім партфелі, расказалі гасцям галоўны рэдактар "Мастацкай літаратуры" Віктар Праўдзін і ягоны намеснік Віктар Шніп — абодва вядомыя літаратары, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі. І, зразумела, пазнаёмілі прысутных са сваімі кнігамі.

Для В. Шніпа, гэтая сустрэча, у прыватнасці, была прыемнай яшчэ і таму, што ў яго толькі што выйшла новая кніга "Балада камянёў", у якой пад адной вокладкай сабраны паэзія і проза. Пры тым дзённікавыя запісы вельмі ўдала стасуюцца з паэтычнымі радкамі, дазваляючы яшчэ лепш спасцігнуць душу лірычнага героя, а за ягоным абагульненым вобразам убачыць і нашага сучасніка, які жыве, кахае, актыўна выяўляе сваю грамадзянскую пазіцыю.

У сустрэчы прынялі ўдзел таксама сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Марціновіч і маладая пісьменніца Алена Масла, якая паспела хораша праявіць сябе ў жанры казкі. А. Марціновіч пазнаёміў са сваёй кнігай "Сполахі далёкіх зарніц", што адкрыла серыю "МЛ" "Гісторыя ў асобах", а А. Масла — пра зборнік казак "Таямніца закінутай хаты".

Літаратары ахвотна падпісвалі гасцям свае кнігі. Асаблівай папулярнасцю карысталася кніга В. Праўдзіна "Шлях да Галгофы", што і не дзіўна, бо В. Праўдзін на сённяшні дзень з'яўляецца адным з прызнаных майстроў беларускага дэтэктыўна-прыгодніцкага жанру.

**Мікола САЕНКА**

# ПІСЬМЕННІКУ, ВУЧОНАМУ, ЧАЛАВЕКУ

**У чытальнай зале аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя выстаўкі "Шматграннасць таленту", арганізаванай супрацоўнікамі бібліятэкі на чале з загадчыкам аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Аляксандрам Сцефановічам. Прысвячалася яна 110-й гадавіне з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі, акадэміка АН Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы, заслужанага дзеяча навукі нашай краіны Кандрата Крапівы (1896 — 1991).**



На адкрыцці прысутнічалі шматлікія навуковыя супрацоўнікі, бібліятэкары, прыхільнікі творчасці літаратара, журналісты... Распачаў мерапрыемства ўступным словам доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі Сцяпан Лаўшук. Сцяпан Сцяпанавіч расказаў прысутным пра грамадскую і творчую дзейнасць К. Крапівы, пра яго ўдзел у літаратурных аб'яднаннях "Маладняк" і "Узвышша", падкрэсліўшы, што з адметнымі п'есамі Кандрата Кандратавіча трывала звязваюць станаўленне беларускага нацыянальнага тэатра. Слова таксама бралі дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі Аляксандр Лакотка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка, сваякі пісьменніка: вучоны сакратар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі Алена Атраховіч ды Зоя Атраховіч. Дарэчы, у адным з апошніх нумароў тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" змешчаны сардэчныя ўспаміны Алены Атраховіч пра свайго славутага дзеда.

Актыўная, разнастайная творчая і грамадская дзейнасць Кандрата Крапівы — паэта-сатырыка, байкапісца, празаіка, драматурга, крытыка, вучонага-даследчыка, віцэ-прэзідэнта АН БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР — прынесла яму шырокую вядомасць не толькі ў сваёй краіне, але і далёка па-за яе межамі.

Многія з яго неўміручых сатырычных твораў і на сённяшні дзень не страцілі сваёй актуальнасці, з'яўляюцца своеасаблівай школай мастацкага майстэрства.

Юбілейная экспазіцыя адлюстроўвае асноўныя этапы жыцця і дзейнасці Кандрата Кандратавіча і складаецца з некалькіх раздзелаў, прыкладам: "Пачатак творчай дзейнасці", "К. Крапіва — драматург", "У НАН Беларусі", а таксама пра К. Крапіву як перакладчыка і пераклады яго ўласных твораў. А сярод экспанатаў — шматлікія матэрыялы з асабістага архіва пісьменніка: дакументы біяграфічнага характару, творчыя рукапісы, узоры эпісталярыя, цікавыя фотаздымкі, па-мастацку афармленыя віншавальныя адрасы ды інш.

Таксама на выстаўцы шырока прадстаўлена друкаваная спадчына К. Крапівы, пачынаючы ад асобных публікацый на старонках перыядычнага друку і да грунтоўных збораў твораў пісьменніка.

А завяршае экспазіцыю раздзел, што ўвабраў у сябе шматлікія матэрыялы ды даследаванні, прысвечаныя Кандрату Крапіве — пісьменніку, вучонаму, чалавеку...

Бо акрамя творчасці і грамадскай дзейнасці, як адзначае Алена Атраховіч: "Ім валодала велізарная любоў да сваіх блізкіх. Я, як ніхто, добра ведаю, як многа значыла для Кандрата Кандратавіча яго сям'я. Чалавек глыбока эмацыянальны, але надзвычай стрыманы ў праявах гэтых эмоцый, нават суровы, ён вельмі мала гаварыў пра гэта, а проста пяшчотна любіў сваю сям'ю".

**В. КАВАЛЁЎ**

***Фота аўтара***



# З КРЫНІЦ ЖЫВАТВОРНЫХ

Спрадвеку родная зямля натхняла капылян на ўсхваленне яе непаўторнай прыгажосці, шчодрасці і багацця ў вершах, песнях, танцах. Любоў да роднага звязала разам людзей, якія тонка і дакладна адчуваюць свае вытокі, імкнуцца захаваць іх і данесці да ўдзячнай публікі. Гэтыя людзі — удзельнікі народнага ансамбля народнай песні «Спадчына» Капыльскага раённага Цэнтра культуры.

У песнях, што спявае «Спадчына», — гукі і музыка далёкіх продкаў, знаёмая нам з калыскі. Яркія і маляўнічыя выступленні артыстаў заваражваюць сваім майстэрствам і надоўга застаюцца ў памяці слухачоў.

На працягу ўжо 20 год вядзе ансамбль па жыцці яго арганізатар і нязменны кіраўнік, цудоўны педагог і незвычайнай душы чалавек Валянціна Зарамбоўская. Пасля заканчэння Мінскага інстытута культуры па спецыяльнасці «арганізацыя і методыка клубнай работы» ў маладой дзяўчыны з'явілася ідэя стварыць свой калектыў. А ўвасабленнем мэты стаў ансамбль народнай песні «Спадчына». У яго складзе налічвалася 10 чалавек, у асноўным моладзь. У той час, калі Валянціна рыхтавалася стаць маці, ансамбль фактычна перастаў існаваць.

...Закрануць найтанчэйшыя струны душы, данесці да кожнага чалавека прыгажосць музыкі і песень — такую задачу паставілі перад сабой Валянціна Зарамбоўская і Тамара Шкірыч, тадышняя загадчыца ЗАГСа, якія аднаўлялі творчую дзейнасць калектыву і аб'ядналі вакол сябе супрацоўнікаў з розных арганізацый, людзей творчых і несумненна таленавітых.

З гадамі мяняўся склад ансамбля, але нязменнымі заставаліся яго слава і павага капылян. З дня заснавання спявае ў ім Леанід Матус. Сярод удзельнікаў людзі рознага ўзросту (старэйшаму — 60 год, самаму малодшаму — 17), розных прафесій (эканаміст Наталля Карунная, бухгалтары Лідзія Фінкевіч і Валянціна Радкевіч, супрацоўнікі аддзела культуры Капыльскага райвыканкама Галіна Гурло, Людміла Кудрачова, Іван Нічэпурэнка, самая юная артыстка, "узыходзячая зорка" Вераніка Вердтнік і інш. У ансамблі працуе выдатны канцэртмайстар Аляксандр Гапановіч. У стварэнні танцаў дапамагае балетмайстар Алена Дзямідчык. Усяго — 21 удзельнік, і аб'ядноўвае іх жаданне спяваць.

Ужо пасля першага выступлення пачалося цікавае і яскравае жыццё. Ансамбль запрашалі на розныя святы: прафесійныя і народныя. Ён прымаў удзел у абласных аглядах-конкурсах мастацкай самадзейнасці, выступаў на Беларускім тэлебачанні ў праграме «Добрай раніцы, Беларусь!». «Спадчына» была жаданым госцем у Кіеўскай вобласці, дзе ўдзельнічала ў шматлікіх канцэртах сумесна з народным аркестрам «Капыльскія дудары». Творчы почырк ансамбля вызначае як яркая індывідуальнасць кожнага выканаўца, так і ўсяго калектыву ўвогуле, рознабаковы рэпертуар, у які ўваходзяць беларускія і рускія народныя песні, мясцовы фальклор. Для кожнай песні знаходзяцца свае непаўторныя фарбы, якія напаўняюць іх асаблівым лірычным пачуццём. Народныя песні ў інтэрпрэтацыі ансамбля будзяць у слухачоў усё самае лепшае і патаемнае, і нясуць заўжды добры настрой. Яскравыя старонкі «Спадчыны»: абрады «Шчадрэц», «Каляды», «Зажынкі», «Дажынкі», «Купалле», а таксама і вясельны абрад. За імкненне падняць на дастойную ступень беларускую нацыянальную культуру калектыў узнагароджаны Ганаровымі граматамі аддзела культуры і дыпломам Саюза кампазітараў РБ, дыпломам II Усебеларускага фестывалю народнага мастацтва і інш.

Зараз ансамбль носіць званне "народны самадзейны калектыў" і працягвае свае слаўныя традыцыі.

Ідзе ад «Спадчыны» да людзей станоўчая энергія, дабрыня і шчырасць. Умеюць яны «заразіць» сваім мастацтвам слухачоў, прымусіць трапятаць струны іх душы. Калектыў дорыць нам упэўненасць, што беларуская песня, як і мова, культура, заўсёды будуць належаць беларусам.

**Таццяна АНІСКАВЕЦ**

## ЛЮБІМАЯ МУЗЫКА РЭРЫХАЎ

На пачатку сакавіка ў сценах Дома дружбы адбылася творчая вечарына, прысвечаная знакамітаму сямейству Рэрыхаў. Яе арганізатарамі выступіла Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, а таксама Таварыства дружбы "Беларусь-Індыя".

Індыя стала другой радзімай для гэтай знакамітай сям'і. Рэрыхі спасцiглі духоўныя крыніцы далёкай краіны, унеслі ў іх свой струменьчык...Часта яны збіраліся разам са сваімі індыйскімі сябрамі і слухалі класічную музыку. Сярод іх — Індзіра і Раджыў Гандзі, Рабіндранад Тагор ды многія іншыя. Арганізатары вечарыны паспрабавалі стварыць атмасферу рэрыхаўскай гасцінай, а дапамагалі ім у гэтым студэнты Акадэміі музыкі. З прамовай выступіла Нэла Германава, старшыня Беларускага аддзялення грамадскай арганізацыі "Міжнародны народны цэнтр Рэрыхаў".

Сімвалічна і тое, што ў вечарыне прынялі ўдзел прадстаўнікі Пасольства Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь.

**Сяргей ДУБОВІК**

## УЗВЫШАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

У бягучым годзе спаўняецца 80 гадоў з часу ўтварэння літаратурнага аб'яднання "Узвышша" і 120 гадоў з дня нараджэння празаіка і паэта Змітрака Бядулі. Гэтыя дзве падзеі вызначаць тэматыку сёлетніх Узвышаўскіх чытанняў, якія арганізуюць Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ды Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі.

Чытанні адбудуцца 26 мая 2006 года ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва па адрасе: Мінск, вул. Кірылы і Мяфодзія, 4.

Запрашаем усіх жадаючых і прапануем накіроўваць заяўкі да 15 мая 2006 г. па наступных тэмах:

"Узвышша" і беларуская літаратура",

"Зм. Бядуля: жыццё і творчасць".

Па выніках чытанняў прадугледжваецца выданне зборніка матэрыялаў.

**Н.К.**

# МАЙСТАР-КЛАС ДЛЯ ЖУРНАЛІСТАЎ

На тры лютаўскія дні спыніўся так званы "мёртвы" сезон у спартыўна-аздараўленчым комплексе Белдзяржуніверсітэта "Брыганціна", што пад Радашковічамі. Менавіта тут праходзіў выязны семінар-практыкум "Зімовая школа студэнцкай журналістыкі". Ідэя БДУ знайшла падтрымку ў Міністэрства адукацыі і гарвыканкама. У выніку каля 200 студэнтаў з розных рэгіёнаў Беларусі з'ехаліся сюды, каб прадставіць свае малатыражныя выданні на конкурс, павучыцца адзін у аднаго, паслухаць парады старэйшых майстроў журналістыкі. Звыш 60 газет з 42 ВНУ (з іх 7 прыватных) рэспублікі бралі ўдзел у конкурсе. Журы мусіла вызначыць пераможцаў у пяці намінацыях: "Лепшая газета ВНУ", "Лепшая факультэцкая газета", "Лепшы дызайн", "Лепшая публікацыя на патрыятычную тэму", "Прыз сімпатый гледачоў".



Але журналісцкая школа на тое і школа, каб акрамя самога конкурсу, дыскатэк (якія, дарэчы, сталіся прыемным сюрпрызам для моладзі), псіхалагічных трэнінгаў-гульняў, знаёмстваў і творчасці, праходзілі і заняткі. Не толькі адпачываць прыехалі сюды будучыя журналісты, але і вучыцца. Нават у выхадныя дні. Майстар-клас праводзілі вядучыя выкладчыкі факультэта журналістыкі БДУ. Сярод іх — намеснік дэкана А.А. Градзюшка, доктар філалагічных навук В. І. Іўчанкаў, загадчык метадычнага цэнтра студэнцкага гарадка БДУ І.А. Хазеева і іншыя. Гаворка вялася аб праблематыцы студэнцкіх газет, іх стылістычных і моўных асаблівасцях, маладзёжных інтэрнэт-СМІ. Падрабязна аналізаваліся асноўныя прынцыпы дызайну і вёрсткі. Закраналіся і пытанні маладзёжнага тэле- і радыёвяшчання. А студэнцкая інфармацыйная служба БДУ падзялілася сваім вопытам работы. Заняткі праходзілі па секцыях і адрозніваліся ад звычайных магчымасцю ўслых выказваць свае думкі, дзяліцца ўласным журналісцкім вопытам.

Але, бадай, найважнейшай часткай мерапрыемства стала сустрэча з міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь А.М. Радзьковым, а таксама з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь І.В. Карпенкам. Міністр спецыяльна прыехаў у "Брыганціну", каб студэнты мелі магчымасць пачуць кампетэнтныя адказы на свае пытанні, якія тычыліся, дарэчы, не толькі журналістыкі. Прысутных цікавілі і новыя правілы прыёму ў ВНУ, і сацыяльныя гарантыі, правы, ільготы. Студэнтаў прыватных ВНУ хвалявала перспектыва развіцця падобных устаноў вышэйшай адукацыі ў нашай рэспубліцы, а таксама рэальная сітуацыя, якая склалася з недзяржаўнымі інстытутамі. На гэты конт міністр заначыў: "Усе ВНУ з'яўляюцца дзяржаўнымі, адрозніваецца толькі форма ўласнасці". Але пры гэтым ён папярэдзіў, што за якасцю адукацыі ў такіх установах будуць сачыць вельмі пільна. Закрануў Аляксандр Міхайлавіч таксама праблему зніжэння нараджальнасці, некаторыя ідэалагічныя пытанні. Бо менавіта моладзь у адказе за будучыню Беларусі.



Абудзіць патрыятызм у студэнтаў быў закліканы і конкурс плакатаў "За моцную і паспяховую Беларусь". Тое, наколькі выдатна здолелі калектывы рэдакцый справіцца з гэтым заданнем, здзівіла і саміх арганізатараў, асабліва калі ўлічыць, што паміж заняткамі, сустрэчамі і паходамі ў сталоўку вольнага часу ў студэнтаў амаль не было. Лепшым быў прызнаны плакат маладых журналістаў з Гродна. Адзначаны таксама работы рэдакцыйных калектываў газет "Пёры" (журфак БДУ) і "Vita" (факультэт біялогіі БДУ).

Што тычыцца галоўнага конкурсу перыядычных выданняў, то тут палову прызавых месцаў, вядома ж, заняў БДУ. "Вядома" — не таму, што ВНУ з'яўляецца арганізатарам "Зімовай школы", а таму, што яго выданні сапраўды якасныя. Газета "Адваротная сувязь" перамагла ў намінацыі "Лепшы дызайн". "Лепшай газетай факультэта" стала вышэй згаданая "Vita". Але "Лепшымі газетамі ВНУ" былі вызначаны "Шкаляр" Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, "Веснік БНТУ", а таксама газета Полацкага дзяржаўнага універсітэта (першае, другое і трэцяе месцы адпаведна). Адзінай прыватнай ВНУ, якая атрымала дыплом (трэцяе месца ў намінацыі "Лепшы дызайн газеты"), стаў Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва (Мінск).

Баявы настрой не знік і пасля ўзнагароджання: скончылася "Зімовая школа" снежнымі баталіямі перад самым ад'ездам. Прычым "гульні ў снежкі" не цураліся і некаторыя з арганізатараў, якія, між іншым, паабяцалі праз два гады правесці чарговы "злёт" ва ўжо адрамантаванай "Брыганціне" з новай кацельняй. А ці не лепей было б зрабіць "Зімовую школу" — летняй?

**Вольга ШАКАЛЬ**

***Фота М.Мархель***

# «ГЭТА Ж ТУТ, НА ЛАГОЙШЧЫНЕ...»

**Два дзесяцігоддзі таму ў жыцці калектыву СШ №1 горада Лагойска адбылася цікавая падзея. Тут распачаў сваё жыццё школьны музей «Літаратурная Лагойшчына».**

Актыўна спрычынілася да літаратурнага краязнаўства і музейнай справы настаўніца беларускай мовы і літаратуры Вера Рыгораўна Саўрыцкая. Менавіта дзякуючы яе старанням быў сабраны і сістэматызаваны багаты матэрыял, які і склаў змест музейнай экспазіцыі.

На стэндах і ў вітрынах шырока прадстаўлена жыццё і творчасць паэтаў і празаікаў, што нарадзіліся і ўзраслі ў гэтым краі, хто навек парадніўся з Лагойшчынай. Найперш, гэта вялікі пясняр беларускага народа Янка Купала, сорак гадоў жыцця якога непарыўна звязана з тутэйшымі мясцінамі, а болей за ўсё — з Акопамі. Лагойшчына сталася радзімай для Змітрака Бядулі і Леапольда Родзевіча і амаль родным кутам для Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), значная частка жыцця якога прайшла ў вёсцы Карпілаўка. Ганарацца лагайчане і такімі слыннымі землякамі, як



Ніл Гілевіч, Іван Пташнікаў, Мікола Гіль, Сяргей Давідовіч, Міхась Зарэмба. На гэтай зямлі жылі і тварылі Барыс Мікуліч, Міхась Клімковіч, Галіна Каржанеўская, Алесь Ставер, Уладзіслаў Нядзведскі ды іншыя. Літаратурныя традыцыі Лагойшчыны памнажаюць надзеленыя талентам творцы, якія аб'яднаны ў літаратурную суполку «Рунь». Творы Міколы Лешчуна, Міколы Захаранкі, Сяргея Рабчуна, Ірыны Грыгор'евай друкуюцца не толькі ў мясцовым «Родным краі», але і на старонках сталічных літаратурных выданняў.

Пра ўсё гэта і вялася шчырая, эмацыянальная размова на вечарыне, прысвечанай 20-годдзю школьнага літаратурнага музея. Цёпла віталі на сустрэчы ў актавай зале мінскіх гасцей — паэта і мастака Сяргея Давідовіча, нястомнага даследчыка і літаратурнага краязнаўцу Уладзіміра Содаля, сына З. Бядулі — Яфіма Плаўніка, супрацоўніцу Літаратурнага музея Я. Купалы Людмілу Давідоўскую. Свае выступленні, віншаванні яны падмацоўвалі падарункамі. Так, С. Давідовіч перадаў у дар музею свой новы зборнік гумарыстычных твораў «Развод па-славянску»; Я.С. Плаўнік нагадаў пра вядомага ў свой час паэта Ізраіля Плаўніка, брата З. Бядулі, і падарыў ксеракопіі вершаў з часопіса «Маладняк». Папоўняць музейную экспазіцыю маляўнічыя плакаты, прысвечаныя Янку Купалу — ад Купалаўскага літаратурнага музея і унікальны зборнік А. Варлыгі «Прыказкі Лагойшчыны» — дарунак У. Содаля.

Юбілейная вечарына, да якой у школе старанна і з вялікай адказнасцю рыхтаваліся педагогі і вучні, вылілася ў сапраўднае свята беларускасці. А дзеля гэтага асабліва парупілася цяперашняя загадчыца музея Людміла Станіславаўна Пількевіч і яе калегі.

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ**

## АБСЯГІ

**МАГІЛЁЎШЧЫНА**

### Храналогія падзей

У канцы мінулага года ў Магілёўскай абласной друкарні імя Спірыдона Собаля выйшла ў свет дакументальная кніга "Память время возвратит". У шматлікіх нарысах і ўспамінах расказваецца пра гісторыю стварэння Магілёўскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства глухіх". Распавядаецца пра ветэранаў, якія геранчна змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, пра ўдзел інвалідаў па слыху ў пасляваенным аднаўленні народнай гаспадаркі ды сённяшнюю вытворчую дзейнасць, развіццё культуры, спорту і адукацыі. Сродкі на выданне кнігі выдзеліў Магілёўскі аблвыканкам.

### Абмеркаванне творчасці

Сход Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі абмеркаваў творчасць Міколы Салаўцова з горада Чавусы.

Як паэт, Мікола Салаўцоў вядомы даўно. Яшчэ ў 1958 годзе ў калектыўным зборніку "Прыдняпроўе" былі надрукаваны яго байкі. Шырокую вядомасць аўтару прынеслі творы, якія ён прысвяціў маленькім чытачам. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшлі вершаваныя кніжкі для дзяцей "Вавёрчын веласіпед" (1976), "Чаму плуг не ржавее" (1978).

Гэтыя зборнікі М. Салаўцова вызначаюцца вобразнасцю, напісаны з веданнем дзіцячай псіхалогіі, пашыраюць кругагляд дзятвы, прывіваюць любоў да працы. Глыбакадумнасцю, разважлівасцю пазначаны "дарослыя" вершаваныя зборнікі М. Салаўцова "Азбука зорнага неба" (2000), "Жыцця акорды" (2005), якія пабачылі свет у Магілёўскай абласной друкарні імя Спірыдона Собаля. Шмат карыснага робіць паэт на чале літаратурнага аб'яднання пры Чавускай раённай газеце "Іскра".

Пісьменніцкае аддзяленне рэкамендавала паэта Мікалая Салаўцова да прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "СПБ"**

**ВІЦЕБШЧЫНА**

### Пра справы бібліятэчныя і пісьменніцкія

Напрыканцы студзеня адбылася раённая нарада работнікаў бібліятэк Талачынскай цэнтралізаванай бібліятэкі. Перад прысутнымі выступілі дырэктар ЦБС Фаіна Гіро і загадчыца аддзела маркетынгу Святлана Васкоўская. Падведзены вынікі работы бібліятэк раёна за мінулы год. Прыемна адзначыць, што гэтыя вынікі па ўсіх азначаных паказчыках радуюць, і ў першую чаргу, па прыцягненні ў гэтыя асяродкі культуры чытачоў, далучэнні іх да мастацкага слова.

Удзельнікі нарады не абышлі ўвагай і 85-я ўгодкі з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна. Пра яго творчасць распавёў запрошаны на мерапрыемства мясцовы паэт і журналіст Алесь Мазур. Ён расказаў бібліятэчным работнікам і пра стварэнне ў рэспубліцы новай творчай арганізацыі — Саюза пісьменнікаў Беларусі, якую ўзначаліў вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч Мікалай Чаргінец. Выступоўца зазначыў, што сябры гэтай новай пісьменніцкай суполкі абралі галоўным напрамкам дзейнасці пытанні творчасці ды стварэнне высокамастацкіх твораў.

Таксама А. Мазур паведаміў аб плённай рабоце па прапагандзе лепшых узораў беларускай літаратуры, твораў мясцовых паэтаў і пісьменнікаў, распачатай Віцебскім аддзяленнем СПБ, якое ўзначальвае паэтэса, аўтарка шасці паэтычных зборнікаў, лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі імя Сімяона Полацкага 2005 года Тамара Краснова-Гусачэнка.

**Антон БЯРОЗКІН**

# ДЗЕЙНАСЦЬ ЮНЕСКА НЕ АБМЯЖОЎВАЕЦЦА МІНСКАЙ КАЛЬЦАВОЙ

**Міжнароднае супрацоўніцтва ў разнастайных галінах грамадскага жыцця сёння істотным чынам садзейнічае ажыццяўленню нацыянальных праектаў. Пра спецыфіку дзейнасці ЮНЕСКА ў культурнай сферы і не толькі расказвае старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА, пасол па асобых даручэннях Міністэрства замежных спраў Беларусі Уладзімір ШЧАСНЫ.**



**— Уладзімір Рыгоравіч, на што арыентавана дзейнасць ЮНЕСКА ў культурнай сферы?**

— Асноўны прынцып — гэта дасягненне канкрэтных вынікаў. Ва ўсіх сферах працы ЮНЕСКА галоўным з'яўляецца падтрымка нацыянальных інтарэсаў, якія так ці інакш супадаюць з глабальнымі накірункамі дзейнасці арганізацыі. Мы зыходзім з рэальных патрэб і магчымасцяў абодвух бакоў: міжнароднага і менавіта беларускага. Заўважу, што ў мінулым годзе агульны аб'ём фінансавання ўсёй дзейнасці ЮНЕСКА на Беларусі перавысіў узнос краіны ў 2,5 раза.

**— Скажыце, якім чынам праходзіць працэдура зацвярджэння таго ці іншага праекта?**

— Пасля атрымання прапаноў ад патэнцыяльных выканаўцаў, мы накіроўваем іх на разгляд членамі нашай камісіі, потым праходзіць працэс зацвярджэння штаб-кватэрай ЮНЕСКА. Таму выпадковых праектаў у нас няма.

## Літаратурная віртуалізацыя

**— На ваш погляд, што зроблена найбольш важкага ў сферы літаратуры?**

— Сёння мы жывём у камп'ютэрным стагоддзі, а таму і многія праекты былі звязаны з новымі інфармацыйнымі тэхналогіямі. Тым больш, даўно наспела праблема стварэння электроннай бібліятэкі беларускай літаратуры на CD.

Справа, за якую ўзялася Нацыянальная бібліятэка Беларусі, аказалася даволі складанай. Нават зацвярджэнне канчатковага спісу твораў заняло не адно пасяджэнне, узнікала шмат сур'ёзных спрэчак з удзелам экспертаў, а гэта, па большай частцы, супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН РБ. Нарэшце, было адабрана 1400 твораў перыяду з XI па сярэдзіну XX стагоддзя. Думаю, што наступным этапам праекта будзе стварэнне дыска, прысвечанага літаратуры навейшага часу.

**— Як адабраць найбольш патрэбны і важны твор?**

— Перш за ўсё ацэньваецца роля твора ў кантэксце беларускай літаратуры, а таксама яго запатрабаванасць чытачамі. Справа ў тым, што апошнім часам у бібліятэках адчуваецца недахоп кніг, асабліва ў райцэнтрах. Менавіта таму кожная "раёнка" атрымала такі дыск, што ў пэўнай ступені вырашае праблему недакамплекта фондаў.

Падобны прынцып быў выкарыстаны пры падрыхтоўцы электроннай бібліятэкі школьніка, якая стваралася экспертамі з Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а таксама з дапамогай выкладчыкаў рускай і беларускай мовы сярэдніх школ. На дыску можна знайсці творы са спісаў з абавязковага, дадатковага і пазашкольнага чытання для 9—11 класаў. Дадзены дыск таксама прызначаны для вырашэння праблемы недакамплекта бібліятэчных фондаў. Справа ў тым, што вывучэнне таго ці іншага твора ідзе сістэмна. Напрыклад, на адпаведным тыдні ва ўсіх школах вывучаюць "Новую зямлю", кніг на ўсіх не хапае, а таму ўзнікае перашкода працэсу навучання.

Трэба ўлічваць і тое, што сёння сярэдняя сям'я не ўстане набыць усе неабходныя кнігі, дзеці не любяць чытаць і надаюць большую ўвагу камп'ютэру. CD – самае аптымальнае вырашэнне праблемы і ў цэнавым плане.

**— Як жа цяпер школьнікам карыстацца цытатамі з тэкстаў на занятках? Няўжо цягаць нотбук ці загружаць тэксты ў сучасныя мабільнікі?**

— Мы робім стаўку на сур'ёзнага вучня. Галоўнае ў дадзеным праекце – забеспячэнне доступу да інфармацыі. Думаю, што ў хуткім часе пры падтрымцы Міністэрства адукацыі ці спонсарскай дапамогі іншых арганізацый кожны вучань за мінімальную плату зможа свабодна набыць дадзены дыск.

**— Калі CD будзе зроблены канчаткова?**

— Думаю, у хуткім часе. Зараз плануецца адаптаваць яго і для карыстання вучнямі, якія пазбаўлены зроку. Спецыяльная праграма сінтэзіраваным голасам будзе начытваць тэксты. Такім чынам, сістэма Брайля пастуова адыходзіць у мінулае.

**— А ці ўсё добра на раёне з камп'ютэрным абсталяваннем?**

— Мы зрабілі універсальны дыск, які не патрабуе асаблівых камп'ютэрных рэсурсаў. Сёння ў райцэнтрах хапае даследчыкаў і студэнтаў, якім прасцей знайсці магчымасць працаваць на камп'ютэры дома, чым ехаць па літаратуру ў Мінск.

**— У справаздачы за 2005 год адзначаны і дыск з англамоўнай назвай Belarusian Literature in English Translation (Беларуская літаратура ў англамоўным перакладзе). У чым яго адметнасць?**

— Дадзены праект ажыццяўляўся супрацоўнікамі Цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы. У CD ўвайшло 500 твораў 100 аўтараў, якія ў розныя часы былі перакладзены на англійскую мову менавіта яе носьбітамі і прафесійнымі перакладчыкамі. Дыск скіраваны на азнаямленне замежнай аўдыторыі са скарбамі беларускай літаратуры. Гэта таксама выдатны сувенір для англамоўных наведвальнікаў нашых літаратурных музеяў. Дадзены CD будзе распаўсюджвацца праз нашы пасольствы, напэўна, і праз Інтэрнет.




## Са Спісаў спадчыны ЮНЕСКА

**— Ці толькі літаратурную сферу напаткала віртуалізацыя ў мінулым годзе?**

— Не толькі... 2005-ы азнаменаваўся ўключэннем у Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА Архітэктурна-культурнага комплексу рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы. Падзея мэтанакіравана супала са стварэннем дыска "Нясвіж: культурны цэнтр Еўропы і нацыянальны помнік". Ён уключае самую разнастайную інфармацыю пра знакаміты магнацкі род: ад асаблівасцяў збудавання палаца да радзівілаўскай карты. Другая частка праекта будзе арыентавана на перавод архіваў Радзівілаў на лічбавую аснову. Справа будзе нялёгкай, бо іх рэшткі раскіданы па ўсім свеце. Толькі ў Дзяржаўным гістарычным архіве ў Мінску захоўваецца 26 000 спраў...

**— Як праходзіла занясенне рэзідэнцыі ў Спіс?**

— Падобны статус надае помніку сусветнае прызнанне, а значыць і ўвагу з боку турыстаў. Патрапіць туды вельмі цяжка. Трэба прайсці некалькі стадый. У выпадку з Нясвіжам на разгляд Міжнароднага савета па ахове помнікаў і гістарычных мясцін было прадстаўлена дасье, якое падрыхтаваў вядомы польскі даследчык Тадэвуш Бернартовіч і Міністэрства культуры. Пасля атрымання афіцыйнага пацвярджэння адпаведнасці помніка пэўным крытэрыям, дасье прадставілі Міжурадаваму камітэту па ахове сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны. Нарэшце, на выніковай сесіі ў Дурбане (ЮАР) наша кандыдатура была падтрымана...

**— Што азначае для архітэктурнага помніка занясенне ў такі ганаровы Спіс?**

— Вядома ж, з'яўляюцца адпаведныя абавязкі. Мы павінны падтрымліваць аўтэнтычнасць аб'екта. Іншыя патрабаванні прад'яўляюцца і да рэстаўрацыйных работ.

Цяпер спіс налічвае больш як 800 аб'ектаў, сярод якіх такія сусветна вядомыя, як Вялікая кітайская сцяна ці Егіпецкія піраміды. Чатыры з іх знаходзяцца на тэрыторыі нашай краіны. Гэта Белавежская пушча, Замкавы комплекс "Мір", Дуга Струвэ і вышэйадзначаны аб'ект у Нясвіжы.

**— Мірскі замак хутка ператворыцца ў паўнавартасны музейна-гістарычны комплекс. Якая работа будзе праводзіцца тут?**

— Мір павінен стаць буйным турыстычным комплексам. У сувязі з гэтым ЮНЕСКА зацікаўлена ў стварэнні на яго базе міжнароднага канферэнц-цэнтра і гасцінічнага комплексу. Тым больш, што праводзіць выязныя семінары па культуры ў межах вядомых гістарычных аб'ектаў – агульнасусветная традыцыя. Дарэчы Мір і Нясвіж – унікальныя выставачныя прасторы як для пастаянных, так і для часовых экспазіцый. Тым больш, шмат чаго яшчэ захоўваецца ў музейных запасніках...

**— На ваш погляд, ці будуць акупаць сябе беларускія аб'екты з вышэйзгаданага Спісу?**

— Справа захавання культурнай спадчыны цесна звязана з сацыяльна-эканамічнымі інтарэсамі дзяржавы. У 2003 годзе мы праводзілі спецсемінар па выкарыстанні Мірскага комплексу, дзе ў якасці прыкладу прыводзіўся чэшскі горад Глубока. Там таксама ёсць замак, і ўся гарадская турыстычная інфраструктура завязана на ім.

**— Як арганізавана праца ЮНЕСКА з музеямі?**

— Нядаўна быў створаны цэнтр прывентыўнай рэстаўрацыі, праведзены выязныя семінары для маладой у Беларусі прафесіі — рэстаўратар. Вывучаюцца магчымасці стварэння энцыклапедыі жывапісу XX стагоддзя...

## Іншыя сферы — нязменныя арыенціры

**— Бачна, што шмат чаго за мінулы год зроблена ў сферах літаратуры і архітэктуры. Ці не забыліся пра музыку?**

— Зараз сумесна з супрацоўнікамі Цэнтральнага музея музычнай культуры, выкладчыкамі Акадэміі музыкі і супрацоўнікамі Дзяржтэлерадыё мы працуем над серыяй з сямі дыскаў "Музыка Беларусі XX стагоддзя", якая будзе ўключаць 100 твораў 50 кампазітараў. Гэта не толькі сімфанічныя альбо камерныя творы, але і песні, якія сталі эпахальнымі. Такія, як "Радзіма мая дарагая", "Бывайце здаровы, жывіце багата!"

**— Якая работа праходзіць ў тэатральным накірунку?**

— З ЮНЕСКА добрыя партнёрскія адносіны склаліся ў Міжнароднага інстытута тэатра, бюро якога існуе ў Беларусі. Некалькі гадоў таму ладзіліся фестывалі монаспектакляў "Я". Але некаторы час яны не праводзіліся з-за адсутнасці фінансавання. У мінулым годзе мы аднавілі іх правядзенне ў Маладзечне. Дарэчы, у ім прынялі ўдзел акцёры з васьмі краін свету.

Таксама ў планах — стварэнне электроннай анталогіі тэатра. Сёння нам трэба неадкладна выратоўваць рарытэтныя запісы, якія зроблены яшчэ на бабінах. Яны, на жаль, з часам прыходзяць у нягоднасць.

**— Ці ёсць сёння ў ЮНЕСКА праекты па ўшанаванні нашых знакамітых землякоў за межамі Беларусі?**

— Мы не абыходзім увагай і гэта пытанне. Нельга не заўважаць значнасць такой цікавай гістарычнай постаці, як Тадэвуш Касцюшка. Яго ведаюць народы Польшчы, Францыі, ЗША, Швейцарыі... Але Тадэвуш – сын Беларусі, што немалаважна, і мы ведаем пра яго далёка не ўсё. Таму ў мінулым годзе спецыялісты з Брэста і Косава наведалі Салатурн, што ў Швейцарыі, месца яго апошніх гадоў жыцця. Мэтай візіту стаў збор інфармацыі пра нашага славутага земляка, каб сумесна са швейцарскімі калегамі стварыць банк дадзеных, а ў будучым выдаць альбом-кнігу і кампакт-дыск на некалькіх мовах.

**— Што эфектыўней: стварэнне альбомаў і кампактаў, ці правядзенне нейкіх спецыялізаваных семінараў?**

— Думаю, эфектыўнымі можна лічыць абедзве формы. Бо падчас правядзення той ці іншай канферэнцыі абавязкова адбываецца і матэрыяльнае ўвасабленне вынікаў дыскусій. Як прыклад, канферэнцыя ў сядзібе Агінскага на тэму "Гістарычныя сядзібы Беларусі". Яе вынікам стала стварэнне спецыялізаванага даведніка. Але вельмі важным з'яўляецца і абмен меркаваннямі.

**— Ці садзейнічае ЮНЕСКА вяртанню нацыянальных літаратурна-мастацкіх каштоўнасцяў з-за межаў Беларусі?**

— Пытанні разглядаюцца, але на рэкамендацыйным узроўні для далейшага двухбаковага міжнароднага супрацоўніцтва. Думаю, што сёння гэтае пытанне не такое вострае як дваццаць гадоў таму. Сучасныя камп'ютэрныя тэхналогіі дазваляюць атрымаць якасныя копіі рарытэтаў. Вядома ж, мець пад рукой арыгінал вельмі важна. Але важней за гэта менавіта атрыманне доступу да таго ці іншага твора.

## Побач з прыродай

**— Чаму ЮНЕСКА так зацікаўлена Палессем?**

— Мы спрабуем канцэнтравацца на нейкіх пэўных накірунках. З Палессем на працягу пяці гадоў ЮНЕСКА звязвае арганізацыя экалагічных калідораў для міграцыі жывёлы. Ствараецца біясферны рэзерват Прыбужскае Палессе. У хуткім часе ён стане часткай трансгранічнага рэзервата.

Задача ЮНЕСКА — не толькі захаваць прыродныя багацці, але і выкарыстоўваць іх у мэтах сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна. Гэта магчыма з дапамогай культурнага і экалагічнага турызму. Неабходна стварыць базу дадзеных па рэгіёне.

**— Якую ўвагу сёння ЮНЕСКА надае чарнобыльскаму пытанню?**

— Былі створаны станцыі па вывучэнні радыяцыйнай абстаноўкі, цэнтры псіхалагічнай разгрузкі. Праграма завяршылася напрыканцы 90-х гадоў. Зараз Беларусь разам з Расіяй і Украінай вырашыла аднавіць працу над пытаннем у некалькі іншым накірунку. Сёння асабліва цікавіць уздзеянне невялікіх доз радыяцыі на арганізм чалавека, а таксама прыроду. Прапаноўваецца праводзіць даследаванні на базе Палескага радыяцыйнага запаведніка, які існуе на тэрыторыі нашай краіны. Неўзабаве чакаем канчатковае рашэнне ЮНЕСКА па іншым пытанні. Але ўжо зроблены значны крок: створаны дапаможнік для настаўнікаў і дзяцей па метадах бяспечнага пражывання ва ўмовах забруджвання.

**Гутарыў Сяргей ДУБОВІК**

***Фота аўтара***

**Шматузроўневыя паветраныя трасы з лётаючымі машынамі, стопавярховыя хмарачосы і метро, якое ходзіць паміж іх паверхамі — так фантасты бачаць мегаполіс будучыні.**

**Марыць і фантазіраваць можна колькі заўгодна, але журналістыка заўсёды патрабуе канкрэтыкі. Мы пагутарылі з людзьмі, якія ваяюць аблічча нашае сталіцы ў XXI стагоддзі, каб з іх дапамогай зазірнуць у бліжэйшую будучыню Мінска. Аказалася, паміж рэальнасцю і марамі няма непераадольнай прорвы.**

# СТАЛІЦА XXI стагоддзя...



## Праекты мінскіх архітэктараў здзіўляюць сваёй маштабнасцю

### *2006: «Аляксандраў пасаж» і Нацыянальная бібліятэка*

Творчая майстэрня Барыса Школьнікава займаецца самымі маштабнымі архітэктурнымі праектамі. Сярод вядомых прац — адміністрацыйны будынак "Лукойл-Беларусь" на Нямізе і жылы дом па Казарменным завулку. Апошні праект студыі — бізнес-цэнтр "Аляксандраў пасаж", які будуецца па замове аднайменнага замежнага прадпрыемства на скрыжаванні праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава.

Будынак у пятнаццаць і больш паверхаў — па мінскіх мерках ужо хмарачос — выкананы ў новай манеры. Для яго характэрна спалучэнне "высокага" і "нізкага" аб'ёму, а таксама падоўжаны "пасаж", які перасякае ўвесь будынак.

— Такі гмах заклікаsuccessfully прадэманстраваць: любая справа павінна быць празрыстай, адкрытай, — дзеліцца Школьнікаў сваім бачаннем бізнес-цэнтра. — Ён ужо формай як бы гаворыць: бізнес тут робіцца чысты, прыгожы, і без лішніх дэталяў.

Сучасны бізнес-цэнтр са шкла і бетону будуецца ў раёне, дзе ўжо рэалізаваныя некалькі арыгінальных архітэктурных рашэнняў — напрыклад, аўтавакзал "Маскоўскі" і Нацыянальная бібліятэка. Апошняя расхіне свае дзверы перад наведвальнікамі ўжо 1-га мая. Да таго ж, хутка ўвесь жылы фонд мікрараёна "Усход" здабудзе новае, сучаснае аблічча — будавацца ў такім архітэктурным асяроддзі і прэстыжна, і лёгка.

Але далёка не заўсёды забудова Мінска гэткая ж "мадэрновая", як шматлікія сённяшнія архітэктурныя праекты. Для Барыса Эмануілавіча важна, каб будынак, будучы сучасным па сваёй сутнасці, упісваўся ў існуючы гарадскі ландшафт.

Разам са ўсёй гэтай інавацыйнасцю, для Школьнікава важныя прагматызм і функцыянальнасць. Дэвіз яго бюро — эрганамічная архітэктура, якая мае і пэўную фінансавую каштоўнасць. Зыходзячы са свайго вопыту, Школьнікаў мяркуе, што забудова Мінска будучыні кіне выклік устойлівым канонам, усё больш і больш здзіўляючы нас арыгінальнасцю сваіх форм.

— Бізнес штурхае нас на тое, каб архітэктура была ў вышэйшай ступені крэатыўнай. Гэта значыць, яна не павінна ні ў якой меры паўтараць вядомыя дагэтуль аналагі.

### *2008: Няміга-сіці*

Паводле генеральнага плана развіцця Мінска да 2030 года, дзелавы цэнтр горада — своеасаблівы сталічны downtown — будзе засяроджаны паміж праспектам Пераможцаў і вуліцай Клары Цэткін. На працягу амаль двух кіламетраў уздоўж Нямігі раскінуцца офісы, гандлёвыя цэнтры, выставачныя залы, прэстыжныя гатэлі і зручныя паркінгі. Побач пройдзе хуткасная магістраль і вырастуць хмарачосы.

Першыя "ластаўкі" — сучасныя офісныя будынкі — з'явіліся на Нямізе ў самім пачатку 2000-х, але зараз наступае час больш маштабнага "рамонту" вуліцы. "Няміга-сіці" — такую назву мае праект Алега Вараб'ёва, які нядаўна быў ухвалены горадабудаўнічай радай.

Адміністрацыйна-гандлёвы комплекс Вараб'ёва — гэта адзіны архітэктурны ансамбль, які складаецца з трох бізнес-цэнтраў. Ён размесціцца на трох гектарах у раёне вуліц Караля, Калектарнай, Клары Цэткін і будзе непасрэдна прымыкаць да гістарычнага цэнтра.

Будаўніцтва першай чаргі — 7-павярховага офіснага будынка — сёння блізіцца да завяршэння. У перспектыве — узвядзенне 30-павярховага банкаўска-офіснага гмаха з "сечаным" сілуэтам на пл. Нагіна. Паміж імі пабудуюць адміністрацыйна-гандлёвы комплекс пераменнай павярховасці.

Арыгінальны фасад бізнес-цэнтра, нахілены і трохі "навісаючы" над вуліцай, будзе бачны ўжо з пачатку Нямігі, ён размесціцца не строга па лініі ўздоўж вуліцы, а будзе разгорнуты, як бы вітаючы ўсіх, хто па ёй праязджае.

Заказчыкам другой чаргі забудовы выступае замежнае прадпрыемства "Гіперкам Дэвелапмент". Пачатак будаўнічых работ запланаваны на гэты год, а да 2008-га цэнтр павінен набыць закончаныя формы. Зараз рыхтуецца праектна-каштарысная дакументацыя, і неўзабаве будзе праведзены тэндэр на будаўніцтва.

На двух першых паверхах будуць размяшчацца крамы з таварамі прамысловага і бытавога прызначэння. Яны зоймуць плошчу каля 5 тыс. квадратных метраў. Астатнія паверхі плануецца аддаць пад офісы. Ва ўнутраным двары размесціцца адкрыты паркінг; таксама запраектавана адна пяціўзроўневая аўтастаянка з двума падземнымі паверхамі, усяго на 460 аўтамабіляў.

Праектам прадугледжана выкарыстанне самых сучасных матэрыялаў.

— Бізнес-цэнтр "Няміга-сіці" — гэта новае жыццё для вуліцы, дзе помнікі даўніны суседнічаюць з цудамі сучаснай цывілізацыі. Гэта крок да новай старонкі ў гісторыі нашага горада, — рэзюмуе сп. Вараб'ёў.

### *2010: Мінскія вежы*

Гэта — "рабочы" назоў беспрэцэдэнтнага па сваіх маштабах праекта, да рэалізацыі якога прыступае архітэктар мінскага вакзала і Нацыянальнай бібліятэкі Віктар Крамарэнка.

Яго творчая майстэрня распрацавала чарговую "візітоўку" горада, якая будзе прэзентаваць сталіцу ўсім, хто ўязджае ў яе з маскоўскага напрамку. Дзелавы і гандлёва-забаўляльны цэнтр зойме пустэчу паміж праспектам Незалежнасці і бізнес-цэнтрам "XXI стагоддзе" ў мікрараёне Уручча, прымыкаючы да будучай станцыі метро "Барысаўскі тракт". Віктар Уладзіміравіч не сумняваецца, што ўжо ў наступным дзесяцігоддзі ў гэтым спальным раёне будзе кіпець і дзелавая, і гандлёвая актыўнасць.

На плошчы больш як 10 гектараў размесціцца серыя "молаў" з крытымі ацяпляльнымі вулачкамі: гэта значыць, па гандлёвым горадзе можна будзе спакойна шпацыраваць самай лютай зімой. Упрыгожаць архітэктурны ансамбль тры 25-павярховікі — адміністрацыйны будынак, офісны цэнтр і гасцініца. Акрамя гандлёвых плошчаў, у цэнтры адкрыюцца шматлікія кафэ, рэстараны, а таксама боўлінг і кінатэатр-мультыплекс. Самы высокі будынак комплексу будзе вянчаць вялізны шкляны шар, у якім размесціцца ультрамодны начны клуб.



Але найважнейшая інавацыя праекта — у самой тэхналогіі будаўніцтва. Упершыню на Беларусі будзе ўжыты распаўсюджаны на Захадзе прынцып "гнуткай планіроўкі". Падрадчык пабудуе "пустыя" паверхі з неабходнымі камунікацыямі, а ўжо пакупнікі або арандатары гандлёвых і офісных плошчаў змогуць самі стварыць сабе такую планіроўку, якая найболей адказвае іх функцыянальным неабходнасцям.

Сп. Крамарэнка лічыць, што пакуль рана выдаваць каштарысную вартасць праекта, але сведчыць, што ў яго ёсць багатыя спонсары. Фундатары з адной краіны рэдка могуць "пацягнуць" такое будаўніцтва, таму заказчыкам цэнтра выступае міжнародны кансорцыум з удзелам расійскага, англійскага і швейцарскага капіталу. Мяркуецца, што будаўніцтва пачнецца яшчэ да канца гэтага года — але вось аб тэрмінах уводу ў эксплуатацыю архітэктар гаворыць вельмі асцярожна.

— Будаўнікі ў Беларусі рэдка сутыкаюцца з такім аб'ёмам работ, таму я мяркую, што на будаўніцтва цэнтра спатрэбіцца не менш за тры, а то і чатыры гады, — гаворыць архітэктар.

Футурыстычная эстэтыка "вежаў" стала магчымай тады, калі творчая фантазія была падмацаваная новымі будаўнічымі рашэннямі. Віктар Крамарэнка гаворыць, што пры ўжыванні сучасных тэхналогій і матэрыялаў, будынку можна надаць любую форму. Метал плюс кампазітныя матэрыялы, асноўны кампанент якіх — сучасныя пластыкі, стануць асновай і для гэтага аб'екта. Архітэктар абяцае, што праз пяць гадоў маналітны жалезабетон, люстранае шкленне і хуткасныя ліфты стануць самымі звычайнымі будаўнічымі тэхналогіямі для Мінска, які так хутка расце.

### *2010+ — што далей?*

З распадам Савецкага Саюза і знішчэннем сістэмы тыпавой забудовы беларускія архітэктары атрымалі нарэшце прастору для творчасці. За гэты час яны навучыліся кідаць выклік самым непарушным будаўнічым стэрэатыпам.

Шматлікія яркія праекты сёння чакаюць узгаднення ў мэрыі і ва ўрадзе. У першую чаргу, гэта вялізная лёдавая арэна на 15 тысяч гледачоў і 420-метровая тэлевізійная вежа, якія павінны ўпрыгожыць праспект Пераможцаў. Але нават калі іх эскізы будуць зацверджаныя ў цяперашнім годзе, завершанымі гэтыя аб'екты мы зможам убачыць не раней наступнага дзесяцігоддзя.

Забудова цэнтральнай часткі горада даволі шчыльная: не дзіва, што ўжо зараз зямля тут — на вагу золата. Таму позірк патэнцыйных фундатараў падае на дзве велічэзныя незабудаваныя пляцоўкі — ўзлётна-пасадачную паласу аэрапорта "Мінск-1" і тэрыторыю першага тралейбуснага дэпо. І калі лёс аэрапорта так і не быў вызначаны, то тралейбуснае дэпо збіраюцца пераносіць ва Уручча ўжо ў самы бліжэйшы час. Гэта значыць, што пад забудову вызваляецца вялікая плошча ў цэнтры горада, сваю зацікаўленасць у якой яшчэ летась выказвалі расійскія фундатары.

Маскоўскае прадпрыемства "Маноліум-Працэсінг" захацела пабудаваць тут вялізны гандлёва-культурна-забаўляльны цэнтр. У 2003-м яго прадстаўнікі заявілі аб гатоўнасці ўкласці ў праект беспрэцэдэнтную суму — паўмільярда долараў. У якасці пацвярджэння сваіх намераў, у 2004-м яны правялі адкрыты конкурс на распрацоўку архітэктурнай ідэі. У фінал тады выйшлі шэсць каманд, але пераможца так і не быў абвешчаны: аніводнае з рашэнняў не ўпісалася ў жорсткія патрабаванні генеральнага плана. Па законе, чарговая карэкціроўка дакумента адбудзецца ў 2008-м. Мабыць, толькі тады аб лёсе гэтага прывабнага ўчастка можна будзе гаварыць больш упэўнена.

Рашаць трэба не толькі праблемы будаўніцтва новых аб'ектаў. Эпоха "тыпавога" будаўніцтва пакінула мінчукам у спадчыну вялізную колькасць несамавітых і нязручных "хрушчовак" і "брэжневак". Існуе два варыянты рашэння праблемы старога жылля: вельмі дарагая рэканструкцыя і знос.

Па меркаванні экспертаў, у бліжэйшыя дзесяцігоддзі ў цэнтральнай частцы горада будзе развівацца выключна "гандлёва-дзелавое" будаўніцтва, у той час як жылы фонд пачне "мігравацць" на ўскраіны і ў прыгарады. Насуперак усім футурыстычным канцэпцыям "вышынных" жылых комплексаў, Віктар Крамарэнка лічыць, што жыллё беларусаў будучыні — гэта адна- і двухпавярховыя катэджы.

— Чалавек нарадзіўся на Зямлі, і спроба адарваць яго ад яе ў вышыннае жыллё, была здзекам. З-за дарагавізны гарадской плошчы мы вымушаныя будзем працаваць у хмарачосах — але я веру, што пасля працы мы зможам прыязджаць ва ўтульную ўласную хату.

**Мікалай АНІШЧАНКА**

***Фота забяспечана аўтарам***

* * *

*Радок бяззбройны і бясспрэчны*
*Слабым — адзіна верны шчыт.*
*І не знікаць Паэтам вечна,*
*У вечнай Песні жывучы.*

*Калі пайду з юдолі гора,*
*Не скончыўшы найлепшы сказ,*
*То божы свет мяне паўторыць,*
*Як паўтараў ужо не раз.*

*Як моры, зоры і азёры,*
*Якія ў вечнасць забяру.*

*Свет шчодры.*
*Свет мяне паўторыць...*

*Ну, а не свет,*
*дык Беларусь. —*
*Мне — досыць...*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

# У ВЕЧНАЙ ПЕСНІ ЖЫВУЧЫ

Свет сапраўды шчодры, бо падараваў вечную Песню Караткевіча, веліч асобы і глыбіню таленту якога будзе спасцігаць яшчэ не адно пакаленне — чым вышэй да неба ўздымаецца крона дрэва, тым глыбей у зямлю ўрастаюць яго карані.

На сённяшні дзень плёнам гэтага спасціжэння з'яўляюцца два грунтоўныя выданні: "Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць" Анатоля Вераб'я (выдавецтва "Беларуская навука", 2005 г.) ды "Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!"; успаміны, інтэрв'ю, эсэ з серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі", укладальнік Галіна Шаблінская ("Мастацкая літаратура", 2005).

У вершы "Мой век" паэт пісаў:

*Было ў ім усякага жыта:*
*Тысячы добрых гадзін,*
*І сонца, і шчасце, і літасць,*
*І космас — на ўсіх адзін...*

Для асэнсавання ўласнага жыцця чалавеку патрэбны мужнасць, цярплівасць і шчырасць. Каб асэнсаваць жыццёвы і творчы шлях славутага пісьменніка, даследчыку, акрамя высокага прафесіяналізму і мастацкага густу, усяго вышэй пералічанага неабходна мець удвая больш.

Асваеннем космасу Уладзіміра Караткевіча крытык і літаратуразнавец Анатоль Верабей займаецца ледзь не ўсё жыццё. Папярэднія кнігі даследчыка — "Жывая повязь часоў" (1985) і "Абуджаная памяць" (1997) у свой час далі магчымасць усім, хто цікавіцца Караткевічам, глыбей зразумець сутнасць яго творчасці, адчуць прыцягальнасць яго асобы. Апошняе выданне — "Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць" гарманічна сумяшчае ў сабе навуковую дакладнасць і даходлівую, часам нават лірычную манеру аповеда. Напрыклад, падрабязны літаратуразнаўчы аналіз аднаго з апавяданняў завяршаецца наступнай характарыстыкай творчай манеры пісьменніка: "Патрыятызм, рамантычнае светаўспрыманне, вольны палёт фантазіі, адчуванне глыбіні, шырыні і багацця народнага жыцця сталі вызначальнымі рысамі творчасці Караткевіча. Ён пісаў страсна і зацікаўлена, па-свойму глядзеў на падзеі, звяртаўся не толькі да значных, істотных, але часам і да кур'ёзных момантаў айчыннай гісторыі...". Асэнсаванне розумам і сэрцам, аб'ектыўная ацэнка, навуковы аналіз далі магчымасць А.Вераб'ю сцвярджаць: "Уладзімір Караткевіч валодаў непаўторным і дзівосным талентам, здольнасць бачыць ідэальнае і гарманічнае ў чалавеку, жыцці і прыродзе. Аўтар адчуваў прыгожае ў жыцці. Аднак гэта было не спакойнае сузіранне навакольнага свету. Яго трывожыла праяўленне бездухоўнасці ў людзях, ён абуджаў у чалавеку добрае і чалавечнае. Пісьменнік быў непрымірымы да зла ва ўсіх формах яго праяўлення, ён змагаўся за чалавека, хацеў бачыць яго лепшым і прыгажэйшым". І як тут не згадаць радкі:

*Быў. Ёсць. Буду.*
*Таму, што заўжды,*
*як пракляты,*
*Жыву бяздоннай трывогай,*
*Таму, што сэрца маё распята*
*За ўсе мільярды двухногіх...*

Шырока выкарыстоўваючы дасюль невядомыя архіўныя матэрыялы, эпісталярную спадчыну пісьменніка і разнастайныя ўспаміны пра яго, Анатоль Верабей падрабязна характарызуе паэтычныя, празаічныя, драматургічныя, публіцыстычныя творы, даследуе мастацкія пераклады, прасочвае творчую эвалюцыю Уладзіміра Караткевіча, раскрывае праблематыку, тлумачыць жанрава-стылёвыя асаблівасці пісьменніцкай спадчыны як "мастацкага летапісу жыцця беларускага народа, напісанага шчыра і таленавіта". Каштоўным унёскам з'яўляецца таксама дасканала вывучаны радавод У.Караткевіча, змешчаны ў гэтай кнізе, што, дарэчы, адкрывае і ўжо згаданы зборнік успамінаў, інтэрв'ю і эсэ, пра які далей пойдзе гаворка.







"Асоба Уладзіміра Караткевіча як пісьменніка і чалавека настолькі прыцягальная і высокая, што адкрыццё і спасціжэнне яго загадкі мусіць ісці штодня (я адчула гэта на сабе), — прызнаецца ўкладальнік кнігі "Уладзімір Караткевіч. Быў. Ёсць. Буду!" Галіна Шаблінская. — Нават успамін пра самыя звычайныя, на першы погляд, жыццёвыя дробязі патрабуе асэнсавання, мае сімвалічнае значэнне...".

Шэсцьдзесят сем чалавек — родныя, сябры, літаратары, гісторыкі, артысты, мастакі, рэжысёры, кампазітары пакінулі свае згадкі, светлыя, шчырыя словы, падзяліліся радасцю сустрэч з Караткевічам, а таксама тугой і смуткам, што сціснулі іх сэрцы, калі ён заўчасна і нечакана пайшоў з жыцця. Невыказнай шчымлівай любасцю напоўнены ўспаміны сястры пісьменніка Наталлі Кучкоўскай, цікава пра незвычайны "дыплём", атрыманы ад "тытана беларускага Адраджэння", расказвае Вячаслаў Рагойша. "Валодзеву шчырую, натуральную паэтычнасць, прастату і складанасць, дзіцячую схільнасць да смеху, часам крыўдлівасць, таксама ледзь не дзіцячую, лёгкую ранімасць, што ніколі не затойвалася ў недастойнай помслівасці, пра яго юначы рамантызм і сталае высакародства, што пераходзіла сяды-тады ў крыху пацешнае рыцарства, як быццам ён пазычаў яго ў сваіх гістарычных герояў" згадвае Янка Брыль. Як пра "Божай міласцю паэта, празаіка, эсэіста, драматурга, крытыка, сцэнарыста, чалавека энцыклапедычных ведаў і нястомнай працавітасці" (Алесь Асіпенка) і разам з тым цудоўнага сябра ўспамінаюць пра Караткевіча Мікола Аўрамчык, Анатоль Вярцінскі, Валянцін Ждановіч, Васіль Зуёнак, Уладзімір Калеснік, Віктар Карамазаў, Генадзь Кісялёў, Янка Сіпакоў і многія іншыя літаратары.

Сярод матэрыялаў зборніка вылучаецца крытычны артыкул Пятра Васючэнкі "Апраметная і рай Уладзіміра Караткевіча", дзе аўтар задумваецца над "узаемадзеяннем двух светаў — мастацкага ды трансцэндэнтнага", імкнецца "зразумець найвялікшую спакусу мастака — зазірнуць па той бок заслоны". Безумоўна, у першую чаргу гаворка ідзе пра "Ладдзю роспачы", дзе Караткевіч падаў сваю, адрозную ад дантаўскай, мадэль інфернальнай прасторы. "Апраметная невыпадкова размешчаная пад Беларуссю; валадарства Смерці — антыпод беларушчыны. Злачынства супраць Беларусі трапляе, такім чынам, у рэестр найцяжэйшых грахоў, роўных юдаваму. (...) Канцэнтрычныя колы Дантавага пекла апускаліся ўглыб, да ледзянога возера, у якім курчыўся Юда. Апраметная, намаляваная Караткевічам, пашырае свае колы ў рэальны хранатоп, перадусім у гісторыю".

Ці магчыма любіць Беларусь больш, чым любіў яе, "зямлю пад белымі крыламі", Уладзімір Караткевіч? Хіба можа нехта зраўняцца з ім у любові да чалавека, дабра, праўды і ў непрымірымасці да зла, насілля, хлусні? Напэўна, не. І ці не яго вуснамі гаворыць Юрась Братчык у рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні":

"*Раз ужо з'явіўся на зямлю — я стану тут. Біцца буду не на жыццё, а на смерць. Казаць буду пра тое, што ёсць Чалавек і якое месца яго на Зямлі і ў Сусвеце, дзе пэўна ёсць шчаслівейшыя. Пра Мужнасць, пра Здзек, пра Веды, пра Доблесць казаць буду. (...) Я — тутэйшы. Я — беларус. Няма дзеля мяне даражэйшай зямлі, і тут я памру...*".

На Беларусі, якую так любіў Караткевіч і якой аддаў усяго сябе, "Бог жыве". "І тую Беларусь, — па словах П.Васючэнкі, — пісьменнік забраў з сабой, як Гервасій Выліваха прыхапіў у апраметную галінку шыпшыны.

А тыя, ад каго ён сышоў, — яны па-ранейшаму ў Ладдзі Роспачы. Прыніжаныя, прыгнечаныя, бязмоўныя слепакі, якія забыліся на сонца, на смех, на людскую гаворку і песню. І вяслуюць з тупой зацятасцю да ўладанняў пані Смерці. А навакол успененае ржавае мора, нізкае неба і больш нічога, апрача вёслаў ды спадзявання на Боскі цуд"...

"*... Прыйдзе дзень, і мяне не будзе. А свет не застанецца без слоў.*" ("Нельга забыць"). Не, ён быў, ёсць і будзе якраз таму, што на свеце засталося яго Слова.

*І не знікаць Паэтам вечна,*
*У вечнай Песні жывучы...*

**Наталля ЯКАВЕНКА**

# ПРЫПАМІНАЮЦЦА СУСТРЭЧЫ, РАЗМОВЫ

**У маёй сціплай хатняй бібліятэцы ёсць адна вельмі дарагая для мяне палічка. На ёй утульна пачуваюць сябе самыя розныя кнігі. Розныя па аб'ёмах, змесце. Усе яны падораныя мне аўтарамі. Гэта вершы і проза на беларускай і рускай мовах.**

Бяру ў рукі паэтычны зборнік "Бераг жураўліны" старэйшага з лірыкаў Піншчыны Зіновія Вагера, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, афіцэра, мастака, настаўніка. Ён шчыра сябраваў з "пружанскім асілкам", незабыўным Міколам Засімам. Неаднойчы сустракаўся з Міхасём Лыньковым, Петрусём Броўкам, Пятром Глебкам, Іванам Мележам і іншымі слыннымі беларускімі літаратарамі.

Гартаю каштоўную для мяне кнігу "Адна сярод замкаў" — аўтар Лідзія Савік. Мне падаравала яе вядомая беларуская пісьменніца Вольга Іпатава, пра жыццё і творчы шлях якой расказвае гэтая манаграфія.

Трымаю ў руках зборнік вершаў "Круг аистиный" Валерыя Грышкаўца. "...Запевала пинского стихотворного корпуса... новых книг в будущем... 2002 г." Дарэчы, гэта дзякуючы яму ўбачылі свет мае кнігі.

А вось тры "паштовыя ластаўкі" з Мінска. Васіль Макарэвіч: "Квадратура круга", "Вясёлыя скокі", "Даміно". Мудрыя, дасціпныя, з густам ілюстраваныя: "...новых строф, радкоў і кніжак табе, дружа...".

Саграваюць душу і пажаданні намесніка галоўнага рэдактара часопіса "Нёман" Міхася Пазнякова: "...новых творчых поспехаў, цікавых кніжак, здароўя табе...", якія ён адрасаваў у сваёй кнізе "Усім па сакрэту" ў 2005 годзе.

Тут жа і тры выданні, якія я атрымаў у свой час поштаю. Іхні аўтар — паэт, член Саюза рускіх, беларускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў Эдуард Абрамаў. Менавіта па яго ініцыятыве ў Феадосіі адбылася (завочна) прэзентацыя маіх кніг. А знаёмству з ім (таксама завочнаму) я абавязаны мастаку-крымчуку, пінчуку Уладзіміру Кіркевічу, які ілюстраваў мой трэці зборнік вершаў "Поздние звезды".

На палічцы знайшлі свае месца і кнігі тых аўтараў, лёс якіх выдаўся складаным. Аднак іх імёны на слыху ў аматараў паэзіі Піншчыны. Наталля Прыступа — "Белый взмах", "Два крыла"; Тамара Лызнюха — "Цветом рубина", "Незамерзающий причал", "Зов дорог". Выклікае захапленне іхняя мужнасць, сіла волі, самабытнасць таленту.

Творчымі набыткамі дзеляцца са мною масквічы. Павел Мікалайчык — сваімі "Откуда дуют норды" і "Покорение глубины"; Мікалай Казлоў — "Последний салют"; Вадзім Жылко і Віктар Філатаў — "Ассорти" ды "Крупицы мудрости". Яны з Лунінца, дзе ўпершыню на палескую зямлю ступіў з вагона цягніка Аляксандр Блок.

Заўважаю "Падсочаны бор" Міколы Антаноўскага — члена СПБ, рэдактара Пружанскай раённай газеты, які родам з вёскі Сташаны Пінскага раёна, адкуль і паэт Анатоль Шушко, што напісаў уступнае слова да маёй трэцяй кнігі.

Час ад часу спрычыняюся да альманаха "На ладонях Припяти и Пины". Менавіта тут можна сустрэцца не толькі з літаратарамі Піншчыны, але і тутэйшымі дзеячамі культуры і мастацтва. Дзякуючы няўрымслівасці і апантанасці ў працы, любові да родных мясцін былога дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Івана Кібака, убачыла свет гэтае выданне. Яно, як напамін: каб не забываліся.

...Гледзячы на свой адметны фонд, бачу твары, вочы і ўсмешкі аўтараў, чую іх галасы. Прыпамінаюцца сустрэчы, размовы. Ды ці мала што думаецца ў гэтакія хвіліны! Здаецца, толькі дакранішся да вокладкі той ці іншай кнігі, як неўзабаве адчуеш цяпло сяброўскага поціску рук. І пачне разматвацца клубок памяці. А час цячэ, не спыняецца. Разам з ім і жыццё. Значыцца, яшчэ і яшчэ будуць адкрывацца новыя імёны паэтаў і празаікаў, адбудуцца новыя і прыемныя сустрэчы...

**Мікалай ЛАЎРОВІЧ**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АВАНТУРНАЯ НАВЕЛА

**Выключнае месца ў старажытнай беларускай літаратуры займае “Навела пра ажэнства караля Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл”. У гэтым белетрызаваным творы, бадай, упершыню ў гісторыі нацыянальнага прыгожага пісьменства знайшла выразнае адлюстраванне тэма кахання.**

**Сюжэт “Навелы…” блізкі да еўрапейскага авантурнага рамана. Вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст закахаўся ў Барбару Радзівілоўну і пачаў уначы таемна наведвацца да яе. Неўзабаве пра інтымную сувязь манарха становіцца вядома ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім і Польскім Каралеўстве. Браты Радзівілы просяць Жыгімонта не ганьбіць іх род, але той не зважае на просьбы і працягвае сваё. Урэшце, браты захопліваюць манарха ў паказх сястры і той дае згоду ўзяць законны шлюб з Барбарай. Доўгі час ніхто, апрача сведкі — пана Кезгайлы, і плябана, які абвянчаў Жыгімонта з Барбарай, не ведае пра жаніцьбу князя. Калі ж пра выбар вялікага князя становіцца вядома, магнаты і шляхта пачынаюць усяляк адгаворваць гаспадара адмовіцца ад “няроўнага шлюбу”, але Жыгімонт не зважае на супраціў і застаецца верны свайму выбару.**





**Творчае наватарства невядомага аўтара выявілася ў тым, што ён паказаў не толькі дзяржаўныя і вайсковыя справы манархаў, але і іх асабістае жыццё, інтымныя пачуцці, адлюстраваў логіку тагачасных канфліктаў у вышэйшых уладных колах. Князь Жыгімонт Аўгуст паўстае не толькі як богавыбраная асоба, але як чалавек, з ягоным прыватным жыццём, перажываннямі і пачуццямі. Вельмі яркая кульмінацыя “Навелы…” — дыялог паміж братамі Радзівіламі і Жыгімонтам Аўгустам, падчас якога кароль схіляецца да канчатковага рашэння ўзяць шлюб з Барбарай Радзівіл.**

**Невядомы аўтар “Навелы…” дакладна перадае месцы і час падзей, характарызуе эмацыйны стан герояў, падае шмат цікавых звестак пра тагачасныя звычаі, рытуалы і традыцыі.**

**“Навела пра ажэнства караля Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл” чытаецца паводле Летапісу Рачынскага, які збярогся ў складзе рукапіснага зборніка (Аддзел рукапісаў б-кі Рачынскага ў Познані. № 94. Арк. 235 — 291. “Навела…” змешчана на арк. 289 адв. — 291).**

**Пераклад “Навелы пра ажэнства караля Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл” выкананы паводле публ.: ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 171 — 172.**

**Іван САВЕРЧАНКА, доктар філалагічных навук**

### *«Навела пра ажэнства караля Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл»*

Улетку 1545 года ад Божага нараджэння, месяца чэрвеня, у Пятроў пост, за два тыдні да святога Пятра, у панядзелак, у Вільні памерла маладая каралеўна Эльжбета. Пахавалі яе ў святога Станіслава, у капліцы вялебнага Казіміра.

24 жніўня, у панядзелак і назаўтра ў аўторак, быў абход з марамі, якіх налічвалася трыццаць.

Таго ж года, 31 жніўня, малодшы кароль Жыгімонт Аўгуст даў Жамойцкае староства троцкаму пану Ераніму Аляксандравічу Хадкевічу.

Потым кароль Жыгімонт Аўгуст, калі пахаваў цела маладой каралеўны, не могучы стрымліваць прыроджанай пахаці сваёй да жанчын, пачаў мілавацца з паняй Барбарай Радзівілоўнай, якая засталася ўдавою пасля пана Станіслава Альбрэхтавіча Гаштаўта, ваяводы троцкага. Пані жыла на той час пры сваёй маці, пані віленскай, і пры сваім браце — Мікалаю Радзівілу, падчашым. Кароль пачаў хадзіць да яе ўначы, дзеля чаго быў зроблены адмысловы ход, ад палаца ажно да яе дому. І наведваў яе Жыгімонт Аўгуст вельмі часта. І сталася аб тым вядома ва ўсіх польскай і літоўскай землях. Браты Барбары Радзівілоўны прасілі караля, каб перастаў наведвацца да іх сястры і не чыніў няславы іх дому. Кароль паабяцаў не хадзіць да яе і нейкі час не хадзіў. Але пахаці сваёй прыроднай не мог утаймаваць і пайшоў зноў да яе ўначы.

Паны Радзівілы ўпільнавалі караля, а калі ён увайшоў да іх сястры, рушылі да яго і мовілі:

— Міласцівы кароль, не мусіў хадзіць больш да нашай сястры, а чаму цяпер наведаўся?

Кароль ім адказаў:

— Хто ведае, можа наш візіт да вашай сястры прынясе вам вялікую славу, гонар і карысць.

Яны адказалі:

— Дай тое Божа! І адразу паклікалі плябана, які быў падрыхтаваны для такога выпадку. І караля абвянчалі з Барбарай Радзівіл.

Ніхто з Паноў-Рады, ані свецкіх, ані духоўных, ні з каралеўскага двара пра тое не ведалі. Толькі Радзівілы і Кезгайла, а таксама плябан, што шлюб даваў.

Кароль, узяўшы шлюб з Радзівілоўнай, хаваў тую таямніцу. Барбара па-ранейшаму жыла пры матцы, у брата свайго.

Затым, малады кароль у 1547 годзе ад Божага нараджэння, у Піліпаў пост, паехаў да Польшчы, да бацькі свайго. Там пра жаніцьбу сваю паведаміў князю Мацяеўскаму, біскупу кракаўскаму, і пану Яну Тарноўскаму, пану кракаўскаму. Яны далі яму згоду на шлюб.

Неўзабаве кароль вярнуўся з Польшчы да Вільні.

У 1548 годзе ад Божага нараджэння, у вялікі пост, Паны-Рады Вялікага княства Літоўскага з’ехаліся да Вільні, да караля. Калі Паны-Рады пачулі і дакладна даведаліся пра таемны шлюб пані Радзівілоўны з каралём, усе яны глыбока аб тым шкадавалі. Паны-Рады пачалі слёзна маліць і настойліва прасіць караля, каб таго шлюбу не чыніў і няроўную сабе, падданую сваю за жонку не браў.

Усім людзям, усёй зямлі тая жаніцьба каралеўская была нямілай. Іншыя ў такое нават верыць не хацелі. Асобныя пісалі пасквілі, прыбівалі іх у замку да сценаў і ратушы, да панскіх дамоў і варотаў, часам, прыносілі іх наўпрост да Жыгімонта Аўгуста.

Нарэшце вестка пра жаніцьбу дайшла да Кракава, да старога караля-бацькі і да маці. У строгай форме бацькі пісалі свайму сыну, каб таго не чыніў і Барбару за жонку не браў.

Кароль Жыгімонт Аўгуст аніяк не зрэагаваў, не пажадаў слухацца довадаў і просьбаў старога караля, бацькі свайго, і не прыслухаўся да заклікаў Паноў-Рады каронных і Вялікага княства Літоўскага.

У 1548 годзе кароль Жыгімонт Стары вырашыў усе неабходныя для краіны справы ў Петрыкаве на Вальным Сойме. Маючы сталы век — занядужаў, і хворы, амаль паўмёртвы, быў перавезены да Кракава. Там ён неўзабаве памёр а трынаццатай гадзіне, на Вялікдзень.

Вестку пра смерць Жыгімонта Старога з жалем сустрэлі не толькі яго падданыя, але і навакольныя хрысціянскія краіны, бо ён быў гаспадар вельмі добры, справядлівы і міласэрны для падданых сваіх. Нябожчык меў 81 год, два месяцы і сем дзён веку. Сорак з паловай год Жыгімонт Стары панаваў у Кароне Польскай і Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Прускім, Жамойцкім і іншых землях.

Вестка пра смерць караля неадкладна была данесена Жыгімонту Аўгусту з Кракава да Вільні, раніцай у нядзельку.

На наступным тыдні, у пятніцу, кароль Жыгімонт Аўгуст у Вільні ўчыніў абыход з марамі і свечкамі па ўсіх касцёлах.

А на трэці тыдзень па Вялікадні, у аўторак, 17 красавіка, а 19 гадзіне агульнага часу, кароль паслаў Паноў-Рады да двара пана Радзівіла, падчашага Вялікага княства Літоўскага, за паняй Гаштаўтаўнай, з якой раней шлюб узяў.

У адпаведнасці з каралеўскім загадам, паны ўзялі пані Гаштаўтаўну, пашлюбёную жонку каралеўскую, сястру пана падчашага Радзівіла, праводзілі яе да замку Віленскага, ажно да палаца каралеўскага.

І кароль сустрэў Барбару ў сенцах, ля дзвярэй, і прывітаў яе. Затым ён паведаміў усім панам, што ўжо даўно з ёю пабраўся і шлюб узяў.

Паны і дваране праводзілі іх да каралеўскага палаца, дзе жылі першыя каралі, і кароль пайшоў з Барбарай на спачын.

Паны, уся шляхта і рыцарства, апрача Радзівілаў, не радаваліся з той жаніцьбы. Яны былі надта засмучаныя, але ўжо нічога не маглі зрабіць ці штосьці перайначыць.

**Пераклаў Іван САВЕРЧАНКА**

# ЗЕМЛЯКІ ПА РОЗНЫЯ БАКІ

...Пракацілася ў тую восень чутка, што грыбнікі ледзь не вазамі возяць са шчакоцкага лесу апенькі. Нацэліўся і я са сваімі сямейнікамі пашукаць шчасця. Толькі ж лес вялікі, і дзе тая грыбная мясціна — хто ведае? Узгадаў, што родам з вёскі Шчакоцк мой знаёмы Валодзя Гетманчук — эканаміст, паэт, а яшчэ і заядлы грыбнік. Хто ж, як не ён, дапаможа нам? Па тэлефоне дамовіўся, што Валодзя пакажа тую мясціну.

Стаяў цёплы вераснёвы дзень. Па-летняму ярка свяціла сонца. Пакідаючы за сабой клубы пылу, наша легкавушка пятляла палявой дарогай у бок сінеючай грады лесу. Не агледзеліся, як дасягнулі мэты. Лес сустрэў нас ва ўсёй сваёй асенняй прыгажосці. Бярозы ўжо ўплялі ў зялёныя чупрыны жоўтыя каснікі, аздобіліся чырвонымі каралямі рабіны, у маўклівым задуменні стаялі волаты-дубы. А травяністы дол і сапраўды ўсеялі апенькі.

Даволі хутка мы напоўнілі свае кашы, але пакідаць лясную прыгажосць не спяшаліся: прыселі на паляне, завялі гамонку пра розную бывальшчыну. Валодзя гаворыць пра клопаты вяскоўцаў, пра сваіх бацькоў, якія хоць і на пенсіі, а ўсё яшчэ шчыруюць і ў полі, і ў агародзе. Зайшла гаворка і пра літаратуру.

— А ці ведаеш ты, Валодзя, што родам з вашай вёскі сумна вядомы літаратурны крытык Лукаш Бэндэ? — пытаюся я.

— Чытаў, — ківае галавой Валодзя, — нават распытваў старажылаў вёскі пра яго карані. Але ніхто нічога не ведае, а можа, і не хоча ведаць... Ён жа, бачыш, і прозвішча сваё перайначыў — не Бенда, якіх нямала ў вёсцы, а Бэндэ.

— А мне вось давялося бачыць яго... Было гэта летам 1947 года. У Мінску праходзіла нарада маладых пісьменнікаў. Якраз пачалося абмеркаванне твораў пачаткоўцаў, калі ў залу зайшоў кашчавы брытагаловы чалавек у галіфэ, у гімнасцёрцы без пагонаў і ў ботах. Гэта і быў Лукаш Бэндэ.

Тады, у першыя пасляваенныя гады, мы яшчэ не ўсё ведалі пра гэтага чалавека. Толькі значна пазней даведаліся, якую злавесную ролю адыграў ён у жыццёвым і творчым лёсе многіх выдатных дзеячаў нацыянальнай культуры і навукі, літаратуры і мастацтва. Як прыгадваў паэт Сяргей Грахоўскі, які перанёс усе пакуты гулагаўскага пекла, ідэйны куратар і наглядчык за беларускай літаратурай Лукаш Бэндэ, у гімнасцёрцы-сталінцы, з пісталетам на папрузе, наводзіў жах на літаратараў. Працуючы ў Інстытуце літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, ён у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя ў сваіх крытычных нарысах імкнуўся палітычна дыскрэдытаваць многіх таленавітых пісьменнікаў, у тым ліку і нашых класікаў. Максіма Багдановіча называў выразнікам беларускай буржуазіі. Многа бруду выліў гэты “крытык” на творы Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Яго нарысы больш за ўсё нагадвалі паклёпніцкія даносы. Пасля такой “крытыкі” нямала аўтараў аказвалася ў турэмных засценках, скончылі жыццё ў гулагаўскіх лагерах. Да замаху на самагубства быў даведзены народны паэт Беларусі Янка Купала.

І на той, згаданай мной нарадзе ў Мінску ўладальнік літаратурнай даўбні з непрыхаванай злосцю накінуўся на вядомых пісьменнікаў, што добрым словам падтрымалі маладога паэта. Надоўга запомніўся мне яго рыпучы голас. Праўда, у пасляsталінскі перыяд Лукаш Бэндэ адчуваў сябе ў Беларусі не вельмі ўтульна, з’ехаў у Ленінград, дзе і памёр у 1961 годзе.

— Што ж, бываюць і такія землякі, — задумліва гаворыць Валодзя. — Толькі людзі не вельмі ахвотна хочуць іх успамінаць...

Справядлівая выснова. У гэтым я лішні раз пераканаўся, калі гутарыў з людзьмі не толькі ў Шчакоцку, а і ў іншых вёсках. Добрую памяць заслужыць трэба. Народ не забывае тых, хто пакінуў слаўны след у жыцці. Ім ставяць помнікі, іх імёнамі называюць вуліцы. У цэнтры Іванава, напрыклад, стаіць помнік выдатнаму мастаку і музыканту Напалеону Орду, які нарадзіўся ў вёсцы Варацэвічы амаль два стагоддзі таму. Ні адно энцыклапедычнае выданне рэспублікі па пытаннях гісторыі культуры, архітэктуры, краязнаўства, выяўленчага мастацтва не выходзіць сёння без літаграфій Орды, а яго музычныя творы і зараз гучаць у канцэртных залах.

У Дастоеве ўзведзены помнік вялікаму пісьменніку Фёдару Дастаеўскаму, продкі якога жылі ў гэтай вёсцы. Ды ці толькі дзеячам літаратуры і мастацтва такое шанаванне?

У кожнай вёсцы вам з гонарам могуць пералічыць дастойных пахвалы землякоў. Тут і героі вайны, і выдатныя навукоўцы, і заслужаныя хлебаробы. Валодзя Гетманчук ганарыцца працалюбівымі людзьмі сваёй вёскі, дзе ён “упершыню праз халадок раллі ўзаранай адчуў цяпло сваёй зямлі”. Цяпер ён жыве ў горадзе, але часта бывае ў родным Шчакоцку.

*Не хапае мне ў горадзе неба,*
*І па неба я еду ў сяло.*

У сваёй кнізе “Зараніца” аўтар апявае прыгажосць роднага краю, яго працаўнікоў. Неабавязкова герояў, а простых і паважаных вяскоўцаў. Жыў, напрыклад, у Шчакоцку селянін па мянушцы Лебедзь. “Не любіў ён што рабіць як-небудзь, справа абы з рук не па яму”, “быў “на ты” з пілою і сякерай”. А яшчэ ён вельмі добра спяваў народныя песні, быў жаданым госцем амаль што ў кожнай хаце.

Прачулыя вершы паэта пра маці, пра родную Беларусь хочацца цытаваць і цытаваць. Колькі пранізліва-задушэўнай цеплыні ў гэтых, напрыклад, радках:

*Абяліск ля палявой дарогі.*
*Ля падножжа — кветкавы агонь.*
*Сцежкаю з маўкліваю трывогай*
*Ветэран прыходзіць да яго.*
*Пастаіць маўкліва ля пагорка.*

Кожны верш паэта напоўнены любоўю да роднай старонкі, павагай да яе працавітых людзей. Шчакоцкія вяскоўцы маюць права ганарыцца сваім земляком Уладзімірам Гетманчуком. Ну а такія, як Лукаш Бэндэ, сапраўды не варты памяці.

**Аляксей КАЎКО**
**г. Іванава**


Таццяна БУДОВІЧ

* * *

*Твая нешматслоўнасць*
*мне вельмі дарэчы:*
*без слоў разумееш патрэбныя рэчы.*

*Амаль што на небе і побач*
*з табой.*
*І спіны ўздымаюць скала*
*за скалой.*

*І цені аблокаў на поўнач сплываюць.*
*Жывеш і не ведаеш: гэта бывае.*

*А сонца сцякае на веі твае.*
*Прымружваеш вочы —*
*і свет растае.*

*І я з ім знікаю. Зямлі прыцягненне*
*не дасць мне падумаць:*
*спыніся, імгненне!*

*А толькі запомніць вачэй*
*хрызаліт*
*і сонца, што ўжо не пакіне*
*зеніт...*

* * *

*Зіма пачалася з адлігі,*
*і холад на поўнач збег.*
*Пакутна худнеюць крыгі,*
*Чарнее падталы снег.*

*І пахне вясною паветра.*
*...Я ў думках лячу ў твой сад.*
*Дзве тысячы кіламетраў*
*На карце — не так і шмат.*

* * *

*Мая зіма мяне хавае*
*ад гэтых дзён,*
*спакоем снежным спавівае*
*жыццё, як сон...*

*Усё былое адбалела —*
*няма слядоў.*
*І сэрца беднае нясмела*
*жыве ізноў...*

* * *

*Бяссонне твае пральецца*
*вершам у дзённік мой,*
*шырокія зрэнкі сэрца,*
*восеньскі мой настрой.*

*І ўзыдуць у сэрцы хвалі*
*ласкі і дабрыні*
*з нязнаных далёкіх даляў*
*і пахаваюць дні...*

* * *

*...Вось і мінула палова зімы.*
*Снег і адліга. Па лужыных мы*
*моўчкі блукаем без пэўнае мэты.*
*Проста блукаем, шчаслівыя гэтым...*

*Вечар запальвае ў вокнах агні*
*і дагараюць зімовыя дні*
*без шкадавання і суму*
*пра тое,*
*што не збылося з табой*
*і са мною.*

* * *

*я не прачнуся калі ты прыснішся мне*
*мы застанемся з табой маладымі*
*ў сне*

*там не замярзае ніколі вада дамы*
*грэюць пад сонцам бакі і няма зімы*

*золатам блікі на моры калі глядзець*
*з самай высокай скалы*
*на краі сядзець*

*куртка твая паратунак*
*ад ветру мой*
*без знакаў прыпынку*
*вершаў маіх герой*


Яўген КАРШУКОЎ

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

### ВЁСКА

*На ўзлеску — стройныя бярозкі,*
*Ля крайняй хаты — дзве сасны...*
*Як часта вобраз роднай вёскі*
*Прыходзіць ноччу ў мае сны!*

*...У небе месяц ужо выспеў,*
*У хмарках плавае, зацяты.*
*І хаткі на балотнай выспе*
*Паснулі, быццам кацяняты.*
*І не чуваць машын з гасцінца.*
*Нідзе не грукне, не рыпіць...*
*Мае далёкае дзяцінства*
*Таксама тут шчасліва спіць.*

* * *

*Не раз спакушаны*
*быў жорсткай спрэчкай,*
*Калі на вусны злое слова лезе...*
*Як прагнуў апынуцца ў лесе,*
*Самотным пасядзець над рэчкай!*

*Там дзікае знікае ачмурэнне,*
*Звычайны сорам зноў вяртае розум.*
*І існае знаходзіць тлумачэнне,*
*І гоіць сэрца ціхі, светлы роздум.*

### НАД СОЖАМ

*Якая гэта была ноч,*
*Як мігацелі дружна зоркі!*
*Цямнеў сасновы бор наўзбоч,*
*Нязмушана ішла гаворка.*

*Сон навяваў духмяны стог.*
*Шапталіся пад стромай хвалі.*
*І дойга з бацькам мы не спалі,*
*Ніхто з касцоў заснуць не мог.*

### СОН

*Стаю каля білетных кас...*
*Куды мне ехаць — невядома.*
*Вячэрні промень сонца згас.*
*Карціць зноў апынуцца дома.*

*Сціскае сэрца ад нуды.*
*Балюча. Мучаюць трывогі.*
*Ці варта ехаць? І куды?!*
*«У нікуды» вядуць дарогі...*

### РАЙ

*Я бачу свет такім, як ёсць,*
*Такім, як ёсць, яго прымаю,*
*Бо абумоўлена: ты — госць*
*Кароткага зямнога раю.*

*Другога не чакай, о, не!*
*Другі... ён у Святым Пісанні.*
*Шкада, што гэты*
*рай міне,*
*Як дзень згасае*
*ў ціхім ззянні.*

### ШКАДАВАННЕ

*Словы гарачага прызнання,*
*Мае святое пачуццё...*
*Удзячны я табе, жыццё,*
*За непаўторны міг кахання.*

*Яно было, як бліскавіца,*
*Што неба шчодра дорыць нівам.*
*Яно было такім імклівым,*
*Што не паспеў я наталіцца.*

*Цяпер гляджу ў агонь каміна —*
*Свайго жыцця там бачу ранне...*
*Ах, успаміны, успаміны!*
*Запознenae шкадаванне.*


Раман САБУР

## Легенды

### Даўніна

**Міколу Татуру**

*Дрыгвой здароўкалася гэтая зямля,*
*дзе Свіслач падмацоўвала Пярэсня:*
*тут тысячу гадоў*
*быў знакаміты шлях,*
*ён прашчураў надзелы звёў сумесна.*

*Мянеск – асілак, краю вышыня –*
*нашчадкам млын*
*пабудаваў каменны;*
*склікаў ён да сябе людзей здаля,*
*сюды ішлі з ахвотай,*
*летуценна.*

*Ён, волат, падабраў для свае варты*
*мужчын харобрых, моцных*
*і упартых,*
*каб горад векапомны заснаваць.*

*Яны да шчасця сцежкі дратавалі –*
*стваралі, абжывалі, мацавалі...*
*Змаглі імя яго*
*ў стагоддзях захаваць.*

## Тайна гары

*У Наддзвінні між азёраў*
*ёсць гара Рагнеды.*
*У яе дзівосны нораў:*
*коннікаў яна хавае*
*пад нябачным пледам,*
*і на сечу пасылае,*
*калі блізка вораг.*

*Там да бою ўсё гатова:*
*падкаваны коні,*
*Звонам – кожная падкова,*
*вывява бяссмерця;*
*меч і панцыр мае воін...*
*І Рагнеды сэрца –*
*той гары аснова!*

*І як зноў вайны праявы –*
*плачу, крыку роскат,*
*першым конь ляціць бяляві*
*з ваяром нябачным...*
*Звон мячоў, падковаў лёскат –*
*сеча, бой гарачы...*
*Смерць чужынцам бравым!*

## Багатыр-гара

*Высокага росту жанчына-асілак*
*жыла на гары – арала, касіла,*
*ваду кожны дзень*
*у двух цэбрах насіла.*

*Да Полацку ёй загадалі аднойчы*
*захопнікі шлях паказаць...*
*Ды той ноччу*
*яна аб іх спіны зламала*
*свой вочап.*

*Загінула.. Сёння там зеўрае дзірка,*
*а з цэбраў, што ўпалі,*
*рака Багатырка*
*булькоча і ўдзень,*
*і ўначы безупынку.*


Фота Аксаны ЛУНІНЕЦ

# Кола жыцця

## Апавяданне

*Памяці Алеся Пісьмянкова*



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

**I**

Ранак быў светлы, ядраны. Высокі і чысты купал неба, рэдзенькі туманок над лесам, густая раса на траве — усё абяцала пагодлівы сонечны дзянёк. Але ж сіноптыкі прарочылі ўчора надвор'е з праясненнямі, у Мінску па абедзе дождж. А калі там, то і ў нас, бо для нябеснай канцылярыі паўсотні кіламетраў не адлегласць. Але бывае, што ў адным канцы горада лівень, а ў другім не выпадзе ні кроплі. Неаднойчы я назіраў, як светлы ранак пераходзіць у хмарны, дажджлівы дзень.

Мне пільна трэ было з'ездзіць у горад і к абеду вярнуцца, і нават чым раней, тым лепш, бо на дварэ сярэдзіна чэрвеня — самы райлівы час для пчол. Жонка з унукам катанула ў Штаты да нашай малодшай дачкі, застаўся я без памочнікаў.

Выкаціў з гаража «жыгулёнка». І тут гучна, залівіста закукарэкаў певень, нібы нагадваў гаспадару пра сябе і сваіх жонак. Напамін быў дарэчны: трэба памяняць курам ваду, падсыпаць зерня, бо сядзець яны будуць да майго вяртання. Абышоў пчальнік, агледзеў кожны вулей. Разведчыцы ўжо вярталіся з нектарам. Сем'ям, якія маглі адпусціць рой, я даваў устаноўку: «Вось што, мае даражэнькія, працуйце! І не ўздумайце сёння раіцца! Чакайце мяне».

Ну, здаецца, усё. Накарміў сучку Тузю, кошку Дусю. Перад тым, як сесці за руль, кінуў вокам на колы — усе трохі «прыпухлыя» ўнізе, значыць, ціск у іх нармальны, можна заводзіць матор.

Машына кранулася лёгка. Ужо ад'язджаючы, пачуў залівісты крык пеўня, быццам жадаў ён шчаслівай дарогі і нагадваў, каб хутчэй вярнуўся дахаты.

Міжволі ўзгадалася:

*Певень залопаў крыламі,*
*Лясныя будзячы нетры.*
*Рана ўстае Пятрылава:*
*Пятрылаву трэба петрыць.*

Гэта пра маю лясную вёсачку напісаў зямляк Алесь Пісьмянкоў. Далей такія радкі:

*Петрыць і рупіцца шчыра:*
*За косы і граблі пара.*
*Нельга застацца без сыру*
*Пятрылаўцу да Пятра.*

Апошні радок перагукаецца з эпіграфам, прыказкай: «Чакай Пятра — сыр з'ясі». Перад выездам на жвіроўку-гравійку прытармазіў, заманулася спыніцца, агледзець тое месца з правага боку, пад елачкай — тут знайшоў баравіка сябра-паэт. Прызнаюся, першым убачыў грыб я, бо ішлі мы амаль побач — грыбавікі так не ходзяць, — а мы гутарылі пра жыццё-быццё без перадыху, але пра знаходку я нічога не сказаў. Алесь таксама запрыкмеціў яснога прыгажуна, узрадавана ўсклікнуў: «Які баравік! Які мацак! Гэта будзе памяць пра вашы мясціны...».

Мы хадзілі тут мінулаю восенню, а сёлетняй вясною Алесь пайшоў з жыцця. Хіба я мог тады падумаць, што гэта наш апошні паход у грыбы?! Кажуць, што паэты не паміраюць, пасля іх застаюцца кнігі. Так, але гэта слабое суцяшэнне, калі чалавек памірае ў росквіце таленту. Колькі б ён мог яшчэ стварыць! Алесь Пісьмянкоў не дабраў не толькі творчых радасцяў, але і жыццёвых — не нацешыўся сынамі, не дачакаўся ўнукаў. А хіба гэта справядліва: мне, нашмат старэйшаму, успамінаць пра яго? А хіба гэта справядліва: яго няма, а ў прыродзе ўсё, як і раней. Кола жыцця няспынна коціцца наперад.

**II**

Порстка каціліся колы майго «жыгуля». Адсырэлая за ноч жвіроўка не пыліла, як удзень, і шлейф пылу не цягнуўся ўслед. У акно машыны ўрываўся пругкі духмяны струменьляснога паветра. Правая нага нібы сама сабою націскала на педаль акселератара. Машына, быццам птушка, лёгка, ахвотна імчала наперад. Яшчэ лягчэй пакаціліся колы па Маладзечанскай шашы. Дарога ўжо не спала, насустрач імчалі грузавікі, грувасткія фуры, здаля падобныя на карабкі запалак. Спадарожныя самазвалы, аўтобусы я ліха абганяў. Звычайна ездзіў асцярожней, а на гэты раз стрэлка спідометра часам перапаўзала за лічбу 100 — дужа багата спраў чакала мяне, таму і спяшаўся. А справы жыццёвыя: атрымаць пенсію, аплаціць усе паслугі, так званыя жыроўкі, шмат каму патэлефанаваць, з'ездзіць у рэдакцыю «Полымя», купіць правізіі для вясковага жыцця. Памацаў кішэню кашулі, каб пераканацца, што не забыўся прыхапіць спіс неадкладных клопатаў, пералік пакупак, які склаў учора.

**III**

У той дзень мне шанцавала: даволі хутка вырашыў амаль усе справы, купіў, што планаваў. А палове другой загружаў вандзэлкі ў багажнік. Падышоў сусед, былы вадзіцель-дальнабойшчык.

— Ну, як ваша «Лада»? Бегае спрытна?

— Дзякуй Богу, не падводзіць.

— А пакрышка вунь лопнула. Добра, калі не наскрозь, — сусед схіліўся над левым заднім колам. — З такім колам надта не разгонішся. Лепей паставіць запаску.

У мяне аж пад сэрцам пахаладзела: запасное кола засталося ў гаражы. Учора падпампаваў яго, паставіў каля сцяны, каб пераканацца, што камера не спускае. «Няўжо трэшчына — вынік майго ліхацтва? А мо, яна і раней была? І як я мог забыць кола?» — скрушныя думкі ліхаманкава кружыліся ў галаве. Прызнаўся суседу, што забыўся «запаску». Той паўшчуваў, пацiскаў кола масластым дужым кулаком.

— Можа, і не наскрозь. Калі памалу ехаць, то, можа, і нічога. А далёка да фазэнды?

— Ды паўсотні кіламетраў.

— Паўсотні — гэта не адлегласць. Ну, гнаць не давядзецца. Чулі анекдот, як новы беларус набыў шасцісоты «Мерседэс»? Не? Дык слухайце. Значыць, прыдбаў новы беларус шыкоўную іншамарку. Вырашыў пакатацца. Пасадзіў двух сяброў — і па газах! Ляціць на жоўтае, на чырвонае святло. «Стой! — крычыць адзін сябар. — Высадзі мяне. Я так ездзіць не магу». Высадзіў і зноў па газах! Нарэшце не вытрымаў і другі сябар — вылез. А новы беларус імчыць хутчэй. І раптам голас ззаду: «Стой! Спыніся. Болей не магу...». Гаспадар машыны азірнуўся: «Хто ты? Тут жа нікога няма». — «Я твой анёл-ахоўнік», — гучна зарагатаў сусед.

Пасмяяўся і я, хоць мне было зусім не да смеху. Што рабіць? Дзе ўзяць запаску? Ехаць у аўтамагазін, купіць кола з дыскам? Ці хопіць грошай, ды і часу бракуе. Паглядзеў на машыны, што стаялі ў двары. Пазычыць запаснае кола ў каго з суседзяў? Гэта ўсё роўна, што прасіць, каб пазычыў назач сваю жонку. Ды і не кожнае кола падыдзе да маёй калымагі.

— Ат, была не была, — уздыхнуў я. — Пацягнуся памалу.

— За горадам уключыце аварыйную сігналізацыю. Ну, каб ліхачы не мацюкалі вас, што затрымліваеце рух, — параіў сусед.

І я паехаў. Першы раз у жыцці поўз на трэцяй хуткасці. Калі спускаўся з гарыстага ўчастка дарогі, каціўся на «нейтралцы», бо стрэлка, якая паказвала тэмпературу ў радыятары, няўхільна паўзла ўправа да крытычнай адзнакі. Разы тры спыняўся, аглядаў кола. Вочы мае прасілі, малілі гумовы цуды: «Дзеля Бога, не падвядзі. Вытрымай. Ужо недалёка». Па жвіроўцы, якая пры сонцы страшэнна пыліла, поўз, як чарапаха, задыхаўся, як рыбіна на пяску, бо вокны задраіў, а вентылятар дапамагаў слаба.

Нарэшце спыніў машыну каля свайго гаража. Заплюшчыў вочы, сядзеў, бы ў здранцвенні, чуючы, як тахкае за грудзінаю сэрца. Выйшаў з машыны, а ногі нібы ватныя, не хочуць ісці. Перш-наперш выпусціў курэй, тыя лётма кінуліся на падворак, узяліся прагна скубці траву. Абышоў пчальнік, агледзеў яблыні, слівы, прыслухаўся — усё ў парадку. Пчолы дружна вярталіся з поля, дужа багата іх было каля паілкі — значыць, у сем'ях шмат маладняку, які просіць піць, вось ваданосы — пчолы-цыстэрны — і стараюцца.

**IV**

Праз гадзіну зноў выйшаў да пчол. Настрой быў інакшы: за абедам кульнуў кілішак тапалёўкі, каб зняць стрэс, і так хацелася кінуцца на ложак, але перасіліў сябе. З-за хмаркі вылузнулася сонца, дужа шчыра прыпякло. Я сеў на бярозавую калодку каля лазні, вочы самі зліпаліся. Мусіць, на хвілінку задрамаў і прахапіўся ад звону: над сінім каранікам кружыліся пчолы — угору-ўніз, угору-ўніз. Гэта не аблёт маладых пчол, гэтак выходзіць рой. Зірнуў на гадзіннік: без чвэрці пяць. Так позна раі ніколі не вылятаілі. Значыць, чакалі гаспадара.

Уставаць з калодкі не хацелася, назіраў, дзе рой сядзе. Цёмнай хмаркай пчолы мітусіліся над старой яблыняй. На самай вяршыні, на тоўстай, разгалістай галіне, неўзабаве зацямнелася кучка, якая ўвачавідкі расла, набухала, ператварылася ў вялізны, тупаносы трохкутнік. Рой быў велізарны. Якая сіла жыцця! Тыдні два таму з гэтага караніка вылецеў рой-пяршак са старою маткай. Пасадзіў яго ў вольны домік. А з сінім давялося павалэндацца: зняў цяжкі магазін-надстаўку, перабраў усе гнездавыя рамкі, зрэзаў больш дзесятка матачнікаў, пакінуў адзін — самы вялікі. Быў упэўнены, што маладая матка абляталася, апошнім часам сям'я добра працавала. Узгадаў, што ў сям'і было багата пячатнай чарвы, выйшлі маладыя пчолы, зрабілася цесна, адцягнулі новыя матачнікі, падбухторылі маладую гаспадыню ў палёт.

Пад яблыняй стаяла высокая драўляная драбіна, бо ўжо некалькі раёў зняў тут. Разы тры перастаўляў яе, каб льга было дацягнуцца да пчол. І вось з круглаю райніцаю, з распаленым куралём, лыжкаю ў кішэні пчалярскай курткі караскаюся ўгору. Галіны ўверсе спляталіся густа, падступіцца да рою было няпроста. Сяк-так дацягнуўся, прыціснуў райніцу да ствала, адхінуўшы з таго боку накрыўку. Мусіць, я цісканўў пчол, бо тры з іх тут жа пеканулі ў руку. Да пчаліных укусаў арганізм прывык, пухлінаў амаль не бывае, але да болю прывыкнуць немагчыма, як не можа чалавек прывыкнуць да холаду. Праз сетку ўбачыў: пчолы пайшлі, але ж яны будуць ісці доўга, дзе ж ты вытрымаеш, калі рукі-ногі ўжо дранцвеюць. Намацаў у кішэні штаноў матузок, прывязаў райніцу, цяпер ужо мог паварухнуцца, перавесці дых. Дастаў джалы, боль памалу аціхаў.

З вышыні агледзеў вёску. Каля хаты бабы Гэлі пачуўся звонкі смех — ейныя ўнукі гулялі ў бадмінтон. Пад высозным разгалістым дубам гэгалі суседскія гусі. Раз-пораз спяваў мой пеўнік. Кола жыцця каціласа спрадвечным кірункам. У райніцы, па дне сеткі кружыліся пчолы. Значыць, матка яшчэ не зайшла. Падкурыць, падагнаць дымком рой я не мог, бо гніляхі выгарэлі. Асцярожна спусціўся ўніз, размяў косці, распаліў курэль. Не хацелася караскацца зноў угору, але мусіў, бо райніца пацяжэе, можна грымнуцца з пчоламі ўніз. Падкурыў рой дымком — пайшлі дружней і хутчэй. Я павесялеў. Угледзеў на лавачцы бабу Гэлю, заманулася зарагатаць, як тады, вясною.

А па вясне баба Гэля апавядала, як у іхняй вёсцы, а родам яна з-пад Алёхнавічаў, дзед Саўка вызначаў, калі можна сеяць.

— Ён ішоў у поле, здымаў штаны. І, выбачайце за грубасць, садзіўся голым азадкам. А потым казаў: «Зямелька ўжо сагрэлася. Можна сеяць». А гуркі на Пахома сеяў. Здымаў порткі саўсім, адвячоркам завіхаўся на градах.

Дзень хіліўся да вечара. Паветра настывала, свяжэла, ад лесу дыхаў лёгкі вятрыска. Гусак павёў сваю чараду дамоў. Гусі тэпалі адна за адною раўнюткім шнурком, нібы нехта іх добра вымуштраваў. Міжволі згадалася казка Якуба Коласа пра гусей, якія імкнуліся трапіць на прывабны востраў, але плынь вады зносіла іх. Гусі не здаваліся, штодня імкнуліся да вострава. Змаганне з бурлівай плынню гэтак загартавала іх, узмацніла крылы, што аднойчы гусі ўзняліся і паляцелі на прывабны востраў. Нішто на свеце не даецца лёгка. Толькі настойлівасць і ўпартасць даюць плён. І ў творчасці, і ў жыцці. А вучыцца настойлівасці, упартасці і працавітасці трэба ў прыроды, а найперш — у пчол.

Сетку-дно райніцы ўжо спрэс укрылі пчолы. На яблыні іх заставалася мала. У райніцы пчолы аціхлі, супакоіліся, значыць, іхняя царыца тут. Асцярожна адвязаў райніцу, нацягнуў накрыўку. Цяпер настаў самы адказны момант: з цяжкою райніцаю спусціцца па драбіне ўніз.

Нарэшце мае здранцвелыя ногі адчулі цвёрдую зямлю. Уздыхнуў з палёгкаю, ціха парадаваўся: «Ёсць новая пчаліная сямейка». Ды не абы-якая, а вялізная. Да канца лета яна можа абнасіцца, забяспечыць сябе і даць гаспадару пуд мёду. Прыхінуў райніцу бокам да ствала яблыні, ставіць на дно нельга — пчолы задыхнуцца. Хай трохі рой супакоіцца, і можна перасяляць у новую кватэру. Калі абярэш рой удзень, дык райніцу трэба хаваць да вечара ў цёмнае халоднае памяшканне, а тут гэтая працэдура непатрэбная, перасяленне ўжо можна пачынаць.

Раптам пачуў трывожны піск ластавак: у вечаровым небе кружыў малы коршак-перапялятнік. Ластаўкі рашуча, з усіх бакоў пікіравалі на яго, і драпежнік адступаў. Ён ужо кружыў над маёю хатаю, раптам нырнуў на падворак. Вераб'і, што цвіркалі ў падстрэшшы, кінуліся ўрассыпную. Адна птушка з пярэпалаху памкнулася ўгору, каб пераляцець страху — і трапіла ў кіпці драпежніка.

Неспадзявана, на маіх вачах абарвалася птушынае жыццё. Але ў прыродзе такія трагедыі, калі мацнейшы з'ядае слабейшага, адбываюцца штохвілінна. Тыя ж ластаўкі, калі мала камарэчы, хапаюць у палёце пчол. Натуральны адбор не спыняецца ў прыродзе ні на хвіліну. Кола жыцця каціцца без перадыху.

А мяне чакала вялікая радасць: перасяленне рою ў новы дом. Вулей, і сапраўды новы, стаяў пад яблыняй. Заўчора яго прывёз дзядзька Стась з суседняй вёскі. Яшчэ мінулаю восенню завітаў ён да мяне: хачу завесці пчол, можа, дасце рой, а я змайструю вам вулей. Адзін з першых сёлетніх раёў завёз яму, а дзядзька прытарабаніў новы каранік.

Я прынёс драўляны шчыт, заслаў яго абрусам, распаліў курэль, прыставіў райніцу ўпрытык да шчыта, абклаў каменьчыкамі з бакоў, каб не краталася, адхінуў знізу накрыўку. Затым узяў лыжкаю камяк пчол, высыпаў перад лёткай. Некаторыя пчолы скаціліся ўніз, бо шчыт стаяў даволі крута, а некаторыя пайшлі ў дамок. Пыхнуў дымком, спярша нерашуча, а потым усё актыўней, ланцужком пчолы пашыбавалі ў новую кватэру. Ланцужок гусцеў, пашыраўся. Каб не скочвацца ўніз, пчолы ўтварылі жывы пантон на абрусе. Я прыглядаўся, ці ёсць трутні, не, таўсматых трутняў-самцоў не бачылася. Значыць, матка плодная, паспела абляятацца, і трутняў-мужыкоў пчолы не ўзялі ў палёт.

О, якое гэта хвалюючае відовішча, калі нястрымным ланцугом, як Сувораў цераз Альпы, караскаюцца пчолы ўгору! Тысячы маладых працаўніц з бліскучастымі крылцамі таропка, дружна шыбуюць у новы дом. Гарачы мядовы водар ідзе з райніцы, поўнай сціішанага звону. А каля лёткі, на парозе караніка, ужо віруе жывы клубок. Пчолы абляпілі пярэднюю сценку над лёткай — значыць, матка яшчэ не зайшла. Яна звычайна не спяшаецца, чакае, пакуль світа далажыць ёй: кватэра нармальная, так бы мовіць, пчаліная камісія падпіша акт прыёмкі.

А вось і маладая каралева: шырокія плечукі, вузкая талія, даўжэзнае брушка. Нібы модніца на подыуме, пчаліная матка годна, і ў той жа час порстка, прайшла па абрусе і нырнула ў лётку. Неўзабаве пачулася яе папіскванне: я ўжо дома, ідзіце за мной. Паток пчол пагусцеў, пярэдняя сценка ўмомант ачысцілася.

Цяпер я мог смела ісці вячэраць. Праз паўгадзіны ўсе пчолы будуць у новым доме. І там закіпіць праца: адны пачнуць будаваць соты, — будуюць яны талакою і ніводная не схібіць, усё дакладна да міліметра. Вялікая таямніца заключаецца ў гэтым майстэрстве. Іншыя будуць заклейваць праполісам шчылінкі. Праз дзень-два матка пачне адкладваць яечкі: у разгар сезона яна можа насыпаць іх да дзвюх тысяч з паловаю. Сутачны засеў пераважыць вагу самой маткі. Во, дзе сіла жыцця!

Цямнелася, калі падышоў да яблыні. Абрус і райніца былі чыстыя, у новым дамку панаваў сціішаны гул, шаргаценне крылцаў, зрэдку чуўся голас маткі: усё ў парадку, мы тут будзем жыць і працаваць — нібы гаварыла пчаліная каралева.

Над зубчастай сцяною лесу выкаціўся амаль поўны барвяна-жоўты, акурат курыны жаўток, месяц. Раптам дзесьці блізка пачулася: драп-драп, драп-драп — гэта азваўся драч, каралевіч начных палёў і сенажацяў. Ноч уладарыла над Зямлёю.

А дзе зараз Алесева душа, мільганула думка, можа, над роднай Бесяддзю? А мо зазірнула і на пчальнік да мяне? Алесеў дзед быў заўзятым пчаляром. Узгадаліся радкі верша, які Алесь прысвяціў мне:

*Зямная аснова*
*Трывалай была:*
*Прыручана слова,*
*Раіцца пчала.*

Так, пчолы раяцца. А наконт прыручанага слова — не скажы. Гэта намнога складаней. Бывае, б'ешся, як рыбіна аб лёд, каб знайсці свежае, не зацяганае слоўца.

Зірнуў на неба. Месяц падняўся вышэй, пасвятлеў, пачысцеў. Праклюнуліся зоркі Вялікай Мядзведзіцы. Над маёю хатаю непарушна, быццам сярэбраны цвік, мігцела Палярная зорка. І ўсё неба, быццам велізарнае кола, паварочвалася вакол гэтай непарушнай Палярнай зоркі.

**V**

Уранні ўсунуў ногі ў гумовікі, абышоў пчальнік. З новага караніка адна за другою вылятаілі пчолы, кружыліся над сваім жытлом — прыкмячалі ўсё да драбніц вакол яго, каб ніколі не заблукаць, падымаліся вышэй і з радасным звонам імчалі збіраць духмяны, гаючы нектар.

Карцела зазірнуць у гараж. Адчыняю вароты — левае задняе кола спусціла, як гавораць вадзіцелі, капітальна. Машына стаяла на дыску. Што ж, дзякуй табе, анёл-ахоўнік.

А ля сценкі тулілася запаснае кола, гатовае хоць зараз выправіцца ў дарогу.

Кола жыцця каціласа далей.

## Арт-пацеркі

◊ Чарговыя курсы выканальніцкага майстэрства правялі кафедра камернага ансамбля, праблемная навукова-даследчая лабараторыя музыкі ды аддзел міжнародных сувязяў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Гэтыя міжнародныя майстар-класы, што прайшлі пад назвай "III Акадэмія старадаўняй музыкі", прысвячаліся вывучэнню некаторых старонак творчасці кампазітараў XVI—XVIII стст. Г. Алегры, Д. Карысімі, Г. Ф. Гендэля, В.А.Моцарта. Сярод выкладчыкаў былі вядомыя нямецкія музыканты, якія спецыялізуюцца ў выкананні старадаўняй музыкі.

◊ Артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі зрабіліся частымі гасцямі сталічнай філармоніі. Прычына вядомая: жыццё тэатра ва ўмовах адсялення з яго роднага будынка на час капітальнага рамонту. Тэатр оперы атрымаў магчымасць паказваць свае спектаклі на сцэне Цэнтральнага дома афіцэраў кожны месяц, але толькі на працягу тыдня. Затое ў Малой філарманічнай зале, якая носіць імя Р. Шырмы, цяпер даволі часта ладзяцца сапраўдныя святы для прыхільнікаў опернага жанру — адбываюцца сольныя канцэрты і творчыя вечары іх улюбёных артыстаў. Не так даўно тут гучаў голас Мікалая Майсеенкі, які адзначыў 25 гадоў сваёй працы ў тэатры; ладзілася вечарына лаўрэата многіх конкурсаў Алега Мельнікава, выканаўцы галоўных басовых партый у "Барысе Гадунове", "Хаваншчыне", "Князі Ігары", у іншых операх, — "Ад шчырага сэрца з вялікай пашанай". А 25 сакавіка мае адбыцца творчы вечар Алены Шведавай "Кахай, пакуль дадзена кахаць...". Дарэчы, спявачка сёлета ўжо сёмы раз атрымала запрашэнне на гастролі ў Італію ды Іспанію з яскравай праграмай "Штраус-гала". Яе палётнае сапрана можна пачуць у партыях Разіны ("Севільскі цырульнік"), Царыцы Ночы ("Чарадзейная флейта"), Джыльды ("Рыгалета") ды іншых спектаклях тэатра, у канцэртных імпрэзах.

◊ У зале Беларускага саюза кампазітараў адбылася мемарыяльная вечарына-канцэрт, на якой прыгадвалі імя Веры Сізко — вядомай у свой час музыказнаўцы-асветніцы, педагога, актыўнага дзеяча Саюза кампазітараў. Доўгія гады В. Сізко была і актыўным аўтарам "ЛіМа": выступала з музычна-тэатральнымі рэцэнзіямі, крытычнымі артыкуламі па праблемах кампазітарскай творчасці, пісала творчыя партрэты выканаўцаў і г.д. З дня яе нараджэння мінула 90 гадоў.

◊ Разнастайнае канцэртнае жыццё віруе ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Прычым, уваход на канцэрты бясплатны. Адметнасць сакавіцкай афішы — вечары вакальнай музыкі: канцэрт маладых спевакоў, у падрыхтоўцы якога ўдзельнічаў клас прафесара Т. Ніжнікавай і дацэнта П. Рыдзігера; сольная праграма Лідзіі Кузьміцкай, вядомай артысткі, якая набыла папулярнасць і як салістка Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра. На заўтрашні вечар замоўлены канцэрт класа прафесара А. Генералава, у панядзелак, 20-га, выступяць выхаванцы класа дацэнта Л. Каспорскай, прафесара Л. Івашкова.

◊ "Інтрада", знаны ансамбль трубачоў, што працуе ў складзе Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі, 20 сакавіка выступіць у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Канцэрт адбудзецца ў Малой зале імя Р.Шырмы. Маладыя музыканты пад кіраўніцтвам прафесара М. Волкава падрыхтавалі разнастайную праграму з твораў старадаўняй беларускай музыкі і нашых сучаснікаў Я. Глебава, Г. Гарэлавай, У. Каральчука, а таксама І. С. Баха, В. А. Моцарта, Д. Бартнянскага, М. Глінкі, А. Анегера.

**С. ВЕТКА**

***Калі па небасхіле, ледзь азораным празрыстымі промнямі яшчэ не абуджанага сонца, таямнічымі ценямі лятуць велічныя птахі ды мякка апускаецца лебядзіная чарада на азёрную гладзь, міжволі падумаеш: ці не такім казачным прывідам быў натхнёны вялікі кампазітар, стваральнік "Лебядзінага возера"? Пяшчотна кранаў ён то бялюткія, то чорныя клавішы раяля, і, магчыма, у гэтыя імгненні нараджаліся чароўныя гукі, якія сёння, як і 130 гадоў таму, натхняюць на творчы пошук і самавыяўленне музыкантаў, балетмайстраў, артыстаў.***



# МРОІ — КАЗАЧНАЙ ПТУШКАЙ...

## З НАГОДЫ АДНОЙ РОЛІ

У тэатральным свеце жыве і ствараецца штодня вялікая колькасць вобразаў, якія розняцца якасцю, выразнасцю, эмацыйным уздзеяннем на гледача. Сярод іх ёсць удалыя, адметныя, буйныя, лёсавызначальныя ў творчасці пэўнага артыста. Ёсць і вельмі маленькая купка такіх сцэнічных вобразаў, якія жывуць у мастацтве ўжо многія гады, нават стагоддзі, і зрабіліся сапраўднымі сімваламі. У іх сканцэнтраваная ўся моц спецыфічнага ўздзеяння таго альбо іншага віду, жанру тэатральнага мастацтва, квінтэсенцыя зменлівых формаў і глыбіня зместу.

Відавочна, што і для прафесійнікаў, і для аматараў балета гэтае пачэснае месца легендарнага сімвала займае вобраз дзяўчыны-лебедзя і, адпаведна, партыя Адэты-Адыліі з "Лебядзінага возера". Тут у найбольш поўным выглядзе адлюстравана сутнасць акадэмічнага танца, кульмінацыя яго развіцця. Нездарма крытыкі называюць гэтую партыю хрышчэннем балерыны на сапраўднае творчае жыццё ў мастацтве. Тут падчас выканання танцавальных "па" адбываецца магічнае яднанне цела і душы артысткі, яе талента і адшліфаванай тэхнікі, далучэнне сённяшніх магчымасцей да стагоддзямі выпрацаваных узораў класічнай харэаграфіі.

Вядучая салістка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі Вольга Гайко пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа (1997г., клас І. Савельевай) адразу была запрошаная ў трупу тэатра, дзе ўжо на наступны год станцавала галоўную партыю ў "Лебядзіным возеры" П. Чайкоўскага. Партыя Адэты-Адыліі для маладой артысткі — гэта найперш рэалізацыя дзіцячай мары пра цудоўнае ператварэнне ў казачную прынцэсу. Гэта і спраўджаныя спадзяванні наконт свайго месца на вялікай балетнай сцэне, гэта і вялікае абуджэнне, узрушэнне ўсіх пачуццяў, гэта трапятлівая радасць ад самой магчымасці выступіць у славутай ролі. Тады былі яшчэ і няверʼе ў сапраўднасць таго, што збывалася, і трывога за вынік, і разуменне, што адным разам наўрад ці ўдасца напоўніцу ажыццявіць усё, пра што думала, што бачыла ў снах.

"Ні ў якім разе не параўноўваючы сябе з выдатнымі выканаўцамі, — гаворыць Вольга Гайко, — спрабую аналізаваць іх творчасць, вылучаю пры гэтым галоўнае. Стараюся не імітаваць, а зразумець асаблівасці, прыкмеціць цікавыя дэталі, логіку пабудовы ролі і тыя сродкі пластычнай выразнасці, якімі карысталіся славутыя балерыны мінулага. А бліжэй за ўсё мне, відаць, вобраз, увасоблены Маяй Плісецкай. Але ж гэта не ўзор для капіравання, а падстава для пошуку арыгінальнага прачытання партыі. З вялікай удзячнасцю ўспрымаю парады і заўвагі педагогаў-рэпетытараў, якія са мной працуюць над гэтай роллю, — народных артыстаў Беларусі Людмілы Бржазоўскай і Юрыя Траяна".

Галоўная партыя ў "Лебядзіным возеры" сталася для балерыны цудоўнай магчымасцю з першых крокаў прайсці тэст на прафесійную годнасць. Яе танец у гэтым спектаклі арганічна нараджаецца з лірычнасці меласу П. Чайкоўскага, успрымаецца як зрокавае ўвасабленне музыкі спецыфічнымі сродкамі харэаграфічнага мастацтва. Ствараецца элегія, у якой тоіцца сапраўднае драматычнае напружанне. Рухі артысткі, якія напачатку плаўна таюць, спакваля, у працэсе развіцця танцавальных фраз наліваюцца сілай, упэўненасцю — і тады, пад узнёслыя гукі адажыо, нібы ўся яе пастава апявае чысціню памкненняў дзівоснай гераіні. Падоўжаныя арабескі, пералівістыя сюіві, ледзь пазначаныя па-дэ-ша, як вершаваныя радкі, складаюца ў паэму пра прыгажосць. Рукі-крылы вядуць сваю музычную партыю...

У гэтым вобразе В. Гайко імкнецца злучыць строгія рысы красуні-каралевы лебедзяў з пяшчотнай кранальнасцю закаханай дзяўчыны, у харэаграфічных маналогах і дуэтах расказаць пра сваё пачуццё, у зрокавых формах падаць мелодыю наіўнай мары пра шчасце быць каханай і быць з каханым, упрыгожваючы малюнак сваёй ролі няспешнасцю лёгкіх схіленняў, ласкавых позіркаў, далікатнасцю дотыкаў далоні. У загадкавасці ды зачараванасці такой Адэты зрэдчас праглядае гарачая пульсацыя жыцця, калі яна нібыта абуджаецца і вочы пачынаюць зіхацець надзеяй і радасным чаканнем.

Абʼёмнасць і шматпланавасць увасаблення вобраза падтрымліваецца чысцінёй дасканалых ліній грацыёзнай постаці, бязважкасцю палётаў, летуценнасцю поз. Ва ўсім гэтым сінтэзуюцца строгасць класічнага танца і духоўная шчодрасць, абаяльнасць акцёрскага драматычнага дару балерыны.

Сучасная выканаўца прыносіць на сцэну імклівы рытм і нястрымнае жаданне ствараць, надае непаўторнасць і красамоўнасць танцу, у значнай ступені праз асэнсаванне таго "што", ці "пра што" яна паведамляе гледачу.

Вельмі добра, калі і ўнутранае, і знешняе хараство падпарадкоўваюцца прыгажосці вобраза: гэта робіць артыстку прывабнай, а яе творчасці надае дасканаласць. Неаднойчы даводзілася назіраць, як тая ці іншая артыстка, красуня ў жыцці, страчвала сваю чароўнасць, толькі ступіўшы на сцэну, і, наадварот, някідкая "папялушка" зачароўвала, па-майстэрску выкарыстоўваючы дзеля гэтага, апроч сваёй бліскучай тэхнікі выканання харэаграфіі (без чаго, зразумела, няма і гаворкі пра поспех), таксама і сцэнічную абстаноўку, касцюм, асвятленне, грым і г.д. Вольга Гайко добра ведае, калі трэба заставацца сабою, калі патроху прачыняць патаемныя куточкі душы, а калі здзівіць навізною аблічча нечаканага, незнаёмага. Яе здольнасць пераўтвараць прозу ў паэзію, звычайны скачок у палёт, а танец у зʼяву, адразу вызначае наяўнасць таленту менавіта творчага, выклікае цікавасць як да самой асобы, так і да таго, што яна стварае, і да балетнага спектакля цалкам.



Асаблівая каштоўнасць сапраўднага шэдэўра, відаць, і заключаецца ў тым, што, колькі б разоў ні глядзеў "Лебядзінае возера", заўжды з цікавасцю чакаеш магічнага моманту зʼяўлення другой гераіні, а дакладней — пераўвасаблення выканаўцы партыі Адэты-Адыліі, з якім непасрэдна звязаны сюжэтныя калізіі балета. Унікальны сінтэз геніяльнай музыкі П. Чайкоўскага і геніяльнай харэаграфіі М. Пеціпа ды Л. Іванова тут сапраўды палоніць.

Адылія ўрываецца на сцэну, як спякотны вецер пустэльні, спусташальны і неўтаймоўны. Дастойная дачка злога генія, яна хавае варожасць пад крывадушнай маскай. Спакусіць прынца Зігфрыда, падманам дамагчыся мэты — гэта шалёная гульня захапляе Адылію. Для яе важна — перамагчы з асалодай, а потым ужо можна і агаломшыць героя халодным позіркам.

Чараўніцтва наслання ў асляпляльным ззянні каштоўных камянёў выпраменьвае Адылія, калі ў яе пераўвасабляецца Вольга Гайко. Выразная рэльефнасць і завершанасць поз, дакладнасць і акуратнасць супыненняў, дзёрзкасць эфектных аціцюдаў, батманаў і тут ужо калючых арабескаў надаюць пластычнай гучнасці танца завостранасць фехтавальнага ўдару. Аднак такая Адылія не робіцца простым антыподам Адэты, дачка злога чарадзея не падаецца выканаўцай як выключна адмоўны персанаж. У яе душы бушуе моцнае пачуццё, яе каханне — спапяляльны агонь, і ўся яна — як пякучы... халодны лёд. Ды часам балерына наўмысна змякчае характарыстыкі, і тады здаецца, што гэта сама Адэта іграе ролю дрэннай капрызніцы, задаволенай сабою і самалюбнай свавольніцы, якая ад маркоты забаўляецца любоўнай гульнёй.

Гэты выбуховы кактэйль пачуццяў дзейнічае, як цудоўны эліксір, бо да яго дадаецца віртуознасць высокага выканальніцкага майстэрства салісткі, якая, што называецца, укладае ў танец і часцінку свайго сэрца. Адылія то дражніць Зігфрыда шчодрасцю абяцанак у тэмпераментным руху, то абрывае дыялог бліскучым аціцюдам. Ланцужок іх узаемаадносін часам нагадвае гульню коткі з мышкай, калі драпежніца не спяшаецца схапіць ахвяру, робіць паўзы, любуючыся вынікам сваіх дзеянняў.

Ствараецца ўражанне, што Вольга Гайко імкнецца прадэманстраваць у гэтым спектаклі ўсе свае тэхнічныя і акцёрскія здольнасці, увесь запал маладога мастака, які жадае адразу здзівіць публіку неўтаймоўнай энергіяй, шчырым выбухам эмоцый, што віруюць у душы. Усё гэта з бляскам удаецца ёй у знакамітым па-дэ-дэ Адыліі і Зігфрыда. Увачавідкі пераўтвараецца балерына: жорсткім і пэўным робіцца крок, імклівай стралой — "кідок" гранбатманаў, колкімі — па-дэ-бурэ... Дзесьці тут, сярод высокіх узлётаў і грацыёзных спыненняў вытанчанага сілуэта, выспявае кульмінацыя харэаграфічнага вобраза. Ступень напружання, яркасць раскрыцця вобраза, тэхнічная складанасць дапамагаюць вызначыць, што менавіта тут — эмацыйная вяршыня дзеяння. Далей пойдзе спад.

Пры ўсім захапленні багаццем таленту Вольгі Гайко вельмі не хацелася б, каб у чытача ўзнікла думка, быццам сёння на беларускай сцэне зʼявілася вось такая прыма сусветнага балета. Пакуль што гэта, на жаль, — толькі мара аўтара. Мара можа ажыццявіцца, бо справіцца з асобнымі недакладнасцямі — па сілах вядучай салістцы тэатра.

Усім добра вядома, што каралеву робіць світа, а без вартых партнёраў па спектаклі цяжка ўдасканальваць майстэрства. Сцэнічны грым, яўна няўдалы, робіць маладую абаяльную гераіню больш падобнай да строгай настаўніцы. Ёсць некаторыя праблемы з тэхнікай выканання фуэтэ, і шкада, калі "школьныя" недапрацоўкі даводзіцца праз пот і слёзы пераадольваць гадамі пакутлівай працы.

Сцэнічнае жыццё Адэты-Адыліі ў выкананні Вольгі Гайко поўніцца глыбінным зместам, які жывіць свет існавання самой балерыны: яе марамі, надзеямі, памкненнямі, трыумфамі і расчараваннямі. Яе маленькае сэрца змяшчае вялікае пачуццё, якое ўзвышае і здатнае растапіць самы каляны лёд абыякавасці. Шчодра дзелячыся запаветнымі эмоцыямі, артыстка напаўняе строгія класічныя "па" пранікнёным псіхалагізмам, не баючыся захлынуцца ў высокай хвалі душэўных парыванняў. Асабліва прываблівае творчая смеласць і неўтаймоўнасць гарачага жадання стварыць непаўторна яркі сцэнічны вобраз у спалучэнні з удумлівай безупыннай працай над партыяй — ад спектакля да спектакля. Усё гэта дае падставу верыць, што таленавітая балерына мае перспектыўную магчымасць зрабіць Адэту-Адылію сваёй сапраўднай зоркавай роллю.

**Ясь КАВАЛЕВІЧ**

***Фота аўтара***

# ХАДЗІЛІ «НА СЯРДОБАВА»

***Адзін з нядаўніх паказаў спектакля "Севільскі цырульнік" Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі прысвяціў памяці народнага артыста нашай рэспублікі Мікалая Сярдобава і прымеркаваў да 100-годдзя з дня яго нараджэння.***

Выдатны спявак, ён увайшоў у плеяду слынных беларускіх барытонаў, якія працавалі ў тэатры і набывалі славу ў розныя гады: М. Дзянісаў — М. Ворвулеў — І. Сарокін — А. Саўчанка... Каму ж не пашчасціла бачыць і чуць у спектаклях Мікалая Сярдобава, магчыма, памятаюць яго як стваральніка і кіраўніка Мінскай народнай опернай студыі пры Палацы культуры Белсаўпрофа — нашага знакамітага народнага опернага тэатра.

Мікалай Сярдобаў нарадзіўся ў Самары ў 1905 годзе. Скончыў Самарскі музычны тэхнікум, працаваў у оперным тэатры роднага горада, а затым у тэатрах Пермі, Свярдлоўска, Ерэвана. У 1940 годзе, пасля выступлення з ерэванскім оперным тэатрам на Першай дэкадзе армянскага мастацтва ў Маскве, стаў заслужаным артыстам Арменіі. Ганаровым званнем ён быў адзначаны за бліскучае выкананне на армянскай мове галоўных партый у нацыянальных операх "Аршак II" Ц. Чухаджана і "Алмаст" А.Спендзіярава. Якое ж было здзіўленне афіцыйных асоб, калі падчас узнагароджання высветлілася, што М. Сярдобаў зусім не ведае армянскай мовы! Гэта не перашкодзіла яму ўвайсці ў лік пачынальнікаў армянскага нацыянальнага опернага мастацтва.



Вялікая Айчынная... У тыя гады Мікалай Сярдобаў працаваў у Свярдлоўску, спяваў поруч з артыстамі славутага Марыінскага (на той час Кіраўскага) тэатра, трупа якога часткова была эвакуіравана з Ленінграда. У новай оперы С. Васіленкі "Сувораў" ён выразна ўвасобіў вобраз легендарнага палкаводца. Калі артыст з'ехаў, "Суворава" мусілі зняць з рэпертуару. Бо высветлілася, што свердлаўчане хадзілі ў оперу менавіта "на Сярдобава", і без яго спектакль, які страціў публіку, выратаваць не ўдалося.

У Мінск ён прыехаў у 1946 годзе і стаў адной з сапраўдных зорак першага пасляваеннага пакалення спевакоў тагачаснага Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра БССР. Акрамя роляў у класічным рэпертуары (Яўгеній Анегін, Рыгалета, Жорж Жэрмон, Аманасра, Эскамільё, Скарпіа, Фігара), артыст вылучыўся прэм'ернымі работамі ў беларускіх операх, і лепшымі сталіся ролі Кастуся Каліноўскага ў аднайменнай оперы Д. Лукаса і Дзяніса Давыдава ў "Надзеждзе Дуравай" А. Багатырова. У 1955 годзе Мікалай Сярдобаў быў ганараваны званнем народнага артыста Беларусі.

Год 1960-ы. Спявак пакінуў сваю сольную кар'еру і пачаў увасабляць набыты досвед — у педагогіцы і, з асаблівым поспехам, у рэжысуры. Больш як чвэрць стагоддзя ён працаваў у опернай студыі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер Акадэмія музыкі). На працягу 27 гадоў (1960—1987) таленавіта кіраваў Мінскай народнай опернай студыяй Палаца культуры Белсаўпрофа.

Гэтая студыя стала адзіным у колішнім СССР самадзейным оперным калектывам, якому быў нададзены статус народнага. У 1965 годзе студыя была запрошана ў Маскву, дзе на сцэне агромністага Крамлёўскага палаца з'ездаў паказала спектакль "Травіята" ў пастаноўцы М. Сярдобава. Цяжка паверыць, але ўсе ролі ў ім выконвалі самадзейныя артысты. Партыю Віялеты, напрыклад, спявала... супрацоўніца сталічнага ГУМа Дыяна Угоднікава.

Наогул, студыя пад кіраўніцтвам М. Сярдобава была з'яваю адметнай. Менавіта ў ёй пачыналі свой творчы шлях многія вядомыя спевакі як акадэмічнага, так і эстраднага напрамкаў: Віктар Вуячыч, Анатоль Падгайскі, Дзмітрый Марозаў, Аркадзь Валадось. Спектаклі гэтага унікальнага і папулярнага народнага опернага тэатра заўжды праходзілі пры перапоўненых залах. За ўвесь час існавання студыі тут было пастаўлена 16 опер. Прычым, сярод іх — шмат малавядомых, але вельмі арыгінальных твораў розных часоў і стыляў. Гэта і зінгшпіль XIX стагоддзя пра Пятра Першага "Цар і цясляр" А. Лорцынга, і часткі пучыніеўскага трыпціха — "Плашч" ды "Джані Скікі", і опера пра грамадзянскую вайну "Жорсткасць" Б. Краўчанкі ды іншыя цікавыя творы.

Дзейнасць Мікалая Сярдобава ў якасці кіраўніка гэтай студыі была адзначана вышэйшай урадавай узнагародай — ордэнам Леніна: факт сам па сабе красамоўны.

Мікалай Сярдобаў — наша гісторыя і легенда, гонар беларускага мастацтва, культуры. Спявак і рэжысёр, музычны дзеяч. Яго Вялікасць Артыст!

**Алена ЛІСАВА**

***Фота забяспечана аўтарам***

## ПЕРАКЛАДЫ

**ЗОРАН КОСЦІЧ**



*Зоран Косціч (1948 г.н.) — сербскі паэт, перакладчык, публіцыст, драматург, грамадскі дзеяч, сакратар таварыства "Сербія — Расія", член Саюза пісьменнікаў і Сербіі, і Расіі, старшыня Саюза пісьменнікаў і Усеславянскага сабора Рэспублікі Сербскай. Аўтар вершаваных зборнікаў "Першыя плады" (1984), "Дэльта бацькі" (1986), "Санеты" (1987), "Хто мы" (1988), "Чуллівыя хвасты" (1990), "Кацёл" (1992), кнігі выбраных вершаў "Вогненны трызубец" (1997), "Хатні ачаг" (1999), кнігі драматургічных твораў "Дарога ў Царград" (2004). Лаўрэат высокіх літаратурных прэмій — імя Віта Нікаліча (1997), імя Лазы Косціча (1998), а таксама тэатральнага фестывалю "Залаты віцязь", які праходзіў у Мінску ў 2005 годзе.*
*Нарадзіўся Косціч у сталіцы Чарнагорыі, пасля жыў у Бялградзе і Маскве, а цяпер — Баня Луцы.*

### КОСАЎСКАЯ БІТВА

*Хіба хто з косаўскіх герояў*
*на досвітку дня*
*Відава падумаць мог,*
*што будучыню страчвае*
*на полі бою,*
*што ноч наступная*
*нясе стагоддзяў змрок,*

*і будзе пад ярмом гібець*
*(калі наогул выжыве),*
*што развітаецца ў той дзень*
*з ім сонца —*
*як ніколі блізкае —*
*з шаблі і шчыта знікне,*
*спачатку, а таксама з крыві,*
*пасля бітвы,*

*калі месяц-маладзік*
*засвеціць пераможцу,*
*а ўвесь наш небасхіл*
*застанецца змрочны.*
*Пасля Мілаша Обіліча*
*ўсе мы з ліхам у вачах.*
*Відаць, Мілаш —*
*апошні серб-сябар*

*мірнавокі, рахманы*
*і змагацца гатовы*
*з досвітку самага,*
*бо толькі з такімі вачамі*
*можна было зайсці*
*ў шацёр да султана*

**1983**

### АБЯЦАННЕ

*Я з мёртвых стаў між жывымі,*
*і цяпер гэтага не разумею.*
*Мяне даймаюць паветра, вада,*
*лугі і палеткі (чаму я не маю*
*і таго, што атрымаў),*

*надта цяжка адвыкнуць*
*ад смерці,*
*у якой істотна, што ёсць чыё;*
*а тут законамі —*
*ці гэта дазволы,*
*ні забароны, —*
*прыціскае мяне,*
*па сваёй волі,*

*свет, які са смерцю,*
*як я, не знаўся,*
*але з-за пыхі не здольны*
*ўсвядоміць:*
*ён толькі рушыў туды, адкуль*
*прыйшоў я і вось чакаю,*

*каб ён таксама сюды*
*вярнуўся —*

*неспрактыкаваны*
*ды неразумны,*
*і пасля пекла, неадпаведны*
*ранейшай ролі,*
*бо мы з ім станем*
*тады на роўных —*
*ён зразумее мяне*
*праз боль свой, які дагэтуль*
*быў маім болем.*

**1983**

### БЯЛГРАД У МІРНЫ ЧАС (1991—1996)

*Што гэта за краіна? Дзе мы?*
*Нашых б'юць і рэжуць,*
*а мы ўсё з песнямі,*
*хоць і ў жалобе,*
*скачам на хаўтурах*
*свайго роду.*

*Ведаем, хто яны — тыя,*
*што кроў змываюць.*
*Але хто ж мы, якія*
*з той самай рэчкі,*
*ніжэй па плыні,*
*ваду п'ем напалову*
*з братоў крывёю?*

*Нібы хаваем*
*і ад сябе саміх*
*свае раны,*
*не прызнаючы,*
*што смыляць яны*
*— хто ж мы такія і калі*
*гэткія здольнасці набылі?*

*Як ты, Каінград,*
*застаўся глухі і тады,*
*калі па Саве і Дунаі*
*прыплывалі кавалкі сербаў,*
*у вярхоўях парэзаных?*

*Нават пры тых жахах*
*ты не сказаў ні слова —*
*ні ў спачуванне,*
*ні ў асуджэнне.*
*Там — вынішчэнне,*
*тут — здраднікаў баляванне,*
*спевы і скокі*
*на берагах рэк,*
*якія прынеслі братоў астанкі.*

**1996**

**Пераклад з сербскай мовы І. ЧАРОТЫ**

# РОК СУПРАЦЬ СНІДу

Менавіта такі канцэрт-акцыя адбыўся ў Навадворскім (недалёка ад сталіцы) доме культуры. Там выступілі чатыры гурты — "Primera", "Usplesk", "L.I.P" і "9 Вал". Арганізатарамі гэтай імпрэзы, прысвечанай вядомай праблеме XX стагоддзя, сталі Аляксей Манчукевіч і Дзмітрый Грыгор'еў — басіст з барабаншчыкам групы "9 Вал". Гэта іх першая арганізатарская спроба, і я хачу верыць, не апошняя. Хаця сярод замоўленых гуртоў былі даволі вядомыя і плата за ўваход мізэрная, навадворская моладзь не вельмі жадала паслухаць рокераў (а жаданне музыкаў граць не толькі ў мінскіх клубах — гэта добра). Але сяк-так білеты раскупілі.

Адкрываць імпрэзу даручылі найбольш маладому калектыву "Primera". Рок з дамешкам готыкі вельмі садзейнічаў усталяванню глабальна-філасофскага настрою. Можа, і не толькі ў мяне. Дарэчы, вельмі незвычайна глядзеўся басіст — хлапец гадоў трынаццаці — разам з амаль што дзядзькамі. Пасля ў канцэрт уліўся спецыфічны хардкор — маладзечанскі гурт "Usplesk" з вельмі эксцэнтрычным вакалістам. Трэцімі да мікрафона выйшаў "9 Вал". Дарэчы, тут граюць амаль усе ўдзельнікі папулярнага гурта "Taxi" (які нядаўна распаўся). Таму аматары меладычнага рока са скрыпкай і жаночым вакалам, бярыце на заметку! На гэтым канцэрце я ў чарговы раз пераканаўся ў прафесійнасці і амаль геніяльнасці гэтых людзей.

А перад выхадам "L.I.P." арганізатары правялі невялікі лекторый. Доўга "грузіць" тэорыяй, статыстыкай і фактамі не сталі. А для слухачоў, напэўна, большы эфект мела просьба са сцэны іх аднагодкаў-музыкаў проста яшчэ раз задумацца і зрабіць свой выбар... Пасля чаго "L.I.P." усё ж разварушыў залу. Нават "парваў". Энергетыкай былі здзіўлены і самі музыканты. Але гэта не ўсё. У час выступлення вакаліст гурта Аляксей Лапухоў пачаў дарыць дзяўчатам, якія прысутнічалі ў зале, ружы. Пасля засыпаў пялёсткамі ўсю сцэну. Незвычайна і прыгожа. Праўда, што кветкі сімвалізуюць жыццё?...

**Алесь КІРЫКОВІЧ**

***Фота аўтара***



# МАЁ ФАНТОМНАЕ КАХАННЕ

**Таццяна БАРЫСЮК — паэтэса і літаратуразнавец. Нарадзілася ў Мінску. Скончыла Мінскае педвучылішча № 1, філфак БДУ, аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, дзе працуе малодшым навуковым супрацоўнікам. Сябра суполкі "Літаратурнае прадмесце". Аўтар кнігі вершаў "Аўтапартрэт". Друкавалася ў зборніках "Літаратурны квартал", "Панядзелак", "Дзень паэзіі-2005".**

— Для мяне творчасць – сродак самапазнання і самавыяўлення, спроба вынайсці новае, развіваючы патэнцыял традыцыйнага, асэнсаваць тое, што мне блізка і што хвалюе. Гэта надзея застацца ў сваіх вершах пасля фізічнай смерці, спроба выказаць сваё светаўспрыманне праз вобраз адметнай лірычнай гераіні, у якой свой лёс, біяграфія, вонкавы выгляд і духоўны шлях.

**— Якім быў пачатак?**

— Прыкладна з васьмі гадоў пачала складаць вершы і казкі на рускай мове. З самай ранняй творчасці захавалася кніжачка казак і верш "Мой папа", набраны мной на друкавальнай машынцы і падпісаны бацькавай рукой "6.X.1980". Памятаю, што свае вершы па просьбе настаўніцы чытала ў 2-м класе СШ № 138. Потым перайшла ў СШ № 149, дзе без зацікаўленага асяроддзя то вершавала, то перастала на даволі працяглы час. У педвучылішчы з дзвюма сяброўкамі пісалі "калектыўныя" гумарыстычныя рыфмаванкі аб нашым жыцці і паралельна – для сябе – пісала сур'ёзныя творы. У 16 гадоў пазнаёмілася з будучым першым мужам, вершы якому прысвячаю аж да гэтага часу. А на філфаку падчас "бульбяных" прац Валерка Булгакаў і Юрась Бушлякоў, якія вучыліся ў маёй групе, параілі пісаць па-беларуску. (Хоць першы верш па-беларуску напісала ў педвучылішчы на ўроку беларускай мовы.) Мой бацька часам рыфмаваў віншаванкі для сяброў, але сур'ёзна скіраваўся на паэтычны шлях толькі ў 1986 годзе (у 48 гадоў), прыемна ўразіўся маім публікацыям вершаў і рэцэнзій з 1993 года, а пазней і сам пачаў друкавацца ў газетах і выдаў кнігі вершаў на рускай мове "Поиск истины" (1995) і "Поиск истины продолжается" (2000). Вельмі ўдзячна яму за "паэтычныя гены" і маім настаўнікам: са школы – Галіне Мікалаеўне Багданавай і з педвучылішча – Леаніду Антонавічу Бялевічу і Івану Іванавічу Пратасеню за цікавасць да маіх творчых здольнасцей.



**— Што яшчэ можаш распавесці пра свае карані, радавод, настаўнікаў?**

— Складаннем свайго радаводнага дрэва з максімальным паглыбленнем у мінулае займуся ў бліжэйшы час. Радавод па бацькавай лініі складаў брат майго дзеда ў Антопалі з 1961 года, шмат звестак і схемы ў выглядзе канцэнтрычных кругоў для сябе выпісала (там зафіксавана радня да прапрадзедаў). Па мамінай лініі радавод пачала складаць сама з 1995 года, але звесткі знайшла толькі да прадзедаў. Я ганаруся сваім родам і сына Андрэя вучу браць прыклад з дзеда – каб вырас разумным і сумленным чалавекам. А любімы трэці муж выхоўвае ў ім мужчынскі характар. Жыццёвыя настаўнікі – бацькі. Мой светапогляд фарміраваўся пад іх уплывам. Безумоўна, звяртала ўвагу на лёсы сваякоў, сяброўак, калег. Узважвала, інтуітыўна і свядома-аналітычна, плюсы і мінусы іх жыццяў для адказу на пытанне, якім хачу бачыць сваё жыццё. Мой першы літаратурны настаўнік – Пушкін, бо пачала пісаць пад уражаннем чароўнай мелодыкі, энергетыкі і жывапісальнасці яго радкоў. Дапамагалі фарміраваць эстэтычны густ многія творы беларускіх і замежных пісьменнікаў, якія вывучала на філфаку.

**— Галоўны твор літаратара. Якім ён павінен быць? Калі ён можа быць напісаны?**

— Гэта не заўсёды можа вызначыць сам літаратар. Часцей вызначаюць нашчадкі. Галоўныя творы яскрава выяўляюць індывідуальнасць, радзіму і сучаснасць пісьменніка. Яны арыгінальныя і цікавыя ў ідэйным, вобразным і жанравым планах. Жанры, акрамя зместава-фармальных правіл, нясуць на сабе адбітак светапогляду і стылю іх стваральніка. Як тэрцыны захоўваюць дантаву энергетыку, так зноймы, вершаказы, пункціры і квантэмы будуць асацыятыўна звязвацца з асобай Алеся Разанава. Наконт калі... Лічыцца, што паэт лепшыя творы піша да 40 гадоў. Але, на маю думку, усё індывідуальна. Творчы ўзлёт залежыць ад інтэнсіўнасці энергапатэнцыялу аўтара, яго актыўнасці ў спасціжэнні свету, людзей і сябе самога, у высокай патрабавальнасці да мастацкага ўзроўню сваіх твораў, у стаўцы на індывідуальнасць. Узрост – таксама ўплывовы фактар, але не галоўны.

**— Якім было першае каханне?**

— Фантастычным! Я дагэтуль удзячна лёсу за тое, што сустрэла чалавека, які здолеў падарыць мне магутнае натхненне працягласцю ў 18 гадоў. Пазнаёміўшыся з ім, я перайшла ад вершаваных практыкаванняў да сур'ёзнай паэзіі, дзе асэнсоўвала, хто я, якім будзе лёс, ці будзем мы разам. Маё майстэрства павышалася таксама дзякуючы першаму мужу: хіба магла я каханаму прысвячаць дрэнныя вершы?..

**— Як нарадзілася фантомнае каханне?**

— Фантомнае каханне да мяне прыйшло як экзістэнцыйнае выратаванне. Гэта быў час, калі я доўга была адна пасля смерці другога мужа. Інтуітыўна прадчувала, што хутка сустрэну лёсаноснага мужчыну. Але жыць і радавацца жыццю пасля доўгай пякельнай скрухі хацелася цяпер, як хацелася і пісаць добрыя творы. А натхнення не было. Доўгі час. Заўважыла, што падабаюся аднаму чалавеку. У адказ на гэтую сімпатыю стварыла сваё "фантомнае каханне" – чыстае, ментальна-віртуальнае, "на адлегласці", без адзінага слова на гэту тэму з яго прататыпам. Як "сур'ёзная гульня ў Дантэ з Беатрычэ", словамі з майго верша. У гэты перыяд фантомнага кахання напісалася шмат добрых твораў. Я і цяпер адчуваю прысутнасць гэтага чалавека ў маім жыцці, з удзячнасцю ўспамінаю пра яго. На сённяшні розум, "фантомнае каханне" можна ўспрымаць як метафару кахання ўвогуле: яго аб'ект недасканалы, а пачуццё – плод фантазіі і яшчэ большы прывід, чым сам чалавек, які жыве мала і знікае ў прадонні іншасвету... І яшчэ: шчаслівае каханне супрацьпаказана паэтам. Якасць вершаў ад гэтага пагаршаецца (з уласнага вопыту). Я лічу, што без кахання паэт мёртвы, ён нараджае рыфмаваную алгебру, а не паэтычную гармонію. У вершах люблю не толькі асэнсоўваць нюансы і паўтаны кахання, а таксама філасофстваваць, назіраць за зменамі ў прыродзе і ў сваёй душы.

**— Як нараджаюцца вершы?**

— Часцей — ад думак і пачуццяў, якія лічу для сябе значнымі. Таму мае вершы пераважна аўтабіяграфічныя (адсюль назва кнігі – "Аўтапартрэт"). Многія творы пішуцца ў дарозе – як эмацыйнае асэнсаванне навакольнага краявіду, тых яго прадметаў, за якія "чапляецца" позірк у пошуках незвычайных асацыяцый. Радзей – калі чытаю вершы іншых паэтаў ці гляджу мастацкі фільм і нейкі радок ці выказванне так уражвае, што хочацца адгукнуцца і развіць яго.

**— Дапамагае ці перашкаджае творчасці навуковая дзейнасць?**

— Безумоўна, дапамагае. Я аналізую сучасную беларускую паэзію, супастаўляю яе з паэзіяй англійскага і польскага рамантызму. Ведаючы, як шмат унутры іх і паміж імі тыпалагічна падобных з'яў, адштурхоўваючыся ад гэтага і ад філфакаўскага азнаямлення з рознымі нацыянальнымі літаратурамі ад старажытнасці да канца XX стагоддзя, усведамляю шанц выйсці да новага, магчыма сінкрэтычнага, чаго не было ў нашай літаратуры. (На маю думку, аналіз наяўнага і магчымага ў літаратуры павінен рабіць кожны творца, каб пракласці свой шлях, а не толькі наследаваць класікам.)

**— Прыхільнасці ў літаратуры, музыцы, тэатры, кіно, выяўленчым мастацтве...**

— Паспрабую бліц-адказам: Максім Багдановіч, Рыгор Крушына, Рыгор Барадулін, Людвіг ван Бетховен, восень у асэнсаванні Вівальдзі і Чайкоўскага, пастаноўкі Купалаўскага тэатра, фільмы "Знесеныя ветрам", "Куды прыводзяць мары" і "Эфект матылька", фотамантажы Віктара Ганчарэнкі, карціны Сальвадора Далі, Алеся Цыркунова і Міколы Аўчыннікава.

**— Якой хочацца бачыць беларускую літаратуру гадоў праз 15—20?**

— Каб яе паважалі ва ўсім свеце, каб было некалькі беларускіх Нобелеўскіх лаўрэатаў па літаратуры, каб з'явіліся новыя яскравыя пісьменнікі і літаратуразнаўцы і каб наша грамадства стала літаратурацэнтрычным і высокадухоўным.

**Зміцер АРЦЮХ**

***Фота забяспечана аўтарам***

# КАГО ХОЧАШ — ВЫБІРАЙ?



*"Код Давінчы" Дэна Брауна, "Наіўна. Супер" Эрленда Лу, "Дэкаратар" Тургіна Эгена, Джаан Роўлінг з "Гары Потэрам", Юстэйн Гардэр з "Апельсінавай дзяўчынай", Муракамі і Каэльо, Пелевін і Зюскінд – мінскія кнігарні выдзяляюць менавіта гэтыя кнігі як найбольш папулярныя на сёння. Калі вы хочаце прачытаць нешта з пералічанага вышэй і запланавалі ехаць адпачываць у санаторый, то бярыце кніжкі з сабой. Купляйце ці пазычайце ў сяброў. Бо тут вы іх проста можаце не знайсці.*

### Бібліятэкары

Натуральна, што людзі едуць у санаторыі адпачываць, таму і літаратура ў бібліятэках пры зонах адпачынку, скажам так, адпаведная: лёгкія жанры. Гэта любоўныя раманы, дэтэктывы. Яны і карыстаюцца найбольшым попытам.

Марына Казлоўская ўсяго паўгода працуе ў бібліятэцы аднаго з санаторыяў пад Мінскам. Кажа, што за чатыры гадзіны ў дзень (столькі працуе бібліятэка) сюды прыходзяць 40—50 чытачоў. Гэта не мала. Наталля Шаліма абслугоўвае адпачываючых суседняга санаторыя ўжо амаль 25 год! Летась бібліятэку наведалі каля 3,3 тысячы чалавек. Фонды абедзвюх устаноў немалыя – некалькі дзесяткаў тысяч выданняў. Трэба дагадзіць густу і дарослых, і дзяцей. Летам мамы адпачываюць з малымі, таму ва ўсіх бібліятэках шмат дзіцячай літаратуры. Ёсць і гістарычныя раманы. "Аднак іх рэдка бяруць, – скардзіцца Марына Казлоўская. – У асноўным усе пытаюцца толькі да гэтай секцыі", – паказвае рукой на паліцу, запоўненую дэтэктывамі і любоўнымі раманамі. Кніжныя фонды абнаўляюцца па-рознаму. Марына Казлоўская кажа, што за час яе працы новых кніжак яшчэ ні разу не прывозілі. А вось Наталля Шаліма амаль кожны месяц ездзіць у Мінскі бібкалектар, дзе выбірае для сваёй установы новыя кнігі. Але гэта не значыць, што паліцы ў яе запоўнены найноўшымі і моднымі выданнямі. Такіх, на жаль, няма. Як не знайсці, дарэчы, і кніжак па медыцынскай тэматыцы. Чаму? Аказваецца, гэта правіла санаторыяў. Неаднойчы былі выпадкі, калі адпачываючыя прачыталі адпаведную літаратуру і знаходзілі ў сябе прызнакі шматлікіх хвароб. І тады цяжка было іх у чым-небудзь пераўпэўніць...

Наталля Шаліма за чвэрць веку, адпрацаванага ў бібліятэцы, навучылася зацікавіць чытача. Яна, напрыклад, праводзіць тэматычныя выставы. Паліца лекавых раслін, прысвечаная здароўю; аддзел з творамі Быкава, Караткевіча, Шамякіна; стэнд пад назвай "Беларусь – радзімая старонка"; рэлігійны куток – усё гэта ў невялічкай чытальнай зале. Вопытная бібліятэкарка імкнецца далучыць чытачоў і да беларускай літаратуры. "Бывае, прыходзяць школьнікі, пачуюць, што я размаўляю па-беларуску, і ў іх узнікае жаданне прачытаць што-небудзь з айчынных класікаў, – гаворыць Наталля. – І дзеткі малыя просяць мам, цягнучы іх за рукаў: "Я хачу кніжку на такой мове, на якой цётачка размаўляе".

### Чытачы

Дзве жанчыны сядзяць з кнігамі на лавачцы.




— Што чытаеце? — пытаюся.

— Экзюперы, — адказвае адна з іх, узняўшы галаву.

Дзвюм Аленам (адна з Мінска, другая з Полацка) застаўся адзін дзень у санаторыі. І яны з прагнасцю дачытваюць старонкі кніг. Мінчанка брала Экзюперы – "Цытадэль" і ваенныя лісты; а яшчэ – успаміны пра Мулявіна. Палачанка чытала дэтэктывы і любоўныя раманы. Адна ўжо бачыць, што скончыць не паспее. Не, не засмучаецца з-за гэтага. Кажа, што не праблема купіць кнігу ў горадзе.

Валянціна Аляксандраўна, якая прыехала ў санаторый з Віцебска са сваёй унучкай, просіць у бібліятэцы дзіцячую літаратуру: "Майдадыра" Чукоўскага, рускія народныя казкі. А вось яе сябра Леанід Віктаравіч, які прывёз з сабой унука, у бібліятэку нават не запісваўся. Не лічыць патрэбным.

Гамяльчанка Марыя і яе суседка па пакоі Соф'я з Барысава аддаюць перавагу прагулкам па лесе і каля возера. Кажуць, што не для таго прыехалі ў санаторый, каб чытаць. Аднак адну кніжку Лінды Ховард мне ўсё ж прадставілі ў якасці "доказу", што ў бібліятэку ходзяць. Маўляў, на дваіх хапае! А Соф'я дадае, што калі б суседка не зазірнула ў бібліятэку, то яна нават і гэтай не прачытала б.

Васіль з Мінска – аматар гістарычнай літаратуры. У бібліятэку яшчэ не запісаўся, але ўжо склаў спіс, што будзе там шукаць – расповеды пра Ермака, Чынгізхана, Аляксандра Неўскага. Ён не ўпэўнены, што ўсё знойдзе, але пацікавіцца, лічыць, варта.

Палачанін Леанід не чытае кніг увогуле, толькі газеты, ды і тое – рэдка. Таму ў бібліятэку санаторыя нават не збіраецца. У яго напагатове – ранішнія прабежкі па лясных сцяжынках, а ў кішэні – хлеб для лебедзяў і качак.

Што тут сказаць, акрамя — "бывай!..".

**Яўгенія МАНЦЭВІЧ,**
***Фота В. Кавалёва***

# АД ХОБІ ДА ПРАФЕСІІ

***Той, хто атрымаў добрую адукацыю, мае больш шансаў знайсці высокааплачваемую работу і лепш уладкавацца ў жыцці. Таму бацькі і імкнуцца аддаць сваіх нашчадкаў у прэстыжныя школы, ліцэі і гімназіі. Калі ж ваша дзіця вучыцца ў звычайнай школе, гэта не азначае, што яго шансы на паступленне ў ВНУ нізкія. Як кажуць, было б імкненне...***
***Сёння гаворка пойдзе аб адной з прысталічных устаноў адукацыі — Ждановіцкай агульнаадукацыйнай сярэдняй школе, яе вучнях і настаўніках. Галоўная задача педагагічнага калектыву — выхаванне творчай асобы, якая зможа ўвасобіць атрыманыя веды і ўменні ў будучай прафесіі. Дапамагаюць у гэтым і курсы па выбары, і розныя факультатывы.***



### Новае пакаленне журналістаў

Школьная сценгазета "Люстэрка" выходзіць з верасня мінулага года, але ўжо набыла папулярнасць і вядомасць. Аўтар праекта — намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Валянціна Аляксандраўна Сцяпанава. Назва "Люстэрка" выбрана невыпадкова: змест газеты адлюстроўвае ўсе падзеі школьнага жыцця. У адным з нумароў ідзе гаворка аб новым стылі адзення для вучняў з канкрэтнымі рэкамендацыямі для школьнікаў і іх бацькоў. Быў аб'яўлены конкурс на эскізы адзення на будучы навучальны год.

Выклікае цікавасць у чытачоў і рубрыка "Навіны з маладзёжнага цэнтра", дзе расказваецца аб рабоце дзіцячых арганізацый.

У гэтым выданні адлюстроўваюцца ўсе найважнейшыя падзеі школьнага жыцця. Так, напрыклад, юныя паэты з гуртка "Купалінка" ездзілі на экскурсіі ў Кобрын, Камянец, Белавежскую пушчу. Набытыя ў вандроўках уражанні знайшлі ўвасабленне ў новых творах, якія з'явіліся на старонках газеты. Дарэчы, рубрыка "Экскурсіі, паездкі, уражанні" стала пастаяннай, бо ажыццяўляюцца такія мерапрыемствы часта. Школьнікі наведалі таксама Гальшаны, Мір, Нясвіж, Гродна. Асабліва рады былі дзеці адпачынку ў аквапарку і падарожжу па гродзенскім заапарку.

Вялікі раздзел прысвячаецца здароваму ладу жыцця, прафілактыцы СНІДу, адмаўленню ад курэння.

Прысутнічае тут і гумар. Ёсць і анекдоты: "Школьны гардэроб. Вісяць некалькі вешалак і надпіс: "Толькі для настаўнікаў". Нехта з вучняў зрабіў прыпіску: "Яшчэ можна вешаць паліто і курткі". Ёсць і ўстойлівыя выразы: сталоўка — цэнтр нападзення, дзённік — кніга скаргаў, адказ каля дошкі — "рэпартаж з пятлёй на шыі".

У школьнай газеце шмат цікавай, пазнавальнай і карыснай інфармацыі, таму яна ніколі не застаецца без увагі чытачоў. У выпусках прымаюць удзел: настаўніца гісторыі, кіраўнік прэс-цэнтра Тамара Аляксееўна Манцівода — галоўны рэдактар; намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Валянціна Аляксандраўна Сцяпанава — адказны рэдактар і юныя журналісты Юлія Ляговіч, Таццяна Малашонак, Марыя Зіміна, Алена Арцем'ева, Дар'я Сёмуха, Ірына Сячная, Надзея Млынарчык і іншыя.



### Чароўны свет мастацтва

Асаблівай увагі заслугоўвае гурток мастацкага фотаздымка "Расінка", якім кіруе Аляксандр Дзмітрыевіч Якаўлеў. Творы настаўніка і яго вучняў упрыгожваюць Ждановіцкую школу. Аляксандр Дзмітрыевіч скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, а потым працягнуў сваю адукацыю на факультэце жывапісу і графікі універсітэта мастацтваў Масквы. Лепшыя работы майстра разышліся па шматлікіх прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Іспаніі, Польшчы, Германіі і Сербіі.

У студзені Аляксандр Якаўлеў і дзіцячая творчая група "Расінка" прадставілі выставу фотаработ "Божы свет у кроплі расы", якая праходзіла ў галерэі "Мір вачыма праваслаўнага мастака" прыходу Іконы Маці Божай "Усіх тужлівых радасць". У творах, якія былі прапанаваны гледачам, вельмі пранікнёна і вытанчана адлюстравана тое, міма чаго немагчыма прайсці без захаплення. Яркія, хвалюючыя душу пейзажы зачароўваюць і вяртаюць да прыгожага. Глыбокія таямніцы ўвасоблены ва ўзнёсласці кветачкі, незвычайным лісціку, крохкім матыльку... Разгадаць іх не так проста. Але, валодаючы асаблівым бачаннем, можна наблізіцца да дзівоснага. Перад мастакамі адкрываецца дарога ў свет дабрыні, якую яны стараюцца данесці сваёй творчасцю і да нас.

### "Аэробік-экспромт" і іншае

Менавіта такую назву мае танцавальны гурток пад кіраўніцтвам Таццяны Алегаўны Левічавай. З вялікім задавальненнем дзеці наведваюць трэніроўкі, плённа працуюць, а потым выступаюць на мерапрыемствах, святах і канцэртах. Трэба адзначыць, што на ўроках працы дзяўчынкі з гуртка самастойна шыюць сцэнічныя касцюмы для выступленняў.

У мінулым годзе "Аэробік-экспромт" прымаў удзел у раённым і абласным конкурсах мастацкай самадзейнасці. Танцавальны гурток выступае і ў дабрачынных канцэртах. Да шасцідзесяцігоддзя Перамогі падрыхтавалі спецыяльную праграму.

Не шмат устаноў адукацыі Мінскага раёна могуць ганарыцца наяўнасцю сайта ў Інтэрнеце. У Ждановіцкай школе ён з'явіўся. Распрацоўкай сайта займаецца настаўнік інфарматыкі Сяргей Мікалаевіч Ганчарык. У хуткім часе на старонках з'явіцца падрабязная інфармацыя пра школу, раздзел "Наша творчасць", дзе будуць размяшчацца літаратурныя і мастацкія працы вучняў, "Школьныя навіны", "Нашы дасягненні" і іншае. А ўсім наведвальнікам сайта будзе прапанавана пакінуць пажаданне альбо водгук на старонках гасцявой кнігі.

Калі вучань не знайшоў нічога цікавага для сябе ў пазначаных гуртках, ёсць і іншыя прапановы. Клуб "Здаровы лад жыцця" дапамагае дзецям быць здаровымі, знаёміць з мерамі па прафілактыцы захворванняў. Робіцца акцэнт на адмоўнае стаўленне да шкодных звычак.

Ёсць у школе і спартыўныя секцыі: па агульнай фізічнай падрыхтоўцы, футболе, каратэ і настольным тэнісе.

Дзеці пачатковай школы з задавальненнем наведваюць гурток "Дызайн і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва". А клуб "Інтэлект", у якім займаюцца вучні 6—11 класаў, перамог у раённым конкурсе "Адысея розуму".

Сапраўды багаты выбар прадастаўлены вучням. Некаторыя з іх і сваю прафесію будуць выбіраць з улікам улюбёнай справы, якой займаліся яшчэ ў школе. Ёсць такія выпускнікі, хто паступіў ва універсітэт культуры пасля наведвання школьнага літаратурнага гуртка ці драматычнай студыі. Хтосьці звязаў сваё жыццё з танцамі альбо спевамі. Былі і знакамітыя спартсмены. Сапраўдных вяршынь дасягнуў Аляксандр Раманькоў, які атрымаў бронзавы алімпійскі медаль па фехтаванні

* * *

У Ждановіцкай школе створаны адзінаццаты ліцэйскі і пяты гімназічны класы. Дарэчы, летась дваццаць з дваццаці аднаго вучня паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і два выпускнікі скончылі школу з сярэбранымі медалямі.

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ**

***Фота аўтара***

## Ганарымся спадчынай

Нядаўна я адчула ў сваім развіцці велізарны прабел. Мяне ўразіла тое, што, прачытаўшы нямала гістарычных раманаў, да гэтага часу амаль нічога не ведаю аб жыцці сваіх продкаў. Скупыя звесткі падручніка па гісторыі Беларусі не зацікавілі мяне, не далі магчымасці ўключыць фантазію, нават не падштурхнулі пайсці ў бібліятэку і ўзяць нейкі дадатковы матэрыял, які б больш шырока змог расказаць пра мінулую эпоху. Аб якім патрыятызме і любові да Радзімы можа ісці гаворка, калі мы недастаткова ведаем сваю гісторыю і свае карані?

Бязмерна ўдзячна нашаму беларускаму пісьменніку Леаніду Дайнеку за яго творчасць. Менавіта гістарычныя раманы гэтага пісьменніка сталі тым ключом, якім я адкрыла дзверы ў сівую даўніну свайго народа. Раней прачытала нямала твораў замежных аўтараў, у асноўным еўрапейскіх. Захапляюся Вальтэрам Скотам, як вялікім знаўцам сярэдневяковай Англіі і Шатландыі. Гаворачы аб такіх беларускіх волатах, як Усяслаў Чарадзей, князь Вячка або Глеб Ізяслававіч, мне чамусьці не прыходзіла ў галаву, што іх жыццё было не меней гераічным і складаным, чым у таго ж Айвенга або Квенціна Дорварда. Нашы беларускія героі не саступаюць ні адвагай, ні мудрасцю гэтым еўрапейцам. Аднак заслуга Дайнекі не толькі ў праслаўленні беларускіх князёў і іхніх дружын. Таленавітасць і дасведчанасць аўтара дазволіла ўбачыць жыццё продкаў да самых маленькіх дэталяў. Я быццам перанеслася ў тую эпоху, у неспакойныя XI—XII стагоддзі... Зусім блізка чуваць песні нашых продкаў-язычнікаў, патрэскванне чырвонага вогнішча, шум высачэзных дубоў. А вось і замак князя Вячкі, якому наканавана згарэць ад рук свайго гаспадара, каб не ўладарылі ў ім тэўтонцы. А цень ваўкалака ляціць, нібы птушка, над усёй полацкай зямлёй, наводзячы жах на ворагаў і несучы вечную славу аб вялікім князі Усяславе. Здаецца, стаіш на высокім узгорку, а над табою зоркі карагоды водзяць, і так хочацца застацца там назаўсёды.

Сапраўды, вялікімі былі нашы продкі. І не толькі таму, што змаглі абараніць сваю зямлю ад крыжакоў, татара-мангол, што не баяліся злажыць галовы ў крывавай сечы. А таму, што зараз мы можам ганарыцца спадчынай, якую яны нам пакінулі. Праз іх мы маем незалежнасць, моцную дзяржаву, родную зямлю, багатую культуру і, канечне ж, сваю старадаўнюю беларускую мову, на якой гаварылі нашы князі, спявалі песні маладыя язычніцы, маліліся Богу хрысціяне. Зараз трэба зберагчы ўсё, што маем, каб праз тысячу гадоў кагосьці пацягнула і ў нашае стагоддзе.

**Віталія ХАНАТАЕВА,**
**вучаніца 11 класа**
**Мірскай СШ**
**Гродзенскай вобласці**

# Вакол — цікавыя справы

***Убачыў свет першы нумар газеты для школьнікаў Іванаўскага раёна "Перапынак". Выдавацца яна пачала па ініцыятыве выкладчыка роднай мовы і літаратуры Іванаўскай сярэдняй школы № 4 Рыгора Рыгоравіча Сыраваткі. Распаўсюджваецца бясплатна, мае наклад у 100 асобнікаў.***

На старонках прэм'ернага выпуску знайшлося месца для дыскусіі пра ўвядзенне адзінай школьнай формы, рэпартажу аб дзевяцідзённай экспедыцыі ў час летніх канікулаў членаў клуба ЮНЕСКА "Крынічка", што працуе пры гарадскім Доме дзіцячай творчасці. Ужо другі год запар хлопчыкі і дзяўчынкі на веласіпедах аб'язджаюць аддаленыя вёскі, каб сустрэцца з людзьмі, глыбей пазнаёміцца з традыцыямі і абрадамі роднага краю.

Цікава, з захапленнем чытаюцца замалёўкі пра выкладчыцу музыкі па класе фартэпіяна Ларысу Віктараўну Перчанку, настаўніка фізкультуры Адрыжынскай СШ Уладзіміра Мікалаевіча Клімука (аўтары — іх выхаванцы), інтэрв'ю з юнай мастачкай Дашай Будзік, апавед пра сельскую радыёстанцыю "Вясна", прамы эфір якой рыхтуюць старшакласнікі Махроўскай СШ.

Ёсць тут інфармацыя, што называецца, для розуму ("Занатуй...") і для душы — апавяданне Каці Крэйдзіч "Мае вясковыя прыгоды", вершы настаўніцы Ірыны Саломкі і адзінаццацікласніцы Алены Трапачкі, смяшынкі і школьныя анекдоты.

"Гэта газета школьнікаў для школьнікаў, — гаворыцца ў перадавым артыкуле выдання. — Думаецца, што яна дапаможа сумесна адшукаць адказы на складаныя пытанні часу, дасць магчымасць падзяліцца нейкімі набыткамі, знаходкамі. Побач з вамі — цікавыя людзі, вакол — цікавыя справы. Раскажыце пра іх — і ваша школьнае жыццё стане багацейшым..."

У недалёкай перспектыве рэдкалегія плануе абвясціць некалькі творчых конкурсаў. Таму можна быць упэўненымі, што чытачоў і аўтараў у "Перапынку" значна пабольшае.

**Валерый КУХАРЧУК**

**_Хтосьці прыязджае сюды з надзеяй адшукаць напалеонаўскі скарб. Нехта, каб на ўласныя вочы пабачыць месца, дзе пацярпела паразу непераможная французская армія. А іншы, мінаючы тутэйшыя пагоркі, выразна ўяўляе раскіданыя наўкола зіхоткія вогнішчы стомленых ад паходаў яцвягаў, якія, дзелячы спажыву, нават не здагадваюцца, што неўзабаве ім давядзецца перакаваць мячы на аралы і закласці падмурак аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі._**

# НА СКРЫЖАВАННІ ШЛЯХОЎ

### Барысаў — стары і новы

Некалі паміж рэчкамі Нёман і Нараў жыло незалежнае ды ваяўнічае племя яцвягаў, ад нападаў якога пакутавала ўсё Полацкае княства. Не стрываўшы гэткай ганьбы, полацкі князь Барыс Усяславіч сабраў вялікае войска і рушыў на Панямонне. Яго з'яўленне было настолькі раптоўным, што яцвягі не паспелі нават падрыхтавацца да абароны... Палонных адвялі на бераг ракі Бярэзіны і загадалі рубіць лес, будаваць дамы, пракладаць вуліцы. Неўзабаве на Полацкай зямлі з'явіўся яшчэ адзін горад, які назвалі ў гонар пераможцы — Барысаў. Дзіўна, але тагачасныя летапісцы абмінулі гэтую падзею, і першыя згадкі пра яго з'явіліся толькі праз 25 гадоў пасля заснавання — у 1127 годзе. Тым не менш, Барысаў лічыцца адным з самых старажытных гарадоў Беларусі.

Праўда, той Барысаў, які заснаваў полацкі князь, першапачаткова знаходзіўся ў іншым месцы. Аднак у канцы XIII стагоддзя падчас чарговай вайны амаль увесь згарэў, і тубыльцы, узважыўшы ўсе "за" і "супраць", вырашылі не аднаўляць яго. Адышлі кіламетры на чатыры па цячэнні Бярэзіны і пачалі будаваць усё нанова. Спачатку — замак, які паслужыў барысаўчанам да канца XVIII стагоддзя, а потым і сам горад... Але праўду кажуць — святое месца пустым не бывае. На абшарах старога Барысава з цягам часу ўзнік невялікі пасёлак, які так і называюць — Стара-Барысаў.

Новае ж месца, выбранае для горада, знаходзілася якраз на скрыжаванні сухапутнага шляху ў цэнтральную частку Беларусі і воднага, што звязваў Балтыйскае мора з Чорным. Магчыма таму, калі ў Барысаў трапіў князь Вітаўт Вялікі, каб заручыцца падтрымкай мясцовага насельніцтва, ён адразу ж загадаў... выдаць барысаўчанам так званы "мядовы прывілей". З таго часу кожны гандляр мёдам павінен быў спыняцца ў Барысаве і плаціць за свой тавар даніну...

На жаль, гэты прывілей не зрабіў жыццё гараджан больш салодкім, бо ўсе "мядовыя" грошы ішлі на аднаўленне горада і замка пасля чарговай спустошальнай вайны... А войны ніколі не абміналі Барысаў. На працягу XVI стагоддзя расійскія войскі тройчы бралі замак у аблогу. Нешта падобнае паўтарылася і ў наступным XVII стагоддзі.

### Уладары і святыні

Цікава, што часцяком барысаўскімі старастамі станавіліся віленскія ваяводы. Кожны з іх, карыстаючыся сваім высокім становішчам, рабіў для горада ўсё магчымае. Ваявода Ян Глябовіч уключыў Барысаў у склад Віленскага ваяводства, Мікалай Радзівіл Чорны ў 1563 годзе дамогся для горада магдэбургскага права, а Мікалай Радзівіл Руды аднавіў пасля вайны з Расіяй умацаванні замка.

Тым не менш, у мясцовым касцёле кожную пятніцу падчас памінальнай службы ўзгадвалі зусім іншага барысаўскага старасту. Ён не меў такіх багаццяў, як Радзівілы, і не вылучаўся выбітнымі вайсковымі подзвігамі, як Глябовіч. Але жыхары Барысава яго вельмі любілі. Асабліва тыя, хто быў каталіцкага веравызнання... Звалі таго старасту Адам Казановіч. І менавіта ён у першай палове XVII стагоддзя стаў фундатарам першага барысаўскага касцёла.

Той касцёл праіснаваў каля 160 гадоў, а потым згарэў. У першай палове XIX стагоддзя на яго месцы пабудавалі новы — касцёл Дзевы Марыі. Адметна, што службы ў ім не спыняліся да 1937 года, а падчас Вялікай Айчыннай вайны ў яго не трапіў ні адзін снарад. Калі ж вайна закончылася, улады зрабілі ў касцёле спачатку кінатэатр, а пасля перадалі будынак медыцынскаму вучылішчу... Цяпер касцёл дзейнічае і з'яўляецца ў Барысаве самым старажытным храмам.





Мяркуюць, што полацкі князь Барыс быў вельмі набожны і рабіў усё, каб пашырыць хрысціянства. Таму не дзіва, што першая праваслаўная царква паўстала тут значна раней, чым каталіцкі касцёл. Называлася яна царквою Спаса і была вядомая з XVI стагоддзя. А вось Уваскрасенскі сабор пабудаваны на яе месцы ў канцы XIX стагоддзя. Праект яго зрабіў Пётр Мяркулаў, інжынер з Пецярбурга, будавалі спецыялісты з мястэчка Івянец, аздабленнем інтэр'ераў займаліся мастакі з Вільні. У выніку сабор атрымаўся настолькі прыгожы, што пецярбургскі часопіс "Нива" не пашкадаваў цэлай старонкі, каб размясціць гравюру з яго выявай.

### Знаныя госці

У Італіі кажуць: "Усе шляхі вядуць у Рым", а ў Беларусі — "Усе шляхі праходзяць праз Барысаў"... І гэта, відаць, праўда, бо ўсе тытулаваныя асобы, якія наведвалі Беларусь, абавязкова завітвалі ў Барысаў. Падчас Паўночнай вайны тут пабываў шведскі кароль Карл XII. Каб пераправіцца праз барысаўскія балоты, ён загадаў засыпаць іх белым пяском. У выніку ўтварылася пляціна, якую так і называлі — каралеўскай грэбляй.

Французскі імператар Напалеон Банапарт наведаў Барысаў аж но двойчы. Першы раз, калі рушыў са сваім войскам на Маскву, праязджаў праз горад у карэце і не збіраўся затрымлівацца надоўга. Другі — калі вяртаўся ў Парыж, увайшоў пешшу, абапіраючыся на кіёк. У той момант становішча імператара было незайздроснае. З аднаго боку — наступала войска пад кіраўніцтвам Кутузава, з другога — Віттэнштэйна, з трэцяга — Чычагова. А наперадзе — рака Бярэзіна... Салдаты яго арміі былі змучаныя цяжкім шляхам, холадам і голадам. Здавалася б, выйсце адно — здацца ў палон. Аднак французскі імператар быў спрактыкаваным стратэгам. Па яго загадзе адзін з генералаў выклікаў да сябе паважаных жыхароў Барысава і пачаў распытваць пра брод ля вёскі Ухалод. У хуткім часе некалькі барысаўчан цішком пераправіліся ў стан расійскіх войскаў, якімі камандаваў генерал Чычагоў... У выніку — Чычагоў чакаў Напалеона ля Ухалода. А той, ведаючы пра гэта, пераправіўся на процілеглы бераг зусім у іншым месцы — ля вёскі Студзёнка.

За сваё жыццё Напалеон наведаў шмат гарадоў, але Барысаў, відаць, запомніў назаўсёды. Бо менавіта тут яго ар'ергардная дывізія (каля трох з паловай тысяч чалавек) трапіла ў палон. Менавіта тут ён зразумеў, хто пераможа ў гэтай вайне. І менавіта пад Барысавам згубіў сваю артылерыю. А вось артылерыйскія батарэі расійскіх войскаў 1812 года захаваліся тут да нашых дзён і сталі першым у Барысаве гістарычным помнікам, які ў 1926 годзе быў узяты пад ахову дзяржавы.

### Барысаўскі кнігазбор

Нават зараз у наваколлях Барысава можна сустрэць скарбашукальнікаў, якія не губляюць надзею знайсці Напалеонаўскія багацці. Згодна паданню, недзе тут, на беразе Бярэзіны, і закапаны знакамітыя трафеі, якія Напалеон вывез з расійскай сталіцы — крыж са званіцы Івана Вялікага, упрыгожанні Крамля. Праўда гэта ці не, невядома. Але часам тут насамрэч трапляюцца французскія манеты, гузікі ад французскага мундзіра і нават ядры французскіх гармат...

Кажуць, напрыканцы XIX стагоддзя на беразе ракі Бярэзіны амаль штодня можна было сустрэць добра апранутага юнака. У адрозненне ад іншых, талеры і золата яго асабліва не вабілі. Ён шукаў іншае — карты, каштоўныя паперы, запісваў успаміны відавочцаў падзей 1812-га. І за які-небудзь тагачасны армейскі загад мог выкласці немалыя грошы. Звалі юнака Іванам Каладзеевым.

Атрымаўшы адукацыю агранома, ён у 18 год стаў уладальнікам 7 тысяч дзесяцін зямлі ў Барысаўскім павеце. Займаўся прадпрымальніцтвам, выконваў абавязкі міравога суддзі. У выніку 30-гадовых пошукаў у Расіі і за мяжой сабраў найбагацейшую бібліятэку па гісторыі вайны 1812 года і лічыўся самым вядомым напалеаністам у Еўропе. У 1901-м на ўласныя сродкі ўстанавіў два помнікі ля вёскі Студзёнка ў гонар падзей 1812 года.

Кнігазбор, які склаў Іван Каладзееў, налічваў каля 15000 кніг, вялікую калекцыю газет, гравюр, карт, планаў, арыгінальныя дакументы ды аўтографы. А калі ў Маскве сабраліся адкрыць Музей 1812 года, ахвяраваў яму ўсю сваю бібліятэку. Прыкладна палова кніг вярнулася ў Беларусь у 1926 годзе. Цяпер невялікая частка іх знаходзіцца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі. На жаль, прыналежнасць многіх з іх вызначыць цяжка, бо Каладзееў не меў свайго экслібрыса, да таго ж большасць кніг і дакументаў страчана падчас Вялікай Айчыннай вайны...

### Найноўшая гісторыя

Гады Вялікай Айчыннай сталі для Барысава сапраўдным выпрабаваннем. Фашысты занялі яго ў першыя ж дні вайны. Але не прайшло і месяца, як у горадзе пачало дзейнічаць патрыятычнае падполле. Барысаўскія падпольшчыкі не толькі ладзілі дыверсіі, але і ратавалі з лагераў смерці савецкіх ваеннапалонных. Нават стварылі ў Барысаве падпольны шпіталь, дзе вылечылі каля 60 параненых байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі...

Сёння Барысаў — другі па велічыні прамысловы горад Мінскай вобласці. Тут каля 40 прадпрыемстваў, сярод якіх — самая буйная ў краіне запалкавая фабрыка (заснавана ў 1901 годзе), фабрыка па вытворчасці музычных інструментаў, завод крыштальных вырабаў і камбінат прыкладнога мастацтва, на якім у свой час былі вытканы самы вялікі ў свеце габелен.

У Барысаве заўсёды шмат гасцей. Хтосьці прыязджае сюды з надзеяй знайсці напалеонаўскі скарб. Нехта, каб на ўласныя вочы пабачыць месца, дзе пацярпела паразу непераможная французская армія. Іншы, каб наведаць службу ў велічным Уваскрасенскім саборы... Упэўнены, што і вы рана ці позна трапіце ў гэты горад, бо знаходзіцца ён на скрыжаванні ўсіх шляхоў.



**Уладзімір ДАВЫДОЎСКІ**

***Фота забяспечана аўтарам***

# НЕБЯСПЕКА ЗРАЗУМЕЛАСЦІ

Словазлучэнне ***Нобелеўская прэмія*** сёння выклікае не такую ўжо адназначную рэакцыю: акрамя ўкаранёнага ў больш чым стогадовай яе гісторыі піетэту, можна сутыкнуцца з раздражненнем і нават пагардаю (мяркую, апошнім часам усё выразней выяўляецца ідэалагічна-палітычная ангажаванасць выбару лаўрэатаў, а ўласна мастацкія вартасці твораў нібыта ўважаюцца за "аргумент" ускосны). Але што тычыцца нашай чытацкай аўдыторыі, дык і шанаванне, і крытыка дзейнасці Нобелеўскага камітэта па прысуджэнні прэмій у галіне літаратуры, як правіла, носяць *метафізічны* характар, г.зн. грунтуюцца не столькі на рэальным знаёмстве з творчасцю прэтэндэнтаў і ўласна лаўрэатаў, колькі на кароткіх паведамленнях СМІ, якія, у сваю чаргу, найчасцей жывяцца водгуллем калялітаратурных мітрэнгаў ды інтрыг.

А сучасны ж пісьменнік марыць (марыць-марыць, хоць і не заўсёды прызнаецца!) пра чытача калі не ***прафесійнага***, дык, прынамсі, уважлівага — і ўраўнаважанага, які ўваходзіў бы ў новаствораны (***аўтарскі***) мастацкі сусвет не са скептычнаю грымасаю, але з нязмушанай цікa**ва**сцю ці хаця б з цікa**ўна**сцю. У сваю чаргу, шчырая цікавасць, а тым больш цікаўнасць мусяць наталяцца інфармацыяй рэальна-змястоўнай — дзеля таго, каб працэс (літаратурны) не цурчэў, але віраваў. "ЛіМ" запрашае сваіх чытачоў (выключна дасведчаных, трэба думаць, у айчынным літаратурным жыцці) улучыцца ў асваенне сусветнай мастацкай славеснасці, у чыіх нетрах нясумна будзе і цэламу войску ***піянераў*** (бо кожны новы вандроўнік тут нязменна шануецца як ***першаадкрывальнік*** — прынамсі, самім сабою).

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

У 2005 годзе Нобелеўская прэмія па літаратуры была ўручана англійскаму драматургу Гаральду Пінтэру. Узнагарода стала нечаканасцю не толькі для самога драматурга, але і для спецыялістаў, якія выказвалі меркаванні, што ў гэтым годзе прэмія ўпершыню за апошнія дзесяць год можа быць уручана неўрапейскаму аўтару. Такім чынам, за апошнія пяць год гэтая прэмія даецца англійскаму пісьменніку ўжо ў другі раз (у 2001 годзе яе атрымаў В.С. Найпол).

Пачаўшы пісьменніцкую кар'еру ў канцы 1950-х і амаль адразу дасягнуўшы прызнання як шырокай публікі, так і тэатральных крытыкаў, Г. Пінтэр і сёння застаецца папулярным драматургам, чые п'есы з поспехам ідуць на сцэнах у многіх краінах свету. З пачатку 1960-х Пінтэр піша кіна- і радыёсцэнарыі, займаецца рэжысурай, публіцыстыкай. Ён з'яўляецца аўтарам дваццаці дзевяці п'ес ("Дзень нараджэння", "Вартаўнік", "Вяртанне да дому", "Здрада" і інш.), дваццаці аднаго кінасцэнарыя ("Слуга", "Жанчына французскага лейтэнанта"), рэжысёрам дваццаці сямі тэатральных спектакляў, сярод якіх "Выгнаннікі" Джэймса Джойса, "Алеана" Дэвіда Маме, а таксама ўласныя п'есы. У апошні час пісьменнік выступіў з шэрагам прамоў, накіраваных супраць ваяўнічай палітыкі ЗША і НАТА ў Сербіі і Іраку; нават у прамове, прысвечанай уручэнню Нобелеўскай прэміі, значнае месца займала жорсткая крытыка палітыкі амерыканскага ўрада.

Аднак сусветную славу Г. Пінтэру, без сумнення, прынёс тэатр. У сваёй справаздачы Шведская Акадэмія ахарактарызавала Пінтэра як драматурга, які адрадзіў тэатральнае мастацтва, як аднаго з найбольш выдатных прадстаўнікоў англійскай драматургіі другой паловы XX стагоддзя.

Творчасць Г. Пінтэра, вельмі падрабязна даследаваная замежнымі літаратуразнаўцамі і тэатральнымі крытыкамі, не атрымала колькі-небудзь пільнай увагі з боку айчынных даследчыкаў. На сённяшні час існуе толькі адзін зборнік яго п'ес на рускай мове, які змяшчае толькі пяць твораў. Без сумнення, Г. Пінтэр быў бы вельмі цікавы беларускай публіцы і як драматург, і як аўтар эсэ, нарысаў, публіцыстычных выступленняў, якія, на жаль, яшчэ не перакладзены на беларускую мову.

Гаворачы пра тэатральныя пастаноўкі пінтэраўскіх п'ес, якія ажыццяўляюцца, да вялікага шкадавання беларускага гледача, у асноўным новымі сталічнымі тэатрамі Расіі, хочацца заўважыць, што рэжысёры вельмі часта адыходзяць ад сутнасці п'ес, захапляючыся або авангардысцкімі эксперыментамі, або традыцыйнымі для рускага тэатра і зусім нехарактэрнымі для Пінтэра "пошукамі праўды".



Многія даследчыкі схільныя разглядаць творчасць Г. Пінтэра ў кантэксце драматургіі тэатра абсурду. Нягледзячы на тое, што сам аўтар настойвае на сваёй недалучанасці да якой-небудзь літаратурна-мастацкай плыні, варта прызнаць, што існуе пэўнае тэматычнае і кампазіцыйнае падабенства паміж творамі С. Бекета, Э. Іянеска, А. Адамава і драмамі Пінтэра. Іх яднаюць, у першую чаргу, адносіны да часу, які цягнецца нясцерпна доўга, а таксама агульнасць драматычных прыёмаў: наяўнасць не фабулы, а толькі яе элементаў, статычнасць дзеяння, якое нярэдка ўвогуле адсутнічае, а таксама выразная нясхільнасць герояў да зносінаў. Трэба адзначыць, што так званы тэатр абсурду (тэрмін уведзены Марцінам Эслінам) не з'яўляецца "самаарганізаванай" літаратурнай плынню. Наадварот, кожны з драматургаў, чыя творчасць разглядаецца ў сувязі з тэатрам абсурду, лічыць сябе адзінокім аутсайдэрам, ізаляваным на ўласным сусвеце. У кожнага з іх свой погляд на форму і змест твора. Аднак існуе і шэраг агульных рысаў. Так, у абсурдысцкай драме "апавед" пра падзеі заменены на яе "паказ", які прадстаўляе сабой мазаіку з абсурдных сітуацый. Мова (якая ў адных выпадках паўстае галоўным, у іншых – другасным сродкам выразнасці) супрацьпастаўляецца дзеянню, яе роля зводзіцца да бессэнсоўнай балбатні, месца разумовай логікі займае паэтычная логіка асацыяцый і асанансаў.

Між тым, для Г. Пінтэра не існуе супярэчнасці паміж імкненнем да рэалізму і абсурднасцю сітуацый, якія натхняюць яго. Падобна Э. Іянеска, ён разглядае жыццё ў яго абсурднасці як штосьці камічнае — да пэўнага моманту. Характэрнай рысай пінтэраўскай драматургіі, па прызнанні ўсіх даследчыкаў яго творчасці, з'яўляецца асаблівая тэхніка мовы, што стала своеасаблівым "брэндам" драматурга.

Для стыля Г. Пінтэра характэрна жорсткая эканомія моўных сродкаў. Гэта эканомія дазваляе, напрыклад, звычайныя дзверы зрабіць крыніцай безыменнага страху і пагрозы проста таму, што герой баіцца ўмяшання знешняга свету; эканомія, якая дазваляе маўкліваму на працягу ўсяго дзеяння персанажу ўвесці гледачоў у шок, калі напрыканцы п'есы ён нечакана пачынае гаварыць; эканомія, якая надзяляе самае збітае клішэ прыхаваным паэтычным сэнсам. Г. Пінтэр мае "абсалютны слых" у дачыненні да абсурднасці штодзённай мовы, гэта дазваляе яму перадаваць любую, нават самую банальную размову ва ўсёй паўнаце яе гучання: з паўторамі, нелагічнасцю або няправільнасцямі. У пінтэраўскім дыялогу сустракаецца эфект затрымкі, які вынікае з розніцы ў хуткасці мыслення розных людзей — тугадум, які ўвесь час адказвае на прадапошняе пытанне субяседніка, супрацьпастаўляецца больш кемліваму візаві, што апярэджвае партнёра на два-тры крокі. Тут можна сустрэць і выпадкі няправільнага тлумачэння словаў; непаразуменні, звязаныя са шматскладовымі словамі, якія выкарыстоўваюць больш адукаваныя героі; памылковыя чаканні, звязаныя з няправільна пачутай або вытлумачанай інфармацыяй.

Адсутнасць інфарматыўнасці і мілагучнасці фраз ні ў якім выпадку не сведчыць пра "нізкую" ролю слоў у п'есах Г. Пінтэра. Драматург толькі імкнецца прыцягнуць увагу да таго факту, што ў рэальным жыцці людзі часта выкарыстоўваюць мову, якая шмат у чым адрозніваецца па форме і функцыях ад сцэнічнага эквіваленту. Штодзённая мова служыць хутчэй для эмацыйных, чым для разумовых стасункаў, і інтанацыя, з якой прамаўляюцца словы, эмацыйная афарбоўка мовы з'яўляюцца больш значнымі фактарамі, чым прамая семантыка фразы.

У традыцыйным тэатры героі звычайна выкарыстоўваюць дыялог, каб зразумець адзін аднаго, а сябе раскрываюць у маналогах. Гэта правіла, аднак, не працуе ў пінтэраўскіх п'есах, дзе і маналог, і дыялог накіраваны толькі на ўтойванне ці зацямненне сэнсу. "Мае героі, — гаворыць парадаксаліст Пінтэр, — маюць зносіны дзеля таго, каб пазбегнуць небяспекі быць зразумелымі". Пінтэраўскія персанажы гананарца тым, што ім нельга даваряць: сумленнасць звычайнага чытача можа стаць перашкодай пры чытанні такога майстра містыфікацыі, як Г. Пінтэр. Аднак аўтар абвяргае сваю ж перакананасць у нядольнасці герояў да камунікацыі: "Я адчуваю, што замест няздольнасці да зносінаў тут прысутнічае свядомае ўхіленне ад іх. Зносіны самі па сабе настолькі страшаць людзей, што яны аддаюць перавагу бясконцым размовам ні пра што, замест таго, каб перайсці да таго, што складае аснову іх узаемаадносін. Увайсці ў чужое жыццё вельмі страшна, але не менш страшна дэманстраваць беднасць сваёй душы іншым".

П'есы Г. Пінтэра, названыя "камедыямі страху", з'яўляюцца, у асноўным, камедыямі хітрасці і недагаворанасці. Глядач павінен быць гатовы да нечаканых паваротаў, супярэчнасцей, цудоўных у сваёй нелагічнасці высноў, якія тояцца ў сумнай і няспешнай размове персанажаў. Трэба сказаць, няма нічога больш тужлівага, чым пінтэраўскія размовы самі па сабе: як і ў Чэхава, галоўнай з'яўляецца рэакцыя, выкліканая размовай. Гэта нагадвае канцэптуальнае мастацтва, дзе ўвага сфакусіравана на рэакцыі на аб'ект, а не на аб'екце непасрэдна.

Тэатр Г. Пінтэра — надзвычай паэтычны тэатр, які намнога больш адпавядае паняццю "паэтычнасці", чым шматслоўныя драмы некаторых яго сучаснікаў. Прызнаючы ўплыў С. Бекета і Ф. Кафкі на сваю творчасць, Пінтэр, засяроджвае ўвагу на чалавеку, які знаходзіцца, так бы мовіць, у апошняй кропцы свайго існавання. Менавіта заклапочанасць праблемай самаідэнтыфікацыі адрозніване Г. Пінтэра ад сучасных драматургаў-рэалістаў. Мы бачым яго герояў у працэсе іх непасрэднага прыстасавання да свету, у той момант, калі ім неабходна зрабіць прынцыповы выбар паміж магчымасцю і немагчымасцю супрацьстаяць рэальнасці.

Гаральд Пінтэр — незвычайны драматург, які патрабуе асаблівага, "выгнутага" чытання. Франсуа Рабле прыпадабняў чытача, які цешыцца тэкстам, да сабакі, які забаўляецца з косткай: ламаць, кусаць, аблізваць — усё гэта дзеля таго, каб дабрацца да сутнасці. Але цвёрдую костку нельга раскрышыць проста так: яна патрабуе тонкага падыходу, які дазваляе наблізіцца да "сакавітага цэнтра". Так і пінтэраўскі чытач павінен быць дастаткова спакушаны, каб трапіць у расколіну паміж выразам і эмоцыяй, формай і зместам — і атрымаць задавальненне ад майстэрства таленавітага драматурга.

**Аксана КАНТАРОВІЧ**


**ЗАХАРАВА, 19**



**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва";**
**e-mail: minsk@lim.by**
***Адрас у Інтэрнэце — www.lim.by***

# Шчырасць, любоў, дабрыня











Пачаткам сталася кніга. Прыгожая кніга — ад шчырага сэрца і з адпаведнай назвай: "Беларусі і Расіі з любоўю". Яна знаёміць з асобай і з творчасцю заслужанага мастака Расіі Аляксея Шалаева. Што незвычайнае адрознівае гэты маляўнічы мастацкі альбом у смарагдавай супервокладцы, выдадзены пры канцы мінулага года ў Мінску накладам 1000 экземпляраў? Тое, што ён стаўся першым сумесным праектам такога кшталту, ажыццёўленым намаганнямі Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Міжнароднага цэнтра інтэграцыйнай інфармацыі грамадскага прэс-цэнтра нашага Дома прэсы. Кіраўнік праекта — першы намеснік міністра інфармацыі РБ Лілія Ананіч.

Альбом "Беларусі і Расіі з любоўю" змяшчае рэпрадукцыі жывапісных палотнаў Аляксея Шалаева, фрагменты карцін, падборку фатаграфій розных гадоў... А на першых старонках — некалькі кароткіх прадмоў, добрых слоў ад вядомых асоб: дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Паўла Барадзіна, старшыні Саюза пісьменнікаў Расіі Валерыя Ганічава, намесніка міністра культуры Беларусі Валерыя Гедройца. У "Слове аўтара" Аляксей Шалаеў разважае над пытаннем, чаму яго, рускага мастака, які нарадзіўся ў Мардовіі, вучыўся і жыве ў Пензе, хвалюе тэма адзінства двух народаў. Ён выказвае сваё захапленне асобай Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, партрэт якога напісаў па фотаздымку ў 1997 г. і тады ж, наведаўшы нашу краіну ў групе журналістаў з Пензы і Саратава і асабіста сустрэўшыся з кіраўніком братняй дзяржавы, падараваў яму гэтую сваю работу. Пад уражаннем ад размовы на тэму ўзаемаразумення і яднання двух народаў і нарадзілася задума альбома, які пісьменнік В. Ганічаў назваў "добрай цаглінкай нашага агульнага расійска-беларускага падмурка".

У 1999 г. у Мінску, у Грамадскім прэс-цэнтры, адбылася яго першая персанальная выстаўка, у 2004-м БТ падрыхтавала вялікую праграму пра творчасць мастака, у 2005-м быў падрыхтаваны і альбом, які ў сваю чаргу паспрыяў новай ідэі Аляксея Шалаева: арганізаваць у Беларусі яшчэ адну выстаўку сваіх работ. Збылося! Прычым, на вернісажы, наладжаным у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, прайшла і своеасаблівая прэзентацыя самога альбома. На адкрыцці выстаўкі выступалі дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі У. Пракапцоў, намеснік дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы С. Шухно, намеснік міністра культуры Беларусі В. Гедройц, народны мастак Расіі С. Харламаў, статс-сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Л. Баранава-Гончанка, намеснік адказнага сакратара Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі В. Барысаў, іншыя афіцыйныя асобы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і праваслаўнага духавенства. Не толькі гаварылася пра унікальнасць новага расійска-беларускага творчага праекта, але і выказвалася ўпэўненасць у тым, што гэта будзе адна з самых яркіх акцый, прымеркаваных да 10-годдзя Саюзнай дзяржавы. Тым болей, што пасля Мінска экспазіцыя работ А.Шалаева пабывае ў Гродне ды Магілёве.

● Народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі падчас вернісажа так сказаў пра свайго калегу: "Гэта мастак з той рускай правінцыі, якая, дзякуй Богу, яшчэ далёкая ад Захаду і шануе каштоўнасці традыцыйнага рэалістычнага мастацтва. Яго творчасць — тая дуэль мастака і натуры, калі перамагае мастак і стварае палатно, вартае сакрэтаў вялікага рамяства. Нязведаныя шляхі авангарда, на якіх могуць ствараюцца шэдэўры, што пацвярджае наша моладзь. Але я з вялікім задавальненнем паглядзеў калекцыю Аляксея Шалаева. У ёй — праўдзівы рускі пейзаж, зроблены гэтак пранікнёна, такія партрэты... У нас гэтак ужо ніхто не піша, мы, як інжынеры, канструіруем свае работы ў майстэрні, мы пазбаўленыя дуэлі мастака і натуры. Пенза слынная традыцыямі сваёй мастацкай школы, і дзякуй Богу, што сёння ў гэтай глыбінцы жывуць і працуюць такія моцныя прафесіяналы".

Выстаўка прадставіла каля чатырох дзесяткаў палотнаў — лепшых работ, паводле якіх можна зразумець мастацкія прыхільнасці аўтара, яго крэда, адчуць яго душу, пераканацца ў майстэрстве. А пагартаўшы яшчэ і альбом (тут работ утрая болей), лёгка параўнаць і ўпэўніцца: як важна пабачыць жывое палатно і якое недакладнае можа быць уражанне, калі ведаць яго толькі паводле рэпрадукцыі.

Паслядоўнік рэалістычнай класічнай школы жывапісу, А. Шалаеў уражвае высокай тэхнікай пісьма, тонкім адчуваннем прыроды, пранікненнем у псіхалогію герояў сваіх карцін. А яшчэ ўражвае духоўнасцю. Настрой кожнага палатна вызначаюць Любоў і Дабрыня, з якімі гэты майстар увасабляе ўпадабаныя краявіды, родныя мясціны, даўніх знаёмых, блізкіх сяброў, сваіх родных і людзей, вядомых усім. Партрэты бацькоў; "Дзяўчына ў блакітным сарафане" (у такім абліччы намалявана жонка мастака Ніна), дзед Андрэй; замілаваны позірк на хацінку цёткі Полі; жывы агонь свечкі (эцюд "У перадвелікодны тыдзень"); выразныя рукі сівабародага старога майстра; святло вачэй манашкі Назарыі; сцежкі ўтравелага "Пензенскага дворыка"; надзьмутыя ад ветру аблокі — "Сажалка. Шэры дзень"; аптыміст-барадач з гармонікам ("Франтавыя песні"); задуменны твар пісьменніка Валянціна Распуціна... Ён піша маляўнічыя вясковыя куткі родных Селішчаў і пісьменніцкага Перадзелкіна, постаці каларытных бабуль і абліччы дзяцей. У яго ёсць партрэты легендарнага Ігара Талькова і мудрага пензенскага доктара з красамоўным прозвішчам — Спасаў...

● "Калі вы стаіце каля гэтых шатаў, ад іх павявае кветкамі: нейкая загадка..." — вымавіў побач са мною незнаёмец, углядаючыся ў ігру-імпрэсію гарэзлівых зіхоткіх блікаў на сакавітай, пранізліва-яркай атласнай зеляніне "Сонечнага дня". Я пагадзілася з ім, а потым у які ўжо раз прыпынілася насупраць някідкай, але выразнай і прыцягальнай карціны "Першыя праталіны". Таксама загадка: яна выклікае па-дзіцячы свежае і радаснае адчуванне талай зеленаватай сакавіцкай вады, пад якой яшчэ лёд, але ў якой растварылася святлінка сонца і паабапал якой на пажухлым снезе пазначыліся вясновыя блакітныя цені навакольных дрэў. А ўглыбіні ледзь заўважным дымам з коміна — вабнае цяпельца чалавечага жытла...

Якая рэдкасная і каштоўная магчымасць ёсць сёння ў заўсёднікаў выставак, асабліва — у прыхільнікаў традыцыйнага рускага жывапісу: адкрыць новае для сябе імя мастака і з прыязнай душою ўвайсці ва ўтульны і чалавечны свет яго карцін!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

***Фота К. Дробава***



ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Анатоль КАЗЛОЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220034, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-66-73**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-66-71**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-81-53**
**паэзіі, літаратурнага жыцця, крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04**
**прозы — 284-66-73**
**музыкі, тэатра, кіно і выяўленчага мастацтва — 284-81-53**
**бухгалтэрыя — 284-66-72**
**Тэл./факс — 284-66-73**

**E-mail: minsk@lim.by**

***Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by***



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79

Індэкс 63856 Наклад 3537
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.03.2006 у 11.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ — 328

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12